КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 12 (333) ◂ 29 сакавіка ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144




**АНДРЭЙ БАНДАРЭНКА**

Стар. 4

**СВАІХ ВЫГАНЯЕМ, ЧУЖЫНЦАЎ ЗАПРАШАЕМ**

У Беларусі востра не хапае спецыялістаў. Запоўніць вакантныя месцы плануецца з дапамогай працоўнай іміграцыі

Стар. 6

**СМЕРЦЬ БЕРАЗОЎСКАГА — ІНСЦЭНІРОЎКА**

Агенты ФСБ, супрацоўнікі казахскіх спецслужбаў, людзі Скотленд-Ярда, чачэнскія мафіёзі, суцянёры... Вось далёка не поўны спіс асобаў, якіх прэса падазрае ў дачыненні да смерці Барыса Беразоўскага

Стар. 29

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**УРОКІ АБАРОНЫ КУРАПАТАЎ**

Нарыс Марата Гаравога

▸ АД РЭДАКТАРА

# БЕЛАРУСЬ ТОНЕ Ў КРЭДЫТАХ

Сяргей ПУЛЬША

**У той час, як Аляксандр Лукашэнка, не атрымаўшы спадзяваны крэдыт у Расіі, ездзіць па свеце ў пошуках грошай, гэтыя грошы чакаюць яго ў Беларусі. Міжнародны валютны фонд, у чарговы раз правёўшы маніторынг эканамічнай сітуацыі ў Беларусі, заявіў аб тым, што гатовы даць чарговы крэдыт уладам. Зразумела, не без умоваў.**




Як паведаміў кіраўнік місіі МВФ, якая ажыццяўляла постпраграмны маніторынг у перыяд з 14 па 25 сакавіка 2013 года ў Мінску, Дэвід Хофман, для пачатку перамоў па новым крэдыце беларускія ўлады павінны выканаць дзве звязаныя паміж сабою ўмовы. Яны не тычацца палітыкі (пра што любяць казаць уладныя выступоўцы) і з'яўляюцца ў пэўным сэнсе стандартнымі для МВФ. Найперш, урад павінен падрыхтаваць праграму мер макраэканамічнай палітыкі, якія забяспечваюць стабільнасць эканомікі, і праграму паглыблення структурных рэформаў эканомікі.

«Для перамоў па новай праграме па-ранейшаму неабходна мець такія абавязацельствы, каб яны выклікалі давер, то бок былі прынятыя на самым высокім узроўні ў дачыненні да комплекснага пакета мер, які мог бы атрымаць дастатковую падтрымку з боку краін — сябраў МВФ», — сказаў Хофман. Ён не хавае, што абавязацельствы — гэта ўзгадненне праграм з Аляксандрам Лукашэнкам і яго адміністрацыяй.

Тым самым Хофман як бы падкрэсліў: МВФ добра ведае, хто ажыццяўляе і хто адказны за эканамічную палітыку Беларусі, і гэта, канешне, не ўрад краіны.

Хофман таксама ўдакладніў, чаго хоча МВФ. «Лібералізацыя коштаў, умацаванне правоў уласнасці, прыватызацыя, рэструктурызацыя дзяржаўных прадпрыемстваў і стварэнне сістэмы адраснай сацыяльнай дапамогі для падтрымкі найбольш неабароненых слаёў насельніцтва застаюцца ключавымі прыярытэтамі рэформ», — заявіў кіраўнік місіі.

Але, як ні дзіўна, гэтыя словы не выклікалі ў Мінску ніякага ажыятажу і пляскату ў далоні, тым больш пасля правалу перамоў па крэдыту ў Санкт-Пецярбурзе. Раней бы прапаганда скарыстала такую магчымасць: у чарговы раз паказаць «вялікаму брату», што ёсць яшчэ каму падтрымліваць Беларусь. Былі б і словы ўдзячнасці МВФ, як у 2010 годзе, калі прэзідэнт на прэс-канферэнцыі расійскім журналістам публічна заявіў, што Беларусь ад крызісу выратавала не Расія, а МВФ, даўшы большы і таннейшы крэдыт. Зараз жа — маўчок, і пра крэдыт МВФ ніхто не кажа, акрамя саміх МВФаўцаў.

У чым жа справа? Няўжо ў Беларусі раптам знікла праблема з грашыма? Не, так проста фінансавыя праблемы не заканчваюцца. Справа ў тым, што Беларусь не можа выканаць нават мінімальныя паказчыкі па МВФаўскім крэдыце.

Дэвід Хофман не здарма згадаў Аляксандра Лукашэнку ў сваім выступе. Ён яшчэ і даў зразумець, што фонд выдатна ведае Лукашэнку як гаспадара свайго слова ў сэнсе «сам даў, сам назад узяў». Там ведаюць, што планы і праграмы можна напісаць якія заўгодна, аднак тое, як яны будуць выконвацца на практыцы — вялікае пытанне. Таму, пэўна, патрабаванні ў тым, каб напісанае выконвалася. А як яно будзе выконвацца, калі мы не здольныя выканаць нават уласную праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця, не кажучы ўжо пра тое, што напісана для МВФ і да таго падобных структур?

Да таго ж, адна справа — ажыццяўляць жорсткую фінансава-эканамічную палітыку (чым з пераменным поспехам, але займаецца Нацбанк), іншая справа — сістэмныя пераўтварэнні. За сістэмныя пераўтварэнні нельга выдаць папулярную зараз мадэрнізацыю, бо такія пераўтварэнні бачныя зараз і адразу. Гэта празрыстая прыватызацыя, гэта ліквідацыя кантролю за коштамі і цэнаўтварэннем, гэта рэформа вытворчых адносін. А ўсё гэта ў сённяшняй Беларусі, збольшага, невыканальнае.

Наадварот, Беларусь у гэтым плане коціцца назад. Якія могуць быць гарантыі прыватнай уласнасці пасля нацыяналізацыі «Спартака» і «Камунаркі»? Якая можа быць прыватызацыя і рэформа вытворчых адносін, калі ў краіне ўведзеная працэдура ўладальніцкага нагляду за прадпрыемствамі і дзейнічае Дэкрэт №9?

Да таго ж, па меркаванні ўрада, у краіне ўсё добра. Напачатку тыдня ўрад даў справаздачу па фінансавым становішчы краіны. «На 1 студзеня 2013 года ніжэй парогавага значэння знаходзіліся ўсе паказчыкі знешнезапазычанай устойлівасці. У прыватнасці, валавы знешні доўг да ВУП склаў 54%, або 34,1 мільярда долараў ЗША (пры парогавым значэнні не больш за 55%); знешні дзяржаўны доўг да ВУП — 19%, або 12 мільярдаў долараў ЗША (пры парогавым значэнні не больш 25%); плацяжы па пагашэнні і абслугоўванні знешняга дзяржаўнага доўгу да валютнай выручкі — 2,9%, або 1,5 мільярда долараў ЗША (пры парогавым значэнні не больш за 10%)», — гаворыцца ў паведамленні на сайце Саўміна краіны.

Але тое, што ў беларускага ўрада стварае ўражанне — «усё добра», у незалежных эканамістаў выклікае жах. Да парогавага значэння знешняга доўгу ў нас застаўся толькі 1%, а мы яшчэ і імкнёмся браць у кагосьці крэдыт! І зусім недарэчным выглядае сцвярджэнне аб «бяспечнай» велічыні знешняга доўгу ў 34,1 мільярда долараў, калі золатавалютныя рэзервы Нацбанка складаюць усяго толькі каля 8 мільярдаў долараў — то бок, у чатыры разы менш, чым мы вінаватыя.

Зрэшты, ёсць прыклад больш просты і зразумелы: на 1 студзеня 2013 года кожны беларус, уключаючы нованароджаных і пенсіянераў, быў вінен знешнім крэдыторам звыш 3,5 тысячы долараў. Сям'я з чатырох чалавек, такім чынам, вінная 14 тысяч долараў. То бок, каб аддаць гэтыя грошы за год, заробак сям'і павінен быць не менш за 1 200 долараў у месяц, і гэта без харчавання і кватрплаты. А наш заробак на аднаго з бацькоў і да 500 не дацягвае...

Застаецца толькі нагадаць, што абслугоўванне і частковае пагашэнне толькі вонкавага дзяржздоўгу абыдзецца краіне ў бягучым годзе ў 3,6 мільярда долараў. Прычым вялікая частка гэтай сумы будзе рэфінансавацца новымі знешнімі запазычаннямі.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ. БЫЛЫ МЭР СКАРДЗІЦЦА ААН

**Былы старшыня Гомельскага гарвыканкама Святлана Гальдадзэ скардзіцца ў Камітэт па правах чалавека ААН на забарону ёй сумесна з праваабаронцамі Анатолем Паплаўным і Леанідам Судаленкам правесці 4 жніўня мінулага года пікет у падтрымку Алеся Бяляцкага.**

«Пікет мы мелі намер правесці ў дзень затрымання Алеся. Масавае мерапрыемства ў нас было запланавана з мэтай звярнуць увагу грамадскасці на праблему палітычных зняволеных, і не толькі Алеся Бяляцкага, якога, як мы лічым, асудзілі незаконна», — гаворыць Святлана Гальдадзэ. Яна адзначыла, што акцыя ў падтрымку Алеся Бяляцкага планавалася як агульнарэспубліканская, якая праводзілася па ініцыятыве праваабаронцаў. Заяўкі на пікеты былі пададзеныя ва ўсіх абласных цэнтрах і іншых гарадах краіны, і паўсюль мірныя сходы грамадзян былі забаронены.

Раённы суд, дзе абскарджвалася забарона, стаў на бок гарвыканкама, а абласны суд зацвердзіў рашэнне раённага. Таксама і Вярхоўны суд, дзе абскарджвалася рашэнне, не задаволіў скаргу. Такім чынам, унутраныя сродкі прававой абароны былі вычарпаны, засталося спадзявацца на міжнародную інстанцыю — Камітэт па правах чалавека ААН.

Святлана Гальдадзэ просіць камітэт устанавіць факт парушэння яе і праваабаронцаў правоў на свабоду правядзення мірных сходаў і свабоду выказвання меркавання з боку дзяржавы і рэкамендаваць беларускаму ўраду прывесці закон «Аб масавых мерапрыемствах», а таксама рашэнне мясцовай улады аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у адпаведнасць з міжнароднымі абавязацельствамі.

### ГРОДНА. АБЛАСНЫ СУД ПЕРАКАНАНЫ Ў ПРАВАМЕРНАСЦІ ШТРАФАЎ

**Гродзенскія праваабаронцы Віктар Сазонаў, Раман Юргель і Уладзімір Хільмановіч атрымалі адказ на сваю скаргу за подпісам старшыні Гродзенскага абласнога суда Аляксандра Грынкевіча.**

Грамадскія актывісты аспрэчвалі рашэнне Ленінскага раённага суда Гродна, які аштрафаваў іх на буйную суму (па паўтара мільёны беларускіх рублёў кожнага) за фотаздымак у інтэрнэце на знак салідарнасці з Алесем Бяляцкім і пастанову Гродзенскага абласнога суда па выніках разгляду касацыйнай скаргі.

Старшыня абласнога суда Аляксандр Грынкевіч прадказальна заняў пазіцыю свайго ведамства. Судовы чыноўнік таксама сцвярджае, што фатаграфаванне праваабаронцаў у Міжнародны дзень правоў чалавека і размяшчэнне фотаздымка ў інтэрнэце было несанкцыянаванай публічнай акцыяй, якая падлягала адміністрацыйнаму пакаранню.

Гродзенскія праваабаронцы лічаць, што было парушана іх права на выказванне меркавання, і ў такой сітуацыі не бачаць іншага выйсця, як толькі звярнуцца ў Камітэт па правах чалавека ААН.

### БЯРОЗА. УЧАСТКОВЫ ЗАПАТРАБАВАЎ ЗНЯЦЬ СЦЯГ З БАЛКОНА



**Журналіст-праваабаронца Тамара Шчапёткіна з Бярозы ў гонар Дня Волі вывесіла на сваім балконе нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг. Рэакцыі з боку міліцыі доўга чакаць не давялося.**

Ранкам да яе завітаў малады чалавек у цывільным. Ён прадставіўся ўчастковым Сяргеем Несцяровічам, хаця пасведчання пры гэтым не паказаў. У кватэру зайсці адмовіўся і спытаў Шчапёткіну, што ў яе вісіць за вакном бел-чырвона-белага колеру.

— А вы што не ведаеце, што гэта такое? — спытала Шчапёткіна.

— Не, — адказаў участковы.

— Беларускі гістарычны сцяг, — патлумачыла жанчына.

— Дык у нас жа чырвона-зялёны...

— Гэта дзяржаўны.

— Я прыйшоў, бо грамадзяне паскардзіліся, што тое, што вісіць у вас за вакном, іх абражае.

— А словы на будынках з трох літар, якія «радуюць» вока гадамі, іх не абражаюць? — спытала Тамара Шчапёткіна.

— Не, да іх яны прывыклі, — адказаў ахоўнік парадку.

— Дык пакажыце заяву гэтых грамадзян.

— Яны стаяць на вуліцы. Вам будзе павестка, прыйдзеце ў міліцыю, — папярэдзіў участковы.

— Чаму вы прымушаеце зняць наш гістарычны сцяг?

— Я не прымушаю. А калі вам будзе павестка ў міліцыю, дык ведайце, па якім пытанні. Больш я вас не затрымліваю, — сказаў участковы Сяргей Несцяровіч, збягаючы ўніз па лесвіцы.

Унізе яго чакалі чацвёра таварышаў таксама ў цывільным.

**Матэрыялы падрыхтаваны па інфармацыі сайта spring96.org**

---

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## БЕЛАРУСЬ У ФОКУСЕ–2012

**Генадзь КЕСНЕР**

**У Мінску 28 сакавіка прайшла прэзентацыя вынікаў Міжнароднага журналісцкага конкурсу «Беларусь у фокусе–2012».**

Конкурс ладзіцца ўжо другі раз. Яго мэта — спрыянне асвятленню беларускай тэматыкі ў міжнародных мас-медыя не толькі падчас выбараў, а таксама павышэнне ўзроўню журналісцкіх стандартаў пры напісанні матэрыялаў пра Беларусь для замежнага чытача.

Конкурс ладзіцца Інфармацыйным бюро салідарнасці з Беларуссю і Press Club Polska пры падтрымцы The Canada Fund. Партнёрамі арганізатараў конкурсу з'яўляюцца Беларуская асацыяцыя журналістаў, інфармацыйнае агенцтва БелаПАН, а таксама Беларускі дом у Варшаве, Офіс за дэмакратычную Беларусь, Ostgruppen, «n-ost», The Network for Reporting on Eastern Europe.

Як паведаміла на прэзентацыі каардынатар праекта Аляксандра Карбі (Вялікабрытанія), на конкурс былі дасланыя 60 артыкулаў ад 36 удзельнікаў з 16 краінаў свету, у тым ліку ЗША, Іспаніі, Літвы, Расіі, Грузіі, Румыніі і нават Інданезіі ды Коста-Рыкі.

У складзе журы былі Палона Фрэліх (Славенія), прафесар Дэвід Марплз (Канада), Олівер Мані-Кайрл (Міжнародная федэрацыя журналістаў, Вялікабрытанія — Бельгія), а таксама Юлія Слуцкая (кіраўнік Інфармацыйнага бюро салідарнасці з Беларуссю).

Па словах Аляксандры Карбі, журы выбірала артыкулы, «якія паказваюць новыя, часам нечаканыя бакі Беларусі». Пасля грунтоўнага абмеркавання журы вызначыла трох лаўрэатаў. Імі сталі Андрэй Дынько (Беларусь), аўтар апублікаванага ў «New York Times» артыкула «Апошняя дыктатура Еўропы», Міхал Патоцкі (Польшча) з артыкулам «На скрыжаванні падваення асобы», надрукаваным у «Dziennik Gazeta Prawna», а таксама Ларан Вінацье (Францыя), які з'яўляецца аўтарам публікацыі «Гісторыя поспеху дыктатуры» ў «The Global Journal».

Італьянка Сара Бінкерыні стала лаўрэатам прэміі «Выбар чытача» за артыкул «Вось чаму мы збеглі з Беларусі, апошняй дыктатуры Еўропы», апублікаваны ў выданні «Io donna».

«На жаль, інтарэс да Беларусі па-за межамі зараз не павялічваецца, мы ўжо вельмі шмат гадоў — краіна без навінаў, у якой мала што змяняецца. Таму гэты конкурс вельмі і вельмі істотны ў сэнсе заахвочвання, зацікаўлення журналістаў ва ўсім свеце, каб Беларусь усё ж прысутнічала на старонках замежных выданняў», — адзначыў пры канцы прэзентацыі намеснік старшыні БАЖ Аляксандр Старыкевіч і выказаў спадзяванне, што на наступныя конкурсы публікацыяў пра нашу краіну будзе прыходзіць усё больш і больш.

---

ПРАЕКТ

## МІНСКАЕ ЗАМЧЫШЧА Ў ГРАМАДСКАЙ ВЕРСІІ

**Марат ГАРАВЫ**

**26 сакавіка ў Мінску адбылася прэзентацыя грамадскага эскізнага праекта аднаўлення жылой і грамадзянскай забудовы Нізкага і Мяснога рынкаў Мінскага замчышча XII стагоддзя ў гістарычным цэнтры Мінска (ГЦМ).**

Праект распрацавалі сябры архітэктурнай секцыі Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры (БДТАПГК) Антось Вантух, Андрусь Лары і Юрась Мацяш. Як адзначыў старшыня таварыства Антон Астаповіч, грамадскасць з 2010 года працуе над гэтым праектам, падрыхтаваным на аснове комплексных навуковых даследаванняў:

— Сярод прапаноў таварыства — карэкціроўка трасы валоў замчышча і яго планіроўкі, а таксама неабходнасць разгляду варыянтаў адраджэння аб'ёмна-планіровачанай структуры Ніжняга і Мяснога рынкаў на сярэдзіну XIX — пачатак XX стагоддзяў са страчанай забудовай паміж гэтымі архітэктурнымі комплексамі. Акрамя таго, грамадскасць прапанавала ўзнавіць першы Мінскі праваслаўны храм менавіта на яго старажытных падмурках. Разам з тым, таварыства пагадзілася з прапановай «Мінкпраекта» па аднаўленні драўлянай брамы на месцы яе гістарычнага існавання. Грамадская назіральная камісія па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Мінкультуры рэкамендавала разглядзець распрацоўкі таварыства на пасяджэнні Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны Мінкультуры, а таксама прапанавала гарадскім уладам вынесці на грамадскае абмеркаванне праект музеефікацыі замчышча «Мінскпраекту» з карэктывамі БДТАПГК. Аднак гэтага не адбылося не па нашай віне.

У лютым 2013 года таварыства звярнулася са сваім эскізным праектам гістарычнай рэканструкцыі Нізкага і Мяснога рынкаў у «Мінскую спадчыну», Мінгарвыканкам і Мінкультуры, аднак зноў беспаспяхова. Мінгарвыканкам назваў прапановы таварыства навукова не абгрунтаванымі, а Мінкультуры ў сваім лісце выказала шэраг прэтэнзіяў.

З запрошаных на прэзентацыю чыноўнікаў з'явіўся толькі начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Мінкультуры Ігар Чарняўскі. Ён пацвердзіў пазіцыю Мінкультуры, выкладзеную ў лісце да БДТАПГК, разам з тым назваў праект таварыства «цікавым», выказаў неабходнасць яго далейшай прапрацоўкі, абмеркавання і папулярызацыі на розных узроўнях.

---

ЗАЯЎКА

## «ГЕЙБЕЛАРУСЬ» ЗБІРАЕЦЦА ПІКЕТАВАЦЬ

**У Мінгарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне пікета ля Амбасады Французскай Рэспублікі ў падтрымку легалізацыі аднаполых шлюбаў у гэтай краіне і ў падтрымку канцэрта Мілен Фармер у Мінску.**

Плануецца правядзенне 12 адзіночных пікетаў «Свабода! Роўнасць! Братэрства!» па 5 хвілін на працягу гадзіны за 50 метраў ад уваходу ў Амбасаду Французскай Рэспублікі ў Мінску. Меркаваны пікет запланаваны на 24 красавіка, менавіта ў гэты дзень адзначаецца Міжнародны дзень салідарнасці моладзі. Такім чынам, актывісты праваабарончага праекта «ГейБеларусь» хочуць падтрымаць легалізацыю аднаполых шлюбаў і ўсынаўленне дзяцей аднаполымі сем'ямі ў Французскай Рэспубліцы, а таксама падтрымаць канцэрт гей-іконы Францыі спявачкі Мілэн Фармер, які адбудзецца ў кастрычніку ў «Мінск–Арэне».

У лютым дэпутаты Нацыянальнага сходу Францыі ўхвалілі тэкст закона аб легалізацыі шлюбу для ўсіх. Тым самым Нацыянальная асамблея Францыі ўхваліла легалізацыю аднаполых шлюбаў з правам усынаўлення дзяцей аднаполымі парамі. 329 дэпутатаў прагаласавалі за законапраект, 229 былі супраць, і 10 устрымаліся. Легалізацыя аднаполых шлюбаў у Францыі была перадвыбарчым абяцаннем прэзідэнта гэтай краіны Франсуа Аланда.

«Сваёй акцыяй мы хочам паказаць, што падтрымліваем тыя змены, якія адбываюцца ў Еўрапейскім саюзе, у Францыі. Мы вельмі рады за французскіх геяў і лесбіянак, якія нарэшце атрымаюць паўнавартаснае прызнанне сваіх сем'яў. У Беларусі ЛГБТ-супольнасць не мае і блізка тых свабодаў і правоў, што мае ЛГБТ-супольнасць у Францыі, але мы шчыра рады за нашых еўрапейскіх братоў і сясцёр. Дый тое, што Мілен Фармер выступіць у Мінску — гэта таксама вялікая культурная падзея, а для нас яна яшчэ прыкметная і тым, што спадарыня Фармер — паслядоўная прыхільніца раўнапраўя для ЛГБТ-людзей», — пракаментаваў запланаваны на 24 красавіка пікет лідар «ГейБеларусі» Сяргей Андросенка.

**Паводле прэс-рэлізу GayBelarus.By**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# КРЫЗІС ВІНАВАТЫ!

Сяргей САЛАЎЁЎ




**Мы думалі, што праблемы Кіпра, і ўвогуле еўрапейскай эканомікі, нас непакоіць не павінны. Аднак сусветны крызіс дабраўся і да нас — на тое ён і сусветны. Хто б мог падумаць, што эканоміка Кіпра наўпрост звязаная з беларускай?**

Наўпрост, канешне, не. Кіпр, наколькі вядома, не з'яўляецца пакупнікам прадукцыі беларускай прамысловасці. Такім пакупніком не з'яўляецца і ўвесь рынак еўразоны. Аднак ва ўрадзе мяркуюць інакш. Прычынай рэзка росту складскіх запасаў на прамысловых прадпрыемствах РБ з'яўляецца сусветны фінансавы крызіс, заявіў намеснік міністра прамысловасці Іван Дземідовіч.

За два месяцы бягучага года складскія запасы ў прамысловасці выраслі на 33,8% і на 1 сакавіка 2013 года складалі 75,2% сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці. «Гэтыя запасы носяць сезонны характар. У пэўнай ступені на гэта таксама ўплывае сусветны фінансавы крызіс», — заявіў Дземідовіч. Беларуская эканоміка, тым не менш, спрабуе вырвацца з кіпцюроў гэтай пачвары.

«Мы правялі шэраг сур'ёзных сустрэч, каб былі вырашаныя гэтыя пытанні. Ужо сёння пачынаецца сезонная пастаўка тэхнікі, у першую чаргу, гэта трактары, прычапная, навясная тэхніка», — сказаў намеснік міністра, не ўдакладніўшы, што ў Мінпраме маюць намер рабіць з сусветным фінансавым крызісам.

Пэўна, на крызіс мы будзем спісваць зараз усе нашы праблемы. Прыкладам, хто вінаваты ў тым, што ўсё даражэе? Зразумела, сусветны фінансавы крызіс. Напрыклад, улады Мінска хацелі б у 2013 годзе павысіць кошт праезду ў грамадскім транспарце да 2300 рублёў (у цяперашні час — 1700 рублёў за паездку). Павышэнне плануецца ў два этапы: да 2000 рублёў, а затым да 2300 рублёў. Прычым першае павышэнне транспартнікі Мінска абяцалі ўжо ў 1-м квартале, да канца якога застаецца менш за тыдзень, але рашэнне да гэтага часу не прынята.

**Вінаваты ў нашых праблемах не толькі Кіпр. Вінаватая яшчэ і Расія. Ну хто б мог падумаць, што яна не дасць нам крэдыт у два мільярды долараў?**

«Аб тэрмінах пакуль не магу нічога сказаць, усё залежыць ад таго, калі ўзгодніць і ці ўзгодніць павышэнне Мінэканомікі. Запланавана два павышэнні ў гэтым годзе», — сказаў прадстаўнік дзяржпрадпрыемства «Сталічны транспарт і сувязь» Аляксей Касінскі.

Зразумела, гэта крызіс вінаваты. Таксама крызіс вінаваты ў тым, што, паводле дадзеных Белстата, у канцы 2012 года ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў стаяла 813 600 грамадзян ці сем'яў. За год чарга, канешне, скарацілася на 35 600 чалавек. Але гэта здарылася шмат у чым дзякуючы змене крытэрыяў пастаноўкі на ўлік і пераправеркі чаргі.

Кожны пяты са спісу (165 тысяч чалавек) стаіць у чарзе больш за 10 гадоў. Вось табе і сацыяльная дзяржава.

Вінаваты ў нашых праблемах не толькі Кіпр. Вінаватая яшчэ і Расія. Ну хто б мог падумаць, што яна не дасць нам крэдыт у два мільярды долараў? Можа, і ёй перашкодзіў эканамічны крызіс? Бо яна найперш залежная ад эканомікі Кіпра — у тым афшоры завісла шмат расійскіх грошай. Але, насамрэч, не.

Па-першае, Расія рэструктурызуе вылдадзены Кіпру ў 2011 годзе крэдыт на суму 2,5 мільярда долараў, гаворыцца ў распараджэнні прэзідэнта РФ Уладзіміра Пуціна, якое апублікавана на сайце Крамля. Умовы рэструктурызацыі прадугледжваюць пралангацыю расійскага крэдыту на пяць гадоў і зніжэнне яго стаўкі з 4,5% да 2,5% гадавых. Па-другое, у Дзяржкуму Расіі на ратыфікацыю ўнесена пагадненне аб урэгуляванні запазычанасці Кіргізіі перад Расіяй у суме каля паўмільярда долараў. Пры гэтым запазычанасць да 2005 года будзе спісана адначасова і цалкам, а на рэшту доўгу не будуць налічацца працэнты. Што тычыцца доўгу па дамове ад 2009 года, то ён павінен быць спісаны роўнымі часткамі на працягу 10 гадоў, пачынаючы з 16 сакавіка 2016 года.

Раней такія спісанні даўгоў былі толькі ў дачыненні да братэрскай Беларусі. Зараз прыярытэтам стала Кіргізія. То бок, грошы ў Расіі ёсць, а жадання нам дапамагчы няма. Вось табе і «братняя Расія»!

А для тых, хто не верыць, што нас падставіў сусветны крызіс, а кажа, нібыта мы самі ва ўсім вінаватыя, мы пачынаем распрацоўваць новыя метады ўздзеяння. Ці, дакладней, вяртаемся да старых. Пленум Вярхоўнага суда Беларусі ўпершыню абмеркаваў практыку разгляду судамі пытанняў, звязаных з прымяненнем прымусовых мер бяспекі і лячэння ў крымінальным судаводстве.

«Прымусовыя меры бяспекі і лячэння — гэта мера крымінальна-прававога ўздзеяння, якая не з'яўляецца крымінальным пакараннем. Гаворка ідзе аб сістэме псіхатэрапеўтычных, медыка-прафілактычных і медыка-рэабілітацыйных, а таксама медыцынскіх мер па нагляду за тымі, хто пакутуе на псіхічнае расстройства (захворванне) і пазбаўлены магчымасці ўсведамляць значэнне сваіх дзеянняў або кіраваць імі. Яшчэ адна ўмова для прымянення згаданых мер — чалавек па характары здзейсненага ім і сваім псіхічным стане ўяўляе небяспеку для грамадства», — тлумачыць Вярхоўны суд.

У залежнасці ад характару захворвання і ступені небяспекі здзейсненага, суд можа ўжыць прымусовае амбулаторнае назіранне і лячэнне ва ўрача-спецыяліста, а таксама прымусовае лячэнне ў псіхіятрычным стацыянары са звычайным, узмоцненым або строгім наглядам. Адна з мэтаў такіх мер — папярэдзіць новыя грамадска небяспечныя дзеянні.

Канешне, упор у паведамленні робіцца на тых, хто пакутуе на хранічны алкагалізм, наркаманію, таксікаманію. Але вяртанне да інструмента, які ў часы СССР актыўна ўжываўся супраць «палітычных», насцярожвае. Насцярожвае і тое, што кожны па-свойму разумее, што такое «небяспека для грамадства». Калі я не бачу ў рэальнасці таго, што паказвае БТ, — гэта расстройства псіхікі альбо, наадварот, паказчык здароўя?

Што тычыцца алкаголікаў, з імі ўсё зразумела. А вось для тых, хто ўжывае «правільныя» напоі, ёсць кепская навіна. Беларускі дзяржаўны інстытут метралогіі прыпыніў дзеянне сертыфікатаў адпаведнасці на малдаўскія віна вытворчасці СП «Vinia Traian» АТ.

Падставай з'явілася адмова вытворцы аплачваць інспекцыйны кантроль БелДІМ. Іншымі словамі, прыпыненне дзеяння сертыфікату адбылося не па прычыне выяўлення віна дрэннай якасці або небяспечнага для здароўя, а з-за адмовы вытворцы плаціць за правядзенне экспертызы віна, якое пастаўляецца ў краіну. Па якой прычыне СП «Vinia Traian» АТ адмовілася плаціць, пакуль не ясна. Аднак прыпыненне дзеяння сертыфікату аўтаматычна цягне за сабой забарону на рэалізацыю прадукцыі вытворцы на тэрыторыі Беларусі.

Зноў крызіс вінаваты?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ІГАР АЛІНЕВІЧ



Як паведамляе сайт Anarcho-News, з друку днямі выйшла кніга палітвязня Ігара Аліневіча «Еду ў Магадан».

Кніга выдадзена на аснове дзённіка, напісанага ім у следчым ізалятары КДБ «Амерыканка». Сукамернікамі Аліневіча былі следчыя, бізнэсмэны, кандыдаты ў дэпутаты, удзельнікі пратэстных акцый пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года і многія іншыя, хто апынуўся ў турме ў выніку бязмежжа міліцыі, барацьбы сілавых структур між сабой і прыходу да ўлады Лукашэнкі.

Кнігу выпусціла выдавецтва «Радыкальная тэорыя і практыка». У яе ўвайшоў не толькі дзённік, але і артыкулы Аліневіча, у якіх ён разважае аб становішчы ў сучаснай Беларусі, сістэме правасуддзя, палітвязняў і анархічнага руху. Дзённік Аліневіча ў перакладзе на беларускую мову друкаваў НЧ.

Ігар Аліневіч за шэраг мірных акцый быў асуджаны 27 траўня 2011 года судом Заводскага раёна Мінска па ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства), ч. 2 і ч. 3 арт. 218 КК (пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам і ў асабліва буйным памеры) да 8 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №10 у Наваполацку.

### ЯЎГЕН ПОЛУДЗЕНЬ



Былы намеснік міністра ўнутраных спраў Беларусі — начальнік міліцыі грамадскай бяспекі Яўген Полудзень асуджаны да трох з паловай гадоў зняволення. Такі прысуд абвешчаны ў Беларускім ваенным судзе 25 сакавіка. Працэс па справе былога высокага чыноўніка МУС праходзіў у закрытым рэжыме.

Яўген Полудзень абвінавачваўся ў злоўжыванні ўладай, перавышэнні ўлады і атрыманні хабару. Дзеянні былога намесніка кіраўніка МУС кваліфікаваныя па ч. 3 арт. 424 КК (злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі), ч. 2 і 3 арт. 426 КК (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў асобай, якая займае адказнае становішча) і ч. 3 арт. 430 КК (атрыманне хабару).

Высокі міліцэйскі чын быў затрыманы 8 снежня 2011 года. Праз тыдзень яму прад'явілі абвінавачванне па ч. 3 арт. 424 КК (злоўжыванне ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі). У лютым 2012 года ў дачыненні да Полудня была заведзеная другая крымінальная справа — па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 426 КК (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў асобай, якая займае адказнае становішча). Абедзве справы аб'яднаі ў адну вытворчасць. Следства ўстанавіла, што Полудзень сістэматычна на працягу доўгага перыяду атрымліваў ад службовых асоб органаў унутраных спраў матэрыяльныя каштоўнасці і грашовыя сродкі.

Гэты прысуд выклікаў шмат пытанняў. Першае з іх: як міліцэйскі начальнік «на працягу доўгага перыяду» мог злоўжываць сваімі паўнамоцтвамі і браць хабар так, каб гэта засталося незаўважаным?

### МАКСІМ МІРНЫ



Беларускі тэнісіст Максім Мірны атрымаў чарговую ўзнагароду. Але гэтым разам, хутчэй, ганаровую, чым спартыўную. У рамках 39-й Штогадовай генеральнай канферэнцыі Еўрапейскай тэніснай федэрацыі, якая прайшла 22 і 23 сакавіка ў Таліне (Эстонія), Мірны быў узнагароджаны прэстыжнай прэміяй Tennis Europe Award.

Гэтай узнагародай Еўрапейская федэрацыя тэніса адзначае выдатных спартсменаў, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё і папулярызацыю тэніса не толькі ў сваёй краіне, але і па ўсёй Еўропе.

Узнагароду для Максіма Мірнага з рук прэзідэнта Tennis Europe Жака Дзюпрэ прыняў выканаўчы дырэктар Беларускай тэніснай федэрацыі Ігар Кузьмін. Узнагарода ў дадзены момант знаходзіцца ў офісе Беларускай федэрацыі тэніса ў Мінску і ў самы бліжэйшы час будзе перададзеная Мірнаму.

На канферэнцыі таксама былі адзначаны поспехі яшчэ адной беларускай тэнісісткі Ірыны Шымановіч, якая завяршыла 2012 год на першым радку Еўрапейскага рэйтынгу сярод дзяўчат да 16 гадоў. Ёй былі ўручаны залаты медаль і спецыяльны дыплом, якія таксама будуць перададзены ёй па яе вяртанні з міжнароднага турніру ў Турцыі.

ТРЭЦІ СЕКТАР

# АНДРЭЙ БАНДАРЭНКА

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Шчыра кажучы, калі пасля вызвалення Андрэй Бандарэнка заявіў, што працягне займацца палітыкай, якая і стала прычынай турэмнага пераследу, я здзівіўся. Але здзівіўся непараўнальна больш, калі ён праз суд здолеў адваяваць маральную кампенсацыю за ранейшы несправядлівы прысуд. А потым я зразумеў, што, па вялікім рахунку, здзіўляцца тут няма чаму, бо так насам рэч і павінна быць — перамогі дасягае толькі той, хто змагаецца.**




## Першыя перамогі

Нарадзіўся Андрэй 14 красавіка 1973 года ў Ваўкавыску. Маці, Тамара Сцяпанаўна, родам з Чырвонай Слабады Салігорскага раёна, бацька, Валеры Рыгоравіч, — з вёскі Паўлавічы Кіраўскага раёна. Абодва з галіны фізічнай культуры. Бацька закончыў сталічны Інстытут фізкультуры, а маці — Гродзенскі тэхнікум гэтага ж профілю.

Праз год пасля нараджэння Андрэя сям'я пераехала ў Бабруйск (да яго бабулі з дзядулем) і пражыла там пяць гадоў. Потым быў Кіраўск, дзе будучы праваабаронца і закончыў СШ №1. У 1990 годзе ён паступіў у Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Спецыялізацыя — французская і нямецкая мовы. Некалькі гадоў пасля заканчэння інстытута працаваў перакладчыкам у Міністэрстве спорту і турызму, а потым перайшоў карэспандэнтам у газету «Спартыўная панарама».

Напэўна, журналістыка магла б стаць справай жыцця, але сярод першых артыкулаў былі два, якія вельмі моцна не спадабаліся профільнаму міністэрству, — «Па вушы ў турызме» і «НОКаўт». Кіраўніцтва газеты, каб вывесці журналіста-пачаткоўца з-пад удару высокага начальства, прапанавала яму перайсці на пасаду камерцыйнага дырэктара «Спартыўнай панарамы».

І ўжо адсюль ён «пайшоў у бізнэс». Спачатку працаваў у чужой камерцыйнай фірме. Потым адкрыў сваю. «Белвысотбуд» займаўся пастаўкамі адпаведнага будаўнічага абсталявання, а створаная паралельна «Белвысотбудгруп» яшчэ і непасрэдна вытворчасцю і будаўніцтвам.

У 2008 годзе Андрэй Бандарэнка вырашыў балатавацца на парламенцкіх выбарах. Паколькі гэта, мякка кажучы, не спадабалася ўладам, у яго пачаліся праблемы, якія ў будучым зробяць з Андрэя вядомага абаронцу правоў асуджаных.

## Абмежаваная радасць

Андрэя Бандарэнку арыштавалі 22 мая 2009 года і абвінавацілі па ч. 4 арт. 204 (крадзеж з выкарыстоўваннем службовых паўнамоцтваў). За што і прысудзілі да сямі гадоў пазбаўлення волі з накіраваннем у калонію ўзмоцненага рэжыму.

У лістападзе гэтага ж года прысуд быў адменены касацыйным Мінскім гарадскім судом, і справу накіравалі на новы разгляд.

Першамайскі суд сталіцы «крадзеж» памяняў на «махлярства», артыкул КК №204 — на артыкул №209 і з дзіўнай фармулёўкай — «*в неустановленное время в неустановленном месте получил неустановленную сумму денег от неустановленного лица*» — ад свайго першага прысуду адняў год.

Нармальная рэакцыя нармальнага чалавека на такую казуістыку: «Не можа быць». У сучаснай Беларусі — можа. І ведае гэта не толькі Андрэй Бандарэнка. У снежні 2010 года на гэты неверагодны прысуд мусіў зрэагаваць Вярхоўны суд: вынес пратэст і накіраваў справу на новы разгляд. Нарэшце, 22 сакавіка 2011 года Мінскі гарадскі суд цалкам апраўдаў Андрэя і адпусціў яго на волю. Праз год і дзесяць месяцаў пасля арышту.

Генеральная пракуратура яшчэ спрабавала абскардзіць гэта рашэнне, бо прызнаваць, што за кратамі ў нас знаходзяцца нявінныя людзі, праваахоўныя органы, мякка кажучы, не прывучаныя, але Вярхоўны суд адмовіў. Што таксама нечакана для нашых часоў...

Напэўна, такому развіццю падзей трэба толькі радавацца, але не дае спакою думка: а як быць з тымі, каму не пашанцавала так, як герою гэтага нарыса?

## Нараджэнне «Платформы»

Менавіта для адказу на пытанне, як быць з тымі, каму не пашанцавала, «Платформа» і нарадзілася. Андрэй пасля вызвалення скіраваў усю сваю энергію на стварэнне грамадскай арганізацыі, якой далі назву Інфармацыйна-асветніцкая ўстанова (ІАУ) «Платформа».

Канцэпцыя такой арганізацыі выкрышталізоўвалася ў яго ў папраўчай калоніі №2 Бабруйска. Той самай, дзе сёння адбывае пакаранне вядомы праваабаронца Алесь Бяляцкі.

Калі ўлічыць, што нават айчыннае правасуддзе нарэшце прызнала справу Андрэя Бандарэнкі незаконнай, цалкам лагічна спытацца: хто за ўсё будзе адказваць? І цалкам лагічны адказ — беларуская дзяржава. Гэта настолькі відавочна, што апошняй нават давялося пагадзіцца на пэўную кампенсацыю. У жніўні мінулага года было прынята адпаведнае судовае рашэнне.

Міністэрства фінансаў РБ «маёмасныя страты» ацаніла ў 60 мільёнаў беларускіх рублёў (столькі абышліся паслугі адвакатаў) і выплаціла гэтую частку амаль без праблем. А вось наконт кампенсацыі маральных страт праблемы пачаліся адразу ж.

Першапачаткова маральную шкоду ацанілі (суд Кастрычніцкага раёна Мінска) у 120 мільёнаў беларускіх рублёў, але пасля ўмяшання Вярхоўнага суда яе зменшылі да 100 мільёнаў. З моманту прыняцця такога судовага рашэння ўжо прайшло пяць месяцаў, але беларускае міністэрства фінансаў не спяшаецца выплачваць грошы. І асабіста я не здзіўлюся, калі Андрэй Бандарэнка не ўбачыць іх увогуле.

Аднак вернемся да «Платформы».

Не раз даводзілася чуць пра тое, што беларуская ўлада сама штурхае людзей у апазіцыю. Так адбылося і з Андрэем Бандарэнкам. Мажліва, каб не асабісты досвед і каб адразу пасля вызвалення яго не папярэдзілі, што любыя спробы займацца бізнэсам скончацца новай турмой, і настойліва не параілі б бегчы з роднай краіны, сёння б мы не ведалі праваабаронцу, які так заўзята змагаецца з беларускай пенітэнцыярнай сістэмай.

Яе сутнасць ён спазнаў на ўласным досведзе. Калі сутыкаешся з нечым падобным, то цяжка пазбегнуць адчування мэтанакіраванага імкнення ўлады маральна (і фізічна) прынізіць сваіх апанентаў. І палітычных, і ўсіх астатніх. Апошніх, дарэчы, значна больш.

Для абароны менавіта правоў «простых» (нікому не вядомых) асуджаных і стваралася «Платформа». І няма нічога дзіўнага, што зараз усе спробы афіцыйна зарэгістраваць арганізацыю не мелі поспеху. Па розных надуманых прычынах Бандарэнку адмаўлялі. Даходзіла нават да відавочнага абсурду.

Калі адкрытым тэкстам сказалі, што шансаў на афіцыйную рэгістрацыю няма, Андрэй (дзеля смеху) падаў на рэгістрацыю структуры, назва якой цалкам адпавядала яго пашпартным дадзеным. Улады гэты гумар не прасяклі і адказалі, што арганізацыя з такой назвай ужо ёсць.

І ўсё ж з дапамогай сяброў (з іншых галін дзейнасці) зарэгістраваць арганізацыю Андрэю ўдалося. Так у чэрвені 2011 года з'явілася ІАУ «Платформа». Самая маладая праваабарончая структура, але далёка не самая бяскрыўдная, бо яе кіраўнік, як кажуць, ведае праблемы знутры.

## Барацьба за «Платформу»

Калі казаць вельмі паліткарэктна, уладам не прыйшлася да спадобы дзейнасць новай установы літаральна з самых першых яе крокаў. Што і нядзіўна, бо прававое бязмежжа, да катаванняў уключна, якое творыцца ў міліцэйскіх пастарунках, калоніях і турмах, да гэтага практычна не трапляла ў фокус грамадскай увагі. У сферу публічнасці яго вывела «Платформа».

А «першымі ластаўкамі» сталі здзекі ў Глыбоцкай калоніі (ІК–13) і ІК–5 горада Івацэвічы (не блытаць з «Воўчымі норамі»).

Можна назваць яшчэ шмат канкрэтных прыкладаў паспяховай дзейнасці, але, на мой погляд, паказальнай у гэтым сэнсе можна лічыць і рэакцыю афіцыйных структур. Гаворачы моладзевым слэнгам, «Платформу» пачалі літаральна «гнабіць». Яе супрацоўнікаў неаднаразова затрымлівалі міліцыянты, на аднаго нават распачалі крымінальную справу, а намесніка кіраўніка юрыстку Алёну Красоўскую-Каспяровіч брутальна скралі, і трое сутак ніхто не ведаў, дзе яна знаходзіцца. Праз гэтыя страшныя трое сутак вывезлі і выкінулі з машыны ў чыстым полі. Самога ж Андрэя Бандарэнку на некалькі месяцаў зрабілі «невыязным», паставілі на прафілактычны ўлік у КДБ. У яго неаднаразова забіралі кампутары.

Пра тое, колькі разоў над ім вісела сякера арышту і крымінальнага пераследу, сказаць нешта новае вельмі цяжка, бо гэта не адночы станавілася галоўнымі навінамі ўсіх СМІ. Дадам толькі тое, што ў момант, калі я працаваў над гэтым артыкулам, лідскія міліцыянты, чые здзекі з людзей зрабіла вядомымі грамадскасці менавіта «Платформа», настойліва шукалі яе кіраўніка і пагражалі ў чарговы раз яго засудзіць.

Што ж тычыцца самой ІАУ «Платформа», то беларускае міністэрства юстыцыі закрыла яе па прычыне, якая ў шмат каго выклікае сумную ўсмешку. Афіцыйнай зачэпкай стала тое, што структура не знаходзіцца па месцы афіцыйнай рэгістрацыі, то бок у офісе Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Чыноўнікаў не пераканала нават тое, што частка сяброў «Платформы» (уключна з Бандарэнкам) з'яўляюцца чальцамі АГП.

Па зразумелых (у тым ліку і для праваабаронцаў) прычынах усе спробы юрыдычна абскардзіць гэтае рашэнне былі безвыніковымі. Таму ў гэты ж час была зарэгістравана новая структура. Так у кастрычніку 2012 года паўстала прыватная культурна-асветніцкая ўстанова «Платформа Innovashion».

## «Платформа Innovashion»

З гэтай назвай праваабаронцы зараз і працуюць. Прычым даволі эфектыўна, аб чым красамоўна сведчыць «лідская гісторыя», бо людзі ведаюць: каб не «Платформа Innovashion», катаванні так бы і засталіся нікому не вядомымі.

І ўвогуле, з'яўленне структуры, якой можна верыць у выкананні «пракурорскіх функцый» (да іх сёння ёсць шмат пытанняў), стала для айчыннага грамадства без перабольшвання ледзь не адзіным арыенцірам у пошуках праўды. Яе аўтарытэт рос так імкліва, што часам здавалася, быццам бы нехта наўмысна перашкаджае дзяржаве рэальна дапамагаць людзям...

Менш чым за два гады дзейнасці колькасць супрацоўнікаў па ўсёй краіне дасягнула дзвюх соцень, што для незалежнай структуры зусім не мала. Значная частка — прафесійныя юрысты. За гэты час удалося дабіцца, каб людзей перасталі збіваць непасрэдна ў калоніях. Дзякуючы іх непасрэднай падтрымцы, амаль дзесяць чалавек вызваліся з месцаў зняволення, шмат каго ўдалося абараніць ад добра вядомага «міліцэйскага бязмежжа».

На дадзены момант у рабоце каля сарака судовых прыгавораў і яшчэ столькі ж скаргаў на дзеянні міліцыянтаў. Плюс — новы накірунак працы — скаргі па розных гаспадарчых пытаннях.

Але ўсё гэта, як кажуць, звычайная статыстыка, за якой часам цяжка разгледзець канкрэтныя чалавечыя лёсы. А яны ўсе не менш цікавыя, чым лёс самога Андрэя Бандарэнкі. Без сумневу, гэты таленавіты чалавек мог адбыцца і дасягнуць высокіх вынікаў у любой сферы дзейнасці (журналіст, менеджар, бізнэсмэн), але паўсюль ён нарываўся на супрацьдзеянне сістэмы. Пачуццё ўласнай чалавечай годнасці не дазваляла яму ісці на беспрынцыповае прыстасаванства, а абвострanae пачуццё справядлівасці штурхала на барацьбу ў абарону сваіх і чужых правоў.

ГЕАПАЛІТЫКА

# ІДЗЕМ ТУДЫ, ДЗЕ НАС ЯШЧЭ НЕ ВЕДАЮЦЬ

Сяргей ПУЛЬША

**Аляксандр Лукашэнка прываблівае інвестараў па ўсім свеце. Наведаўшы Інданезію і Сінгапур, ён скіраваўся ў Арабскія Эміраты. І, як звычайна бывае, мы даведаліся пра яшчэ аднаго нашага галоўнага сябра. Па словах Лукашэнкі, менавіта Аб'яднаныя Арабскія Эміраты — галоўны гандлёвы партнёр нашай рэспублікі сярод арабскіх дзяржаў Персідскай затокі.**

Па словах Лукашэнкі, у двух краін узаемадапаўняльныя, не канкуруючыя адзін з адным эканомікі. «Мы бачым вялікае поле дзейнасці для нашых кампаній у Эміратах і велізарныя сферы прыкладання для вас у Беларусі. Таму, калі мы тут сустракаемся, калі гэта выгадна і цікава, мы не павінны губляць час, мы павінны супрацоўнічаць», — адзначыў ён.

«Нас задавальняе, што Эміраты ніколі нам не высоўвалі ніякіх папярэдніх умоў для супрацоўніцтва. Тым больш мы не маем намер абумоўліваць наша супрацоўніцтва нейкімі палітычнымі ўмовамі», — заявіў прэзідэнт Беларусі.

Ён падкрэсліў, што імкненне Беларусі развіваць адносіны з ААЭ — свядомы выбар і жаданне будаваць паўнавартаснае ўзаемадзеянне з дружалюбнай дзяржавай. «Мы адчуваем аналагічны падыход і з эмірацкага боку», — сказаў кіраўнік беларускай дзяржавы.

Пра што-што, а пра эканамічнае супрацоўніцтва лепш бы прэзідэнт Беларусі памаўчаў. Гэта ўжо не першы візіт Лукашэнкі ў Эміраты: ён там быў у 2000 і 2007 гадах. Але, як кажа міжнародны аглядальнік Андрэй Фёдараў, з ААЭ мы спрабуем наладзіць узаемавыгаднае супрацоўніцтва гадоў пятнаццаць, але нашы жаданні не супадаюць з нашымі магчымасцямі. Бо ў нас амаль няма таго, чым могуць зацікавіцца Эміраты. Ім не патрэбныя нашы МАЗы і наша сельскагаспадарчая тэхніка, бо яна проста не "заточаная" пад умовы сельскай гаспадаркі рэгіёна.

У мінулым годзе аб'ём тавараабароту Беларусі і ААЭ склаў каля 40 мільёнаў долараў. Экспарт перавысіў імпарт амаль на 4 мільёны долараў. У Беларусі працуе 14 прадпрыемстваў з арабскім капіталам. Наш экспарт уключае прадукцыю машынабудавання, нафтапрадукты, падшыпнікі, шыны, шкловалакно. У Мінску лічаць, што існуе магчымасць далейшага прасоўвання аўтамабільнай тэхнікі, абсталявання для нафтахімічнай галіны, а таксама мэблі, шклотканін для экспарту ў іншыя краіны Азіі і Афрыкі праз свабодныя зоны ААЭ.

Шмат мы атрымліваем з Эміратаў ці не? У 2007 годзе агульны тавараабарот складаў крыху больш за 26 мільёнаў долараў. 15 мільёнаў долараў падвышэння за пяць гадоў — гэта вельмі нязначны паказчык. І паказвае ён тое, што Арабскія Эміраты не вельмі зацікаўленыя ў беларускай прадукцыі.



На тэрыторыі ААЭ дзейнічае толькі адно прадпрыемства з удзелам беларускага суб'екта гаспадарання ЗАТ «Белтэхэкспарт» — «Белтэх Экспарт ФЗЕ». Яно зарэгістравана ў 2003 годзе ў свабоднай эканамічнай зоне эмірата Рас-эль-Хайма. У іншай СЭЗ аэрапорта Шарджа ў 2008 годзе зарэгістраваны філіял дзяржаўнага прадпрыемства «Авіякампанія «Трансавіяэкспарт». Вось і ўсё, што ў нас ёсць у Эміратах.

Але крышачку больш мы разлічваем атрымаць, хутчэй, у палітычным плане. Як казаў у Эміратах прэзідэнт: «Мы нацэленыя на паступальны выхад нашых адносін на якасна новы ўзровень узаемадзеяння, які ахоплівае ўсе ключавыя напрамкі ў галіне палітыкі і эканомікі».

Што тычыцца палітыкі, дык ці варта спадзявацца на тое, што ААЭ будуць падтрымліваць Беларусь недзе ў ААН? Наўрад ці, тым больш, што мы самі не выконваем шмат якія рашэнні, напрыклад, Камітэта па правах чалавека ААН, і даўно пляваць хацелі на рашэнні гэтай арганізацыі. Ці можа паўплываць ААЭ на еўрапейскую палітыку альбо палітыку ЗША ў дачыненні да Беларусі? Вельмі сумнеўна. Дык пра якую ж палітычную падтрымку кажа Аляксандр Лукашэнка?

Палітычная падтрымка можа быць толькі адна: аўтарытэт ААЭ у краінах, блізкіх да Персідскай затокі. Той, хто шчыльна сябруе з ААЭ, атрымлівае там нейкі «крэдыт даверу», то бок, з ім, прынамсі, будуць размаўляць. І не ААЭ, а вось гэтым краінам, праз пасярэдніцтва ААЭ, мы можам нешта «ўцюхаць», бо нас яны яшчэ слаба ведаюць альбо не ведаюць увогуле. ААЭ — гэта выхад на Кувейт, Аман, Йемен, і ў перспектыве — на ўсю Паўночную Афрыку.

А тое, што тычыцца фінансавых перспектыў, то афіцыйнаму Мінску ёсць што прадаць. Праўда, гэта не тычыцца продажу там, гэта тычыцца продажу тут.

Напрыклад, у 2010 годзе была заключана дамова з Султанатам Аман на будаўніцтва ў цэнтры Мінска шматфункцыянальнага гатэльнага комплексу. У складзе комплексу ў самым цэнтры Мінска павінны былі паўстаць пяцізоркавы гатэль, элітныя жылыя дамы і гандлёвыя комплексы з харчовымі і нехарчовымі крамамі. Чакалася, што рэалізацыя праекта пачнецца ўжо ў 2011 годзе, а завершыцца да 2016 года. Агульны аб'ём інвестыцый ацэньваўся ў 150 мільёнаў долараў.

Згодна з указам беларускага прэзідэнта №93 ад 1 сакавіка 2010 года, Дзяржаўны генеральны рэзервовы фонд Амана ў асобе створанага ім у Беларусі ЗТАА «Арол Пропетыз чатыры» атрымаў за 10 мільёнаў долараў у прыватную ўласнасць участак у Мінску. Адначасова з зямлёй ва ўласнасць «Арол Пропетыз чатыры» бязвыплатна перайшлі «Нацыянальны выставачны цэнтр» Белэкспа», які месціцца на вуліцы Янкі Купалы, 2-я гарадская клінічная бальніца па вуліцы Багдановіча і некаторыя іншыя будынкі.

Аднак Дзяржаўны рэзервовы фонд Султаната Аман у сярэдзіне 2012 года адмовіўся ад рэалізацыі гэтага інвестпраекта. Вінаватым у гэтым стаў валютны і фінансавы крызіс 2011 года, пасля чаго аманскі інвестар палічыў праект «нерэнтабельным». Месца Амана ў цэнтры Мінска аказалася вакантным, а 10 мільёнаў долараў, выплачаных за зямлю, інвестарам так і не вярнулі.

Менавіта «маральна-палітычная» падтрымка ААЭ можа даць старт гэтаму і іншым інвестпраектам. А там, можа, і іншы крызіс, які будзе, дазволіць не вяртаць грошы, ужо ўкладзеныя ў першую частку праекта.

ПАРАЛЕЛІ

# СІНГАПУР — МАДЭЛЬ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Сяргей КАРОЛЬ, фінансавы дырэктар, Ціхаакіянскі рэгіён, ACE Life

**Візіт Лукашэнкі ў Сінгапур, як і можна было прадбачыць, не прыцягнуў увагі і практычна не асвятляўся ў мясцовых і рэгіянальных СМІ. Мінімум навін. Усяго два матэрыялы ў рэгіянальнай прэсе.**



Фота аўтара

Звычайная справаздача. Тым не менш, наўрад ці можна аднесці яго да выключна турыстычных. У поўным сэнсе, гэта знакавы візіт.

З афіцыйных колаў ужо даўно раз-пораз прарываліся сігналы, хаця і вельмі асцярожныя, што кіроўная эліта ўважліва прыглядаецца да сінгапурскага варыянту мадэрнізацыі, які дазваляе і дыктатуру захаваць, і эканоміку з прорвы выцягнуць.

Падобна на тое, што пад уплывам свайго атачэння А. Лукашэнка таксама пачынае ўсведамляць, як працуе азіяцкая мадэль, і мае ўжо сур'ёзныя намеры спрыяць іх інвестыцыям у Беларусь, прасоўванню прадукцыі беларускіх дзяржаўных прадпрыемстваў на азіяцкія рынкі.

Бальзам да яго душы: сінгапурскія бізнэсмэны і палітыкі не будуць пытацца пра правы чалавека. Але і бясплатныя субсідыі таксама не дадуць. Неабходна будзе гуляць па сусветных правілах — без хітрыкаў гарантаваць бяспеку ўкладаў, без дурняў улічваць іх інтарэсы, пастаўляць якасны тавар.

Гэтыя чырвоныя сцяжкі былі дастаткова выразна расстаўленыя ўжо ў прывітальнай прамове прэзідэнта Сінгапура Тоні Тан Кенг Яма на дзяржаўным банкеце. Па ўсходняму ветліва, але і па дзелавому акрэслена.

«Паміж Сінгапурам і Беларуссю існуюць сяброўскія адносіны, — адзначыў Тоні Тан Кенг Ям. — З таго часу, як у 1992 годзе былі ўсталяваны дыпламатычныя стасункі, сувязі паміж нашымі краінамі добра развіліся. У нас — маленькіх краін, абкружаных буйнымі суседзямі, — шмат агульных інтарэсаў». Але, увага: «Мы высока цэнім значэнне міждзяржаўных форумаў і міжнародных арганізацый…»

І ўжо зусім празрыста пра факт з мінулага як знак на будучыню: «Наша эканамічнае супрацоўніцтва вырасла пасля таго, як у траўні 2000 года было падпісана і ўступіла ў сілу «Пагадненне аб садзейнічанні і абароне інвестыцый». Падпісанне пагаднення аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання дазволіць стварыць лепшыя ўмовы для эканамічнага супрацоўніцтва і будзе спрыяць пашырэнню гандлю і інвестыцый паміж нашымі краінамі. Падпісанне пагаднення аб узаемнай адмове ад візавых патрабаванняў для ўладальнікаў дыпламатычных і службовых пашпартоў — гэта добры першы крок па садзейнічанні больш частым абменам паміж нашымі чыноўнікамі і народамі».

Мне падаецца, што кабінет Лукашэнкі пачынае рэальна разумець механізм сінгапурызацыі, асабліва пасля таго, як члены дэлегацыі на свае вочы ўбачылі, што за цуд уяўляе сабой горад Сінгапур. Вялікі эскорт з высокапастаўленых чыноўнікаў і гаспадарнікаў, які суправаджаў Лукашэнку, гэтым разам выглядае апраўданым.

Паміж Сінгапурам і Беларуссю, на мой погляд, сапраўды многа агульнага. Абедзве краіны параўнальна невялікія, размешчаныя на самых стратэгічна важных маршрутах — адпаведна, на моры і на сушы. Сінгапур — на шляху з Індыйскага ў Ціхі акіян, Беларусь — з Еўропы ў Азію. Насельніцтва абедзвюх краін мае падобны профіль па так званых культурных вымярэннях — аддае перавагу кіруемай і ўладкаванай сістэме, валодае здольнасцю ствараць і высока цэніць прадметы паўсядзённай культуры, гатовае ахвяраваць значнай часткай свабоды ў абмен на бяспеку і адносна невысокі, але ўстойлівы дабрабыт, дрэнна ставіцца да карупцыі, не любіць рызыкі, але схільнае да творчых навацый і вынаходніцтва, без напругі прымае тэхналагічныя мадэрнізацыі, з ахвотай вучыцца. Прычым, усё гэта ў спалучэнні з легендарнай працавітасцю.

Цікавы факт, як бы ў пацвярджэнне творчых здольнасцяў і ініцыятыўнасці беларусаў, прывёў у сваёй прамове прэзідэнт Сінгапура. Прамаўляючы пра высокі патэнцыял для культурніцкіх стасункаў «дзякуючы багатым культурным і мастацкім традыцыям Беларусі, асабліва ў музыцы і танцах», Тоні Тан згадаў аб адкрыцці Малой танцавальнай акадэміі былымі беларускімі балерынамі ў пачатку мінулага года, якое «ўзбагаціла мастацкую сцэну Сінгапура». Удакладню, гэта Алена Канеўская, выпускніца Мінскай харэаграфічнай вучэльні. Шкада толькі, што дзеля прафесійнай рэалізацыі і сацыяльнага камфорту таленавітым беларусам даводзіцца ехаць у блізкае і далёкае замежжа. Зусім не па праграмах абмену.

Зыходзячы з ацэнкі падабенства беларускага і сінгапурскага профіляў, я заўсёды быў упэўнены, што сінгапурская мадэль дзяржаўнага навукаёмістага капіталізму натуральна падыходзіць для Беларусі. Цяпер, калі я правожу ў дзелавых колах Сінгапура некалькі дзён на месяц, упэўніўся ў тым яшчэ болей.

Перашкодай да разумення гэтага варыянту беларускім кіраўніцтвам былі савецкія шаблоны мыслення. Факт гэтага візіту дае падставы, пакуль яшчэ дастаткова прывідныя, меркаваць, што яно пачынае іх пераадольваць і вучыцца ў глабальна арыентаваных, эканамічна адукаваных дыктатур ціхаакіянскага рэгіёна. Найлепшай, зразумела, была б нармальная дэмакратычная трансфармацыя, як эканамічнай, так і палітычнай сістэмы, але рэальнасць пакуль такая, якая ёсць.

▼ КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ГАНДЛЮЙЦЕ, КАЛІ ЛАСКА!

**Як сведчыць афіцыйная статыстыка, у 2013 годзе шматлікія эксперты чакалі пагаршэння паказчыкаў знешняга гандлю Беларусі. Але памяншэнне тавараабароту пачалося ўжо са студзеня і да канца месяца прывяло да стварэння адмоўнага сальда.**



Экспарт тавараў у параўнанні са студзенем мінулага года ў бягучых коштах паменшыўся на 14,7% (на 515,8 мільёна долараў), імпарт — на 3,2% (на 104 мільёна долараў).

У студзені мінулага года мелі 261,5 мільёна долараў дадатнага сальда, у студзені 2013-га — мінус 150,3 мільёна долараў.

Шмат залежыць ад таго, як разглядаць статыстыку. З аднаго боку, вельмі цікавяць абсалютныя паказчыкі. Абсалютныя паказчыкі, безумоўна, маюць вялікае значэнне для аналізу, але яны не даюць дакладнага малюнку. Для яго стварэння патрабуюцца параўнанні. Толькі статыстыка дае магчымасць для параўнанняў. Прыкладам, на пасяджэнні Вышэйшага Дзяржсавета 15 сакавіка Уладзімір Пуцін ухваліў высокую дынаміку ўзаемных стасункаў Расіі і Беларусі ў рамках Саюзнай дзяржавы. На яго погляд, дзякуючы ёй Расія займае першае месца сярод знешнегандлёвых партнёраў Беларусі. А з іншага боку, РБ «выйшла на другое месца ў знешнім гандлі РФ з партнёрамі па СНД і шостае — з усімі астатнімі краінамі свету». Значыць, Пуцін думае, што гэта супрацоўніцтва можна лічыць узорам постсавецкай інтэграцыі, за якой памкнуцца іншыя, як за першай ластаўкай.

Насамрэч, Пуцін мае рацыю, бо кажа сваю, расійскую праўду. За мінулы год тавараабарот у гандлі таварамі Беларусі з Расіяй склаў амаль 44 мільярда долараў і падвысіўся амаль на 10% параўнанні з 2011 годам. Нічога неверагоднага ў такім пад'ёме не было, бо кошты на тавары падвышаюцца рэгулярна. І якая Беларусі ад гэтага карысць? Прыкладам, у 2012 годзе, як усе памятаюць, краіна працавала над імпартазамяшчэннем. У выніку экспарт падвысілі на 12,2%, і мы дабіліся, што імпарт падвышаўся менш хутка, чым экспарт. Па выніках года ён падвысіўся толькі на 8,1%. І пры ўсім пры гэтым адмоўнае сальда склала 11,25 мільярда долараў, або 70% ад 16,3 мільярда вартасці экспарту.





У студзені бягучага года маем: тавараабарот 3,024 мільярда долараў, у тым ліку экспарт тавараў — 1,14 мільярда долараў, імпарт — 1,88 мільярда долараў. Па падліках Белстата, вартасны аб'ём экспарту ў параўнанні са студзенем 2012 года ў бягучых коштах павялічыўся на 10,4% (на 107,9 мільёна долараў), імпарту — паменшыўся на 14,8%, альбо на 327,1 мільёна долараў, адмоўнае сальда склала 743,2 мільёна долараў. А за студзень мінулага года адмоўнае сальда сягнула да 1 178,2 мільёна долараў. Ну і што? Можна радавацца, што адмоўнае сальда палепшылася ў 1,6 разу і чакаць, што ў стасунках з галоўным партнёрам сальда выйдзе на дадатны ўзровень?

Цяжка ў гэта паверыць. Як далікатна паведамляе Белстат, скарачэнне вартаснага памеру імпарту абумоўлена падзеннем фізічных аб'ёмаў увозу тавараў на 17%. Самае значнае пагаршэнне індэкса фізічнага аб'ёма імпарту зафіксавана па групе энергетычных тавараў (71,6%), але самым рашучым чынам скарачаўся імпарт у натуральным выглядзе нафтапрадуктаў, якіх у студзені 2013 года завезена толькі 4,2% ад завезеных у студзені 2012 года.

Запытаемся ў спецыялістаў, чаму? Магчыма, цэны на нафтапрадукты настолькі павысіліся, што бізнэс перастаў быць прыбытковым? Не, кошты нафтапрадуктаў супраць студзеня мінулага года нават паменшыліся — аж на 16% (!). А на самай справе рускія западозрылі, што гэтыя нафтапрадукты беларусамі перапрадаюцца заходняму спажыўцу ў вялікіх аб'ёмах. Называюць іх растваральнікамі і разбавіцелямі і не дзяляцца мытай у расійскі бюджэт.

Спачатку Лукашэнка жартаваў з такіх падазрэнняў. А пасля ўжо трохі і зазлаваў, маўляў, чэсныя мы. А рускія не паверылі. Усталявалі кантроль і запатрабавалі, каб з кожнага долара выручкі мы адлічылі расійскай казне адпаведную мыту. А так — гандлюйце, калі ласка.

Як удакладніў Белстат, у студзені бягучага года знешнегандлёвае таварамі сальда паменшылася на 411,8 мільёна долараў адразу.

Зрабілі рашучы крок. Толькі куды?..

▸ МІГРАЦЫЯ

# СВАІХ ВЫГАНЯЕМ, ЧУЖЫНЦАЎ ЗАПРАШАЕМ

Сяргей ПУЛЬША

**У Беларусі востра не хапае спецыялістаў. Запоўніць вакантныя месцы плануецца з дапамогай працоўнай эміграцыі. Вельмі хутка пачнецца сесія Палаты прадстаўнікоў Беларусі, якая павінна разгледзець змены ў заканадаўчыя акты аб прававым становішчы замежных грамадзян і працоўнай міграцыі.**





Навацыі тут даволі істотныя. Згодна з законапраектам, замежным грамадзянам з ліку таленавітых работнікаў і спецыялістаў будзе прадастаўляцца кампенсацыя выдаткаў пры пераездзе ў краіну або выплата аднаразовай дапамогі на ўладкаванне. Акрамя таго, праект закона прадугледжвае, у прыватнасці, што замежныя грамадзяне, якія скончылі або якія навучаюцца ва ўстановах адукацыі Беларусі і жадаюць застацца ў краіне, каб працаваць па спецыяльнасці, будуць вызвалены ад неабходнасці афармляць спецыяльныя дазволы на права займацца працоўнай дзейнасцю ў Беларусі.

Навіна пра гэта выклікала даволі дзіўную хвалю эмоцый у інтэрнэце. Канешне, талерантныя і памяркоўныя грамадзяне Беларусі не супраць, каб сюды прыязджалі адукаваныя замежнікі. Але яны задаюцца адным пытаннем: ці здолеюць улады Беларусі пракарміць чужых спецыялістаў, калі сваіх не здолелі? Ці варта запрашаць сюды замежнікаў? А можа, лепш даць вартую аплату працы беларускім спецыялістам?

Пра тое, што беларускіх спецыялістаў у краіне патэнцыйна дастаткова, кажуць нават лічбы Белстата. Паводле аператыўных даных дзяржаўнай статыстычнай установы, у эканоміцы ў студзені-лютым 2013 года было занята 4 мільёна 541,7 тысячы чалавек. Арганізацыямі рэспублікі (без малых і мікраарганізацый без ведамаснай падпарадкаванасці) у студзені-лютым бягучага года было прынята на працу 114,1 тысячы чалавек, у тым ліку на дадаткова ўведзеныя працоўныя месцы — 6,4 тысячы чалавек. Звольнена па розных прычынах за два месяцы 118,2 тысячы чалавек, а колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, на канец лютага гэтага года склала 26,2 тысячы чалавек.

Але ж, па дадзеных перапісу насельніцтва ў 2009 годзе, колькасць працаздольнага насельніцтва Беларусі складала 5 мільёнаў 853 тысячы чалавек. Зразумела, з таго часу хтосьці выйшаў на пенсію, але хтосьці і ўвайшоў у працаздольны ўзрост, таму вельмі істотна гэта лічба змяніцца не магла. Такім чынам, каля 1 мільёна 300 тысяч беларусаў, якія знаходзяцца ў працаздольным узросце, альбо не працуюць, альбо бадзяюцца невядома дзе. Нават калі адмінусаваць ад гэтай лічбы студэнтаў, якія атрымліваюць адукацыю на дзённай форме навучання (а значыць, стала не працуюць, — гэта каля 200 тысяч чалавек), то ўсё роўна атрымаецца вялікая лічба.

Куды ж знік мільён працоўных? Ні для каго не сакрэт — людзі з'язджаюць на Захад і Усход у пошуках больш вартага заробку. Па ацэнках незалежных экспертаў, ад 600 тысяч да мільёна нашых суайчыннікаў працуе ў Расіі. Найбольш часта называлася лічба 600 тысяч чалавек, якая не выклікае спрэчак нават у беларускіх чыноўнікаў.

Але праца ў Расіі, хутчэй, «сезонная», асабліва для запатрабаваных у Расіі будаўнікоў і дарожнікаў. З папраўкай на «сезонныя пікі актыўнасці» можна казаць, што стала працуюць у Расіі да 450–500 тысяч беларусаў.

І гэтая колькасць павялічваецца. Як сведчаць дадзеныя плацежнага балансу Расіі і Беларусі, «белыя» паступленні ад аплаты працы беларусаў, якія часова працуюць у Расіі, у 2012 годзе склалі 558,6 мільёна долараў, павялічыўшыся на 15,4% у параўнанні з 2011 годам. З улікам сезонных ваганняў і сярэдняй зарплаты 1 000 долараў у месяц, прыкладна 46,5 тысячы беларусаў легальна пераводзілі ў краіну свой поўны або часткова заробак з Расіі.

Але ў нас няма мяжы з Расіяй, таму легальна пераводзіць заробак сэнсу не мае. Лепш прыехаць на дзень-другі дадому адпачыць і перадаць гэты заробак з рук у рукі.

І гэтыя працаўнікі з'яўляюцца вельмі моцным фактарам атрымання валюты, найперш расійскіх рублёў, для беларускай дзяржавы. Згодна з няхітрым разлікам, пры сярэдняй зарплаце ў 1 000 долараў у месяц агульны заробак 450–500 тысяч беларусаў мог скласці ў 2012 годзе каля 5–6 мільярдаў долараў.

Гэтая лічба цалкам упісваецца ў сучасныя рэаліі. Для параўнання, у 2012 малдаўскія гастарбайтэры пералічылі з Расіі на радзіму 1,2 мільярда долараў. Малдова тут прыклад таму, што ў іх, па-першае, вазіць заробак дадому — праблема (далёка і няма агульнай мяжы з Расіяй), па-другое, іхныя заробкі меншыя, чым заробкі ў Расіі беларусаў.

А што з астатнімі 600 тысячамі? Паводле спецыялістаў, яны працуюць у «шэрай зоне» беларускай эканомікі. Гэтым тлумачыцца невялікая колькасць афіцыйна зарэгістраваных беларускіх беспрацоўных. Канешне, не толькі гэтым, але і вельмі нізкай дапамогай па беспрацоўі, і неабходнасцю «адпрацоўваць» гэтую дапамогу, і, канешне, поўным нявер'ем у тое, што служба сацыяльнай абароны здолее працаўладкаваць чалавека на вакансію з дастойнай аплатай.

У службу занятасці шмат якія беларусы звяртаюцца за магчымасцямі: там можна альбо бясплатна набыць новую прафесію, прайсці курсы перападрыхтоўкі, альбо прайсці курсы павышэння кваліфікацыі па ўжо наяўнай спецыяльнасці. А ў магчымасць працаўладкаваць кагосьці — не, не вераць.

Таму галоўнай задачай для беларускай улады павінна стаць не задача «заманіць» сюды як мага больш замежных спецыялістаў, а стварыць тут умовы для развіцця беларускім адмыслоўцам. Найперш, калі мы ўжо ўніфікуем розныя тарыфы і выдаткі ў межах Мытнага саюза з Расіяй, то чаму б не ўніфікаваць і заробкі? Ніхто не паедзе за сто зямель у той час, калі зможа зарабіць тут.

І другое: улады павінны вывесці «шэрую зону» эканомікі на ясны свет. Павінны стварацца ўмовы для бізнэсу, павінна быць падтрымка маладым прадпрымальнікам і гэтак далей. Пра гэта кажуць ад моманту атрымання Беларуссю незалежнасці і да гэтага часу. Але нічога не робіцца.

Як вынік, грошай плаціць дастойны заробак «сваім» не стае, а даць волю прадпрымальніцтву — гэта пераўтварэнне эканомікі і падрыў «стабільнасці». Стабільнасць — вось што стала галоўнай перашкодай для беларускіх грамадзян. І таму ўлада, незадаволеная народам, робіць толькі адзін крок — спрабуе знайсці новы народ для сваёй «стабільнасці». Ці атрымаецца?

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 1 КРАСАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

**БЕЛАРУСЬ 1**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.00** Камедыя «Жандар і іншапланецяне».
**12.10** Клуб рэдактараў.
**13.00** Вакол планеты.
**13.45** Журналісцкае расследаванне.
**14.20** Таямніцы следства.
**15.10, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** «Гісторыя адной зайздрасці». Дакументальны фільм (Азербайджан).
**16.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**16.55** Рамантычная камедыя «Каханне з акцэнтам» (Расія).
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 22.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Народная камедыя «Сваты-5».
**23.25** Дзень спорту.
**23.35** Серыял «Майстры жахаў».

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** Прэм'ера. «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адкрыты фармат».
**21.55** Прэм'ера. «Ліллехамер».
**22.55** «Вячэрні Ургант».
**23.35** «Да смерці прыгожая». Шматсерыйны фільм.
**00.25** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**10.10** «Уявіце сабе».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.00** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.25** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг». Новы сезон.
**15.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Разумны сумнеў». ЗША, 2008 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.45** «Пякельная кухня - 2».

**БЕЛАРУСЬ 2**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Пацалунак Сакрата».
**10.15** Навіны надвор'я.
**10.50** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія - Вялікабрытанія).
**11.25** Камедыя «Саша-Сашанька».
**13.10** Прэм'ера. «На манежы сёння і заўсёды. Дак. фільм («Беларусьфільм»).
**13.35** Лірычная камедыя «Той самы Мюнхгаўзен» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**16.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. Адкрыты чэмпіянат Беларусі. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Трагікамедыя «Унук касманаўта».
**23.05** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія - Вялікабрытанія).
**23.35** Авертайм.
**00.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Справа Х. Следства працягваецца».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** Тэлесерыял «Зроблена ў СССР».
**21.30** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.05** «Дзяжурны па краіне».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Руская сенсацыі».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Ляснік».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Таптуны».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Фільм «Шлях самца».

**МИР**

**05.00** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультсерыял «Робін Гуд».
**06.20** Праграма «Цік-так».
**06.50** Праграма «Джэймі ў сябе дома».
**07.20** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Выніковая праграма «Разам».
**10.00** Мастацкі фільм «Светлая асоба».
**11.30** Праграма «Агульны інтарэс».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Праграма «Агульны рынак».
**12.40** «Навіны Садружнасці. Культура».
**13.20** Тэлесерыял «Пяць мінут да метро».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** Праграма «Акцэнты».
**18.45** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** Праграма «Свет спорту».
**21.55** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.35** Тэлесерыял «Трыццаць выпадкаў з жыцця маёра Земана».
**01.15** Праграма «Зроблена ў СССР».
**01.45** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**03.35** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**04.25** Праграма «Свет спорту».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00, 14.35** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55, 15.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.20, 15.25** Zeroes Heroes.
**08.55, 16.00** Дак. гадзіна: «Лонданская крама», дак. фільм, 2006 г., Германія.
**09.30** Два на два (тэледыскусія).
**09.55** Euromaxx.
**10.25** Форум (ток-шоў).
**11.10** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял.
**12.00** Фільматэка майстроў: «Вікі Крысты-на Барселона», камедыя, 2008 г., ЗША.
**13.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**14.05** Невядомая Беларусь: «Цень манументу», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**16.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**17.00** Форум (ток-шоў).
**17.45** Відзьмо-невідзьмо: выд. 24.
**18.10** Еўропа сёння.
**18.40** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Не прапусці! (параднік гледача).
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** Фільматэка майстроў: «Вікі Крысты-на Барселона», камедыя, 2008 г., ЗША.
**23.20** Студыя «Белсат».
**01.00** Асабісты капітал.
**01.20** Аб'ектыў.
**01.45** Не прапусці! (параднік гледача).
**02.05** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 2 КРАСАВІКА, АЎТОРАК

**БЕЛАРУСЬ 1**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**10.55** Дак. серыял «Усе грані вар'яцтва».
**12.10** Адмысловы рэпартаж АТН.
**12.30** Дак. серыял «Будзь у тонусе!».
**13.00** Рэальны свет.
**13.35** Нябачны фронт.
**13.45** Народная камедыя «Сваты-5».
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.40** Камедыйны серыял «Матулі».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.00** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**22.00** Народная камедыя «Сваты-5».
**23.35** Дзень спорту.
**23.45** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** Прэм'ера. «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Умовы кантракту».
**23.20** Фільм «Дзіўная гісторыя доктара Джэкіла і містара Хайда».
**01.10** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вялікі сняданак».
**09.40** «Такі лёс».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Без мужчын». Расія, 2010 г.
**15.15** «100 адсоткаў».
**15.35** «Дзіўная справа».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Туз». Італія, 1981 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Кулінар». Серыял.
**01.05** Прафесійны бокс.
**02.00** «Нам і не снілася».

**БЕЛАРУСЬ 2**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**10.15** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**11.10** Авертайм.
**11.45** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.40** Трагікамедыя «Унук касманаўта» (Расія).
**14.20** Прыгодніцкі фільм «У пошуках капітана Гранта» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Меладрама «Усё не выпадкова» (Украіна).
**20.35** Імперыя песні. «На біс».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/4 фіналу. Баварыя - Ювентус. Прамая трансляцыя.
**23.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/4 фіналу. Малага - Дортмунд.

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Каменская».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «У лясах і гарах».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Зроблена ў СССР».
**21.30** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.05** «Адмысловы карэспандэнт».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Ляснік».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Таптуны».
**22.15** Фільм «Гаспадар».
**00.00** Дак. цыкл «Наш космас».

**МИР**

**05.00** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультсерыял «Робін Гуд».
**06.20** Праграма «Цік-так».
**06.50** Праграма «Джэймі ў сябе дома».
**07.20** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Двое».
**10.00** Мастацкі фільм «Веру ў каханне».
**11.30** Праграма «Даведнік».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Тэлесерыял «Пяць мінут да метро».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** Праграма «Акцэнты».
**18.45** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** Праграма «Саюзнікі».
**21.55** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.35** Тэлесерыял «Трыццаць выпадкаў з жыцця маёра Земана».
**01.15** Праграма «Усюды жыццё».
**01.45** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**03.35** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**04.25** Праграма «Саюзнікі».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Асабісты капітал.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.20** Не прапусці! (параднік гледача).
**09.45** Еўропа сёння.
**10.15** «Маці сваёй маці», маст. фільм, 1996 г.
**11.50** Студыя «Белсат».
**13.25** Асабісты капітал.
**13.50** Аб'ектыў.
**14.15** Не прапусці! (параднік гледача).
**14.40** Еўропа сёння.
**15.10** «Маці сваёй маці», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**16.45** «Новенькая», дэтэктыўны серыял.
**17.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** На колах.
**18.25** Без межаў.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень.
**21.45** «Доктар Марцін», серыял: 13 серыя.
**22.30** Назад у будучыню.
**22.45** Форум (ток-шоў).
**23.30** Студыя «Белсат».
**01.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**01.30** Аб'ектыў.
**02.00** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 3 КРАСАВІКА, СЕРАДА

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**10.55** Дак. серыял «Усе грані вар'яцтва».
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.50** Заўтра - гэта мы!
**13.15** Рэальны свет.
**13.50** Народная камедыя «Сваты-5».
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.40** Зямельнае пытанне.
**17.10** Медычныя таямніцы.
**17.40** Камедыйны серыял «Матулі».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**22.00** Народная камедыя «Сваты-5».
**23.40** Дзень спорту.
**23.50** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсер. фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** Прэм'ера. «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Умовы кантракту».
**23.20** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Асироддзе пасялення.
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гадзіна суду».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Туз». Італія, 1981 г.
**15.35** «Жывая тэма».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Музыка з іншага пакою». ЗША, 1998 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Кулінар». Серыял.
**01.05** «Нам і не снілася».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі серыял «Маёр Вятроў» (Расія-Беларусь). 1-я серыя.
**10.20** Наперад у мінулае.
**10.55** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія - Вялікабрытанія).
**11.35** Меладрама «Усё не выпадкова».
**13.15** Прыгодніцкі фільм «У пошуках капітана Гранта» (СССР). 3-я і 4-я серыі.
**15.50** Беларуская часіна.
**16.55** Рэгіянальная праграма.
**17.55** Гандбол. Мужчыны. Румынія - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**19.30** Музычная рэтра-камедыя «Мы з джазу» (СССР).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/4 фіналу. ПСЖ - Барселона. Прамая трансляцыя.
**23.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/4 фіналу. Рэал - Галатасарай.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ха». Маленькія камедыі.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Каменская».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «У лясах і гарах».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Зроблена ў СССР».
**21.30** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.05** Сведкі.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі.».
**11.05** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Ляснік».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Таптуны».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Вострасюжэтны серыял «Участковы».

### МИР

**05.00** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультсерыял «Робін Гуд».
**06.20** Праграма «Цік-так».
**06.50** Праграма «Джэймі ў сябе дома».
**07.20** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Дынастыя».
**10.00** Мастацкі фільм «Дарослы сын».
**11.30** Праграма «Незорнае дзяцінства».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Тэлесерыял «Пяць мінут да метро».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** Праграма «Акцэнты».
**18.45** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**21.55** Дак. фільм «Эпоха. Падзеі і людзі».
**22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.35** Тэлесерыял «Трыццаць выпадкаў з жыцця маёра Земана».
**01.15** Праграма «Даведнік».
**01.45** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**03.35** Дак. фільм «Эпоха. Падзеі і людзі».
**04.25** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.50** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.15** «Доктар Марцін», серыял: 13 серыя.
**11.05** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.15** Форум (ток-шоў).
**12.00** Студыя «Белсат».
**12.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**13.00** Аб'ектыў.
**14.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.50** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.15** «Доктар Марцін», серыял: 13 серыя.
**16.05** Форум (ток-шоў).
**16.50** «Час гонару», серыял: 19 серыя.
**17.40** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**18.00** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Беларусы ў Польшчы.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Ночы і дні», серыял: 7 серыя.
**22.40** Два на два (тэледыскусія).
**23.05** Невядомая Беларусь: «Цень манументу», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**23.35** Студыя «Белсат».
**01.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.35** Аб'ектыў.
**02.00** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 4 КРАСАВІКА, ЧАЦВЕР

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі».
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**10.55** Дак. серыял «Усе грані вар'яцтва».
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.40** Нашы.
**13.00** Рэальны свет.
**13.35** Нябачны фронт.
**13.45** Народная камедыя «Сваты-5».
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.40** Каробка перадач.
**17.10** Дыялогі пра цывілізацыю.
**17.40** Камедыйны серыял «Матулі».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**22.00** Народная камедыя «Сваты-5».
**23.40** Дзень спорт.
**23.50** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** Прэм'ера. «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Умовы кантракту».
**23.20** «Вячэрні Ургант».
**00.00** «Проці ночы».
**00.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Не хлусі мне!».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Музыка з іншага пакою». ЗША, 1998 г.
**15.40** «Якія людзі!».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Не скажу». Расія, 2010 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Кулінар». Серыял.
**01.05** «Нам і не снілася».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі серыял «Маёр Вятроў» (Расія-Беларусь). 2-я серыя.
**10.20** Вышэй за дах.
**11.00** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія - Вялікабрытанія).
**11.30** Музычная рэтра-камедыя «Мы з джазу» (СССР).
**13.20** Хакей. Адкрыты чэмпіянат Беларусі.
**15.20** Прыгодніцкі фільм «У пошуках капітана Гранта» (СССР). 5-я серыі.
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Прэм'ера. Меладрама «На ростанях».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Пад грыфам «Вядомыя».
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/4 фіналу. Чэлсі - Рубін. Прамая трансляцыя.
**00.00** Час футболу.
**00.45** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/4 фіналу. Бенфіка - Ньюкасл.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «ХА». Маленькія камедыі.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Каменская».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «У лясах і гарах».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** Тэлесерыял «Зроблена ў СССР».
**21.30** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.05** «Паядынак».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія пахаванні».
**11.05** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Ляснік».
**21.15** Дэтэктыўны серыял «Таптуны».
**22.10** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**22.35** Сёння. Вынікі.
**23.00** Вострасюжэтны серыял «Участковы».
**00.40** «Бітва за поўнач. Сакрэтная вайна ў Арктыцы».

### МИР

**05.00** Тэлесерыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультсерыял «Робін Гуд».
**06.20** Праграма «Цік-так».
**06.50** Праграма «Джэймі ў сябе дома».
**07.20** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Двое».
**10.00** Мастацкі фільм «Ганна і камандор».
**11.30** Праграма «Зроблена ў СССР».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Праграма «Дыяспары».
**12.55** Мастацкі фільм «Ферыдэ».
**14.45** Праграма «Кыргызтан у асобах».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** Праграма «Акцэнты».
**18.45** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** Праграма «Беларусь сёння».
**21.55** Дакументальны фільм.
**22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.35** Тэлесерыял «Трыццаць выпадкаў з жыцця маёра Земана».
**01.15** Праграма «Дыяспары».
**01.45** Тэлесерыял «Закон і парадак».
**03.35** Дакументальны фільм.
**04.25** Праграма «Беларусь сёння».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20, 13.55** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Праект «Будучыня».
**10.10** «Ночы і дні», серыял: 7 серыя.
**11.05** Невядомая Беларусь: «Цень манументу», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**11.35** Студыя «Белсат».
**13.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.30** Аб'ектыў.
**14.15** Праект «Будучыня».
**14.45** «Ночы і дні», серыял: 7 серыя.
**15.35** Два на два (тэледыскусія).
**16.05** Без межаў.
**16.20** Невядомая Беларусь: «Цень манументу», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**16.55** «Час гонару», серыял: 20 серыя.
**17.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.05** Euromaxx.
**18.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень.
**21.45** «Горад з мора», серыял, 2009 г., Польшча: 1 серыя.
**22.35** «Каралеўства шчасця – Бутан: дзяржава ў Гімалаях», дак. фільм, Германія.
**23.20** Студыя «Белсат».
**00.50** Рэпартэр.
**01.15** Аб'ектыў.
**01.45** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.05** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №3 (79) (сакавік)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»

**Анонс**



**ІНТЭРВ'Ю**

# Леанід Галубовіч: «ПАЭЗІЯ НЕ БЫВАЕ ЧУЖОЙ ЦІ НЕЧАЙ»

***— Шаноўны Леанід Міхайлавіч, летась у Вас выйшла даўно чаканая чытачамі кніга паэзіі «З гэтага свету». Кажу «чаканая», бо пры чытанні Вашых зацемак і крытычных артыкулаў не пакідала адчуванне, што і вершы таксама пішуцца... Што ўсё ж такі натхніла Вас праз гады вярнуцца да паэзіі?***

— Паэзія і натхніла. Я не адыходзіў ад яе, як таго і вымагала мая штодзённая праца рэдактарам крытыкі (і ў «Крыніцы», і ў «ЛіМе»). Я чытаў і неабходнае для сваіх выданняў, і запатрабаванае маёй уласнай натурай. Больш за тое, публікаваў свае ўражанні ад прачытанага. Але не думаю, што мяне натхніла «на сваю ўласную паэтычную творчасць» сучасная беларуская паэзія. Вечарамі я заўжды перачытваю сваю любімую класіку: Багдановіча, Жылку, Танка, Куляшова, Стральцова, Сербантовіча, Янішчыц, Цютчава, Аненскага, Ахматаву, Блока, Чухонцава, Фроста, Рыльке, найлепшыя ўзоры японскай і кітайскай паэзіі... Паэзія не бывае чужой ці нечай. Калі ты ёю захапляешся, то яна ўжо твая. Не важна, хто і калі яе напісаў. Аднойчы, едучы сонечным ранкам на працу ў вагоне трамвая, пад манатонны перагрук колаў, у паўдрымоце прыйшло ў галаву чатырохрадкоўе... Прайшло больш дзесяці гадоў. Як такое магло стацца? Здзіўлены, па прыездзе я яго запісаў... Пасля — само па сабе, час ад часу — пачало з'яўляцца іншае. Калі (праз маю нястрымную шчырасць) пра тое даведаліся калегі, то паступова схілілі да выдання зборніка. Такая вось гісторыя. Сама паэзія сваёй унутрана-затоенай сілай ссунула цяжкі камень зароку... Скажу толькі, што вярнуўся я ўсё ж да вершаў, а не да паэзіі, як бы мне таго ні хацелася...

***— «Завязаўшы» з паэзіяй, Вы пераключыліся на крытыку і больш за 10 гадоў аналізавалі творчасць іншых пісьменнікаў. У чым, на Ваш погляд, адметнасць літаратурнага працэсу 2000–2012 гадоў?***

— Найперш трэба сказаць, што гэты працэс катастрафічна скукожыўся. Былі творча кастрыраваны ўсе літаратурна-мастацкія часопісы і тыднёвік «ЛіМ». Наўслед адбыўся мусовы падзел Саюза пісьменнікаў. Але галоўнае не ў гэтых праявах неронаўшчыны. Мастацтва ўжо ад пачатку



перабудовы, ад нечаканай парасычасці свабодай слова, ад «лёгкасці духоўнага быцця» пачало губляць сваю асабовую ўнутраную таемнасць. Чым далей, тым больш... Цяпер сям-там можна заўважаць адраджэнне самой прыроды мастацтва. Творцы сталі праяўляцца ўсё больш выразна. Яшчэ мала высокіх літаратурных набыткаў, але яны ўжо ёсць. І гэта ўсцешвае. Не выпускаю з поля зроку паэтычную творчасць Ярыны Дашынай, Янкі Лайкова, Віталя Рыжкова, Антона Рудака...

***— Ян Максімюк у артыкуле «Страх крытыкі» сцвярджаў, што «беларускай літаратурнай крытыкі няма». Крытыкі сапраўды няма? Што, на Вашую думку, стрымлівае развіццё беларускай крытыкі?***

— Развіццю крытыкі перашкаджае кволае развіццё літаратуры. Так як літаратура робіцца ўсё больш даходліва-візуальнай, то глыбіня мыслення і творчае майстэрства адпрэчваюцца прагматызмам хуткаплыннага чалавечага існавання. Такая ўжо сёння эвалюцыя зямной цывілізацыі, «няпісаным правілам» якой супрацьіцца вельмі малая колькасць творчых індывідуумаў. Таму мяне абсалютна не здзіўляе, што абслугоўваннем падобнай («пачасовай») літаратуры займаецца літаратурная журналістыка. І, здаецца, такой літаратуры гэтага дастаткова, хоць недзе некаму, магчыма, хочацца і большага: каму — прэміі імя Ежы Гедройца, каму — Дзяржаўнай, а каму і — Нобелеўскай... Сваю ролю тут адыгрывае і малая чытацкая аўдыторыя. «Відовішчаў і хлеба!» — вось што стаіць у нас на парадку дня. Хакей і Дажынкі не сыходзяць з экранаў тэлевізараў.

Аднак гэта не азначае, што вартай літаратурнай крытыкі ў нас няма. Хіба сур'ёзнаму чалавеку нічога не гавораць такія імёны, як І. Шаўлякова, Ц. Чарнякевіч, А. Лапіцкая... Магчыма, яны пішуць з разлікам «на заўтра». Дык гэта тым больш не павінна спараджаць страху і паміранн я...

***— Мінулы год быў абвешчаны Годам кнігі. Ці адчулі Вы як пісьменнік і крытык адметнасць гэтага года? Якую кнігу (кнігі) Вы лічыце «Кнігай года»? На якія кнігі параіце звярнуць увагу чытачам «Кніганошы», пашукаць у кнігарнях?***

— У гэтым плане ў мяне год як год. Як народ кажа, хоць гаршком назаві... Адчуваю, што старэю і ўсё больш самотнею. А адзінокаму, замкнёнаму ў сабе, што чалавеку трэба? Найперш кніга. Мне прынамсі. Таму як чытаў, так і чытаю. Скажу, што з новага з задавальненнем сёлета прачыталася: «Рай даўно перанаселены» Алены Брава, «Ланцуг» Андрэя Федарэнкі, кніга перакладной паэзіі Яна Твардоўскага «Разам з табою», «Адна капейка» Уладзіміра Сцяпана, зборнік эсэ і мініяцюр «Паспець надыхацца» Сяргея Рублеўскага, чытаю нядаўна падораны галіяфаўскі томік Юры Станкевіча «Шал»... Кнігі на чужы густ і падказкі не выбіраю, не чытаю і другім не раю. Проста чытаю тое, чаму здзіўляюся і па-добраму зайздрошчу. Гэта прыходзіць з гадамі. Таму маладзейшым зычу расці — чытаючы.

**15 снежня 2012 г.**

**Алесь Сачанка**

**АНТАЛОГІЯ**

## САКАВІК

**Максім ТАНК**

*— І снег ужо амаль што знік,*
*І дзень стаў больш праменны.*
*Ты ж скардзіўся на сакавік,*
*І ветраны і зменны.*

*— Ты, знаць, забылася, што ён*
*Быў сватам на вяселлі,*
*Што без яго мы весніх дзён*
*З табой ў жыцці не мелі б.*

***

**Рыгор БАРАДУЛІН**

*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Годны дзень*
*Беларускай дзяржавы.*
*Веснаплынных вятроў талака*
*Пыл з кароны атрэсла іржавы.*
*Шматавалі нас досыць арлы*
*І з адной, і з дзвюма галавамі.*
*Мы не з нейкай бязроднай імглы,*
*Нас вякі як сваіх*
*Гадавалі.*
*Мы — ратаі святла,*
*Крывічы,*
*Верхачы неўміручай Пагоні.*
*Маладзік сакалом на плячы,*
*Гартны меч у цвярдое далоні.*
*Лучыць нашыя мары рака*
*Бел-чырвон-белага сцяга.*
*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Наша свята,*
*Пароль*
*І прысяга!*

***

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

*Стыў сакавік.*
*Начамі снег трашчаў,*
*А ранкам плыў уверх дымок*
*стракаты,*
*І, нібы звер, ад шэрані кудлаты,*
*Замерзлы звер —*
*Дуб у двары стаяў.*
*Асілак дуб.*
*Лічы, бадай мільён*
*Гадоў яму было па розных былях.*
*Дуб службу нёс:*
*Падводзіў вынік ён*
*Таму ўсяму, што мы за дзень рабілі.*
*Нязломны дуб.*
*Калі дарэмна быў*
*Пражыты дзень, у пустаце*
*і тлуме,*
*Сукамі дуб па даху хаты біў*
*І прымушаў пра дзень наступны*
*думаць.*
*Дзівосны дуб...*
*А сакавік суровей,*
*І дзень сказаў:*
*— Такая, браце, рэч:*
*Дзівосныя ці простыя — ўсё дровы,*
*Цяпло даюць, калі пакласці ў печ...*

*Цяпер наш двор — пустэльная зямля,*
*Ды нечага і ў нас саміх не стала...*
*Так выйшла, што суровая зіма*
*Ў той год амаль да мая лютавала.*

## САЮЗ



### ГАРОДНЯ

Адбылося чарговае паседжанне Гарадзенскай абласной філіі ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». На пачатку сустрэчы хвілінай маўчання была ўшанаваная памяць Міхася Чарняўскага і Юрыя Гуменюка. Старшыня аддзялення Юрка Голуб зрабіў справаздачу па выніках дзейнасці суполкі.

Акрамя звычайнай справаздачнай нагоды мелася яшчэ адна нешараговая і ўрачыстая — выхад гарадзенскага альманаха «Новы замак». Вынікам пачэснай працы ўкладальніка сп. Сяргея Астраўца і рэдакцыі на чале са старшынём філіі Юркам Голубам сталася грунтоўнае выданне, на 250 старонках якога змясціліся творы дваццаціадного аўтара.

Было адзначана, што калі для літаратурнай Гарадзеншчыны ХХІ стагоддзя выданне альманаха справа знакавая і новая, то ў агульным кантэксце гэтая падзея адраджае традыцыю выдання альманаха ў горадзе над Нёманам, некалькі нумароў якога выйшла ў 50-ых гадах мінулага стагоддзя. У 1986 годзе была яшчэ адна спроба: з'явіўся «Край мой Нёман» з прадмовай Васіля Быкава.

На паседжанні былі таксама абмеркаваныя мерапрыемствы па прэзентаванні «Новага замка» і новай кнігі гарадзенскага паэта Анатоля Брусевіча.

### МАГІЛЁЎ



24 лютага 2013 года адбылося чарговае паседжанне Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Хвілінай маўчання была ўшанавана памяць сябра СБП Івана Аношкіна, які памёр 3 лютага. Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу па выніках дзейнасці суполкі за мінулы месяц. Быў зроблены агляд публікацый сябраў аддзялення ў абласным і рэспубліканскім друку. Таксама былі прэзентаваны новая кніга слаўгарадскага пісьменніка, сябра СБП Фелікса Шкірманкова «Кантрольны маршрут» і кніга магілёўскага пісьменніка Алеся Казекі «Марыйка», у падрыхтоўку да выдання якой вялікі ўнёсак зрабілі сябры СБП Сяргей Украінка і Мікола Яцкоў.

Былі разгледжаны прапановы па ўдасканаленні працы аддзялення і іншыя пытанні дзейнасці мясцовай пісьменніцкай арганізацыі.

### СУСТРЭЧА З НАРОДНЫМ



3 сакавіка 2013 года адбылася сустрэча народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча з Ялінкай Салаўёвай — адзінай вучаніцай адзінага беларускамоўнага класа школы № 1 Магілёва.

Ніл Сымонавіч з цікавасцю і прыязнасцю пазнаёміўся з бацькамі Ялінкі — Надзеяй і Зміцерам. Дзяўчынка прачытала верш Н. Гілевіча і ўручыла паэту падарунак, зроблены сваімі рукамі.

За кубачкам гарбаты адбылася сяброўская гутарка, падчас якой размова пра беларускасць і родную мову перапляталася з успамінамі і чытаннем вершаў.

У сустрэчы прыняў удзел старшыня Магілёўскага аддзялення СБП Мікола Яцкоў.

## КРАСАВІЦКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



12.04.1938 — Алесь Герасімавіч Масарэнка
15.04.1938 — Пётр Рыгоравіч Макарэвіч
15.04.1958 — Леанід Уладзіміравіч Маракоў
24.04.1938 — Аляксандр Дзям'янавіч Стадуб
28.04.1953 — Валянціна Іванаўна Аксак

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

ПОВЯЗЬ

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ І ВЯЛІКАЯ СЕВЯРЫНКА

**У Вялікасевярынкаўскай агульнаадукацыйнай школе на Кіраваградчыне (Украіна) шануюць памяць беларускага пісьменніка Васіля Быкава. Настаўнікі і вучні гэтай школы — даўнія добрыя сябры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**

Як вядома, з Кіраваградчынай звязаныя няпростыя старонкі біяграфіі нашага пісьменніка. У час Другой сусветнай вайны Васіль Уладзіміравіч ваяваў на ІІ і ІІІ Украінскіх франтах, быў двойчы паранены, ляжаў у шпіталях. У 1944 годзе бацькі пісьменніка атрымалі паведамленне, што іх сын мужна загінуў у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі каля Кіраваграда. Але Быкаў выжыў. І апісаў тыя жахлівыя баі пад Вялікай Севярынкай у аповесці «Мёртвым не баліць»…

Памяць пра народнага пісьменніка Беларусі жыве ў тым мястэчку і сёння. Дзесяцікласнікі Вялікасевярынаўскай школы факультатыўна вывучаюць музеязнаўства і працуюць у музейным пакоі «Васіль Быкаў і наш край». Сёлета склад экскурсаводаў быў абноўлены, была праведзена экскурсія для настаўнікаў выяўленчага мастацтва Кіраваградскага раёна.

Цяпер ідзе збор матэрыялаў для стварэння школьнага вэбсайта пра дзейнасць школьнага музея пра Васіля Быкава. Адбылася чытацкая канферэнцыя па вядомым творы Васіля Уладзіміравіча «Жураўліны крык», а ў траўні ў Вялікасевярынаўскай школе плануецца правядзенне такога ж мерапрыемства па кнізе «Доўгая дарога дадому».

**Прэсавая служба СБП**

ПАЛІЦА

# «НОВЫ ЗАМАК»: 2012

**Традыцыйна напрыканцы года літаратурнае жыццё прыкметна актывізуецца.**

Спешна друкуюцца апошнія запланаваныя ў серыях выдавецтваў кнігі, адбываецца стварэнне выніковых рэйтынгаў найбольш папулярных твораў, ідзе складанне лонг і шорт-лістоў прэмій, падлічваюцца асобнікі, аўтарытэтныя эксперты аддаюць галасы, абвяшчаюцца відавочныя фаварыты і называюцца нечаканыя адкрыцці. На тле татальнага рэзюмавання з'яўленне нечага новага праходзіць неяк незаўважна, ці, нават, калі і адзначаецца, то падсвядома пераносіцца нібы на наступны год, каб у апошні момант не блытаць нечаканай картай прыгожа раскладзены пасьянс.

У падобнай сітуацыі выяўляецца натуральна неабходным вартанне да цікавых і незаслужана незаўважаных падзей, што мелі месца ў 2012 годзе.

Найперш хацелася б спыніцца на важнай з'яве, якой стаўся выхад літаратурнага альманаха «Новы замак», запачаткаванага Гродзенскім абласным аддзяленнем Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Варта адразу адзначыць, што з'яўленне альманаха стала прыемнасцю, але не тое каб нечаканасцю. Беларушчына ў шырокім сэнсе разумення гэтае з'явы, нягледзячы на дзесяцігоддзі дэнацыяналізацыі, мае ў заходнім рэгіёне натуральнае і адносна трывалае апірышча. Невыпадкова ў слыннай кнігарні «Ў» сярод розных раздзелаў і рубрык ёсць адмысловая «Гродзенская палічка».

Улічваючы гэтыя акалічнасці, вазьму на сябе адказнасць меркаваць, што выхад альманаха стаўся лагічным крокам гарадзенскай пісьменніцкай супольнасці на шляху замацавання сваёй творчай адметнасці і краёвай згуртаванасці.

Што да назвы, то яна падаецца надзвычай удалай, бо атрымалася з аднаго боку грунтоўнай, з другога сімпатычнай і запамінальнай. Тут спалучыліся (патрэбная такому выданню, як альманах) дыхтоўная традыцыйнасць з імкненнем да развіцця і пошуку. І, калі першае фармулюецца ў вобразе «замку» — цвержы, фартэцы, з яе магутнасцю і непахіснасцю, то другая частка выяўляецца ў яго «навасці» з адкрытасцю свежым поглядам і сучасным тэндэнцыям. У спалучэнні ж мы атрымліваем шматузроўневасць, здольную аб'ядналь пад адной вокладкай творцаў розных стыляў і пакаленняў.

Рэдакцыя ў складзе Юркі Голуба, Сяргея Астраўца, Ігара Жука, Аляксея Пяткевіча і Сяргея Чыгрына прапануе чытачу класічную будову замкавага гмаху: паэзія, проза, пераклады і крытыка. Пасля па-добраму груваcткай і паастраўцоўску мудрагелістай прадмовы ўкладальніка, які гасцінна запрашае ў новаствораны замак, расчыняючы перад чытачом браму са сфінксамі, увазе чытача прапануецца раздзел паэзіі.

Яго распачынае маладая гарадзенская паэтка Ганна Аўчыннікава, аўтарка кнігі «Ад зачыненай брамы». Далей ідзе нізка вершаў-прысвячэнняў, створаных у адметнай манеры вядомай паэткай Данутай Бічэль. Гэта сапраўдная галерэя партрэтаў Ларысы Геніюш, Адама Станкевіча, Кастуся Тарасава і іншых славутых беларускіх дзеячаў рознага часу.

Наогул варта адзначыць прыемную зместавую і стылёвую разнастайнасць твораў, змешчаных у паэтычным раздзеле альманаха. Тут і светлая лірыка Уладзіміра Васько, і праўдзіва-шчырыя прызнанні Анатоля Валюка, і зараджаныя пазітывам палкія, як маніфесты, вершы Алеся Жамойціна, і напоўненыя мудрасцю творы Яўгена Петрашэвіча, і класічныя трыялеты Алеся Старадуба, і эксперыментальныя таўтаграмы Сяргея Чыгрына.

Празаічны раздзел ачолены філасофскай гісторыяй-роздумам спадара Сяргея Астраўца «Мармур не смяецца», у якой чытач напоўніцу адчуе велічны дух Гародні і канчаткова ўпэўніцца ў асабістым знаёмстве аўтара з апошнім каралём Рэчы Паспалітае Станіславам Аўгустам Панятоўскім. Таксама ў раздзеле змешчаныя тэксты як ужо знаёмых чытачам пісьменнікаў — Валянціна Дубатоўкі і Алы Петрушкевіч, так і творчыя спробы маладога аўтара Стаса Ілліна.

У невялікім раздзеле перакладаў у большыні прадстаўленыя вершаваныя тэксты невялікага памеру. Тут суседнічаюць і творы сусветна вядомага Адама Міцкевіча, і рэчы малавядомых ці зусім невядомых аўтараў (песні уланаў 17-га палка Літоўскай кавалерыі). Усе пераклады зробленыя выключна з польскай мовы, а таму відавочная неабсяжная перспектыва для далейшага пашырэння моўнага спектру.

Асобную цікавасць у аматараў і знаўцаў выклікаюць апошнія раздзелы альманаха, дзе змешчаныя эсэ, крытычныя артыкулы, дзённікавыя запісы за аўтарствам Аляксея Пяткевіча і Сяргея Чыгрына.

Такім чынам, брама гасцінна расчыненая — «Новы замак» вітае чытача!

**Усевалад Сцебурака**

MEMORIA

# ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ

**2 сакавіка спачыў у вечнасці Мікола Арочка, беларускі паэт, перакладчык і літаратуразнаўца.**

Мікалай Мікалаевіч Арочка нарадзіўся 10 снежня 1930 года ў вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна Гарадзенскай вобласці.

Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1956) працаваў у часопісе «Сельская гаспадарка Беларусі» і ў газеце «Літаратура і мастацтва». У 1966 г. скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Доктар філалагічных навук. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1958 г.

Свае апошнія дзесяцігоддзі ён мусіў праводзіць у роднай вёсцы, дзе займаўся сельскай гаспадаркай і пісаў паэмы і вершы. Вось адзін з апошніх вершаў Міколы Арочкі «Падсочка»:

*Дажываюць сосны бору.*
*Бор той не стары.*
*Галаву задзёршы ўгору,*
*ходзяць там майстры*
*і разцом шваргочуць моўчкі.*
*Крапне з-пад ляза*
*не жывіца ад падсочкі,*
*а бурштын-сляза.*
*Льецца ў посуд, нібы ў лейку,*
*праз канаўку-роў.*
*Меднастволіцам — паўвеку.*
*Маладая кроў...*
*Ды заступніцкае моцы*
*я не маю тут.*
*Сам я чуюся ў падсочцы,*
*як і ўвесь мой люд.*

ВЕРШЫ

# МАМІНЫ ЯБЛЫНІ, БАЦЬКАЎ ВЯЗ…

Рыгор БАРАДУЛІН

## Прысвячэнне

*Той край*
*Не проста край зямлі,*
*А цэнтр Сусвету.*
*Там некалі мяне знайшлі,*
*І дату гэту*
*На камені сівы груган*
*Накрэсліў дзюбай.*
*Там песціў ціцшыню туман,*
*Як перад згубай.*
*На лічбы*
*Там загадваў*
*Нуль:*
*Яго якая?*
*Там цень збянтэжаны*
*Дасюль*
*Мяне чакае…*

***

*Мой недатыкальны запас*
*Пад прыглядам роднага краю —*
*Маміны яблыні,*
*Бацькаў вяз*
*І пугурак,*
*Дзе мама чакае…*

## Проста

*Рэха шукае крок,*
*Крок разгубіўся знарок.*
*Перапялёсы шляк*
*Лёг на прымлелы шлях.*
*Ловіць туман трапяткі*
*Раніца ў дзве рукі…*

## Акравітанне

**Адзе Райчонак**

*Вясна сябе гадуе для нагоды.*
*Ідзе хадой халоднай крыгалом.*
*Таіцца бліскавіцу вучыць гром.*
*Атожылку святла стае лагоды.*
*Юнець штораз чаканне пачынае.*
*Ахапісты смялее ветравей.*
*Даўжэюць веі чаратовых вей,*
*Ад хвалявання цесна пад чаўнамі…*

***

*Пакуль жыццёвы агмень у вачах,*
*Ты мусіш насіць галаву на плячах.*
*І, ўрэшце, у зношанай галаве*
*Апошняя думка*
*Кудысьці сплыве…*

***

*Здзіўленне —*
*Малое дзіця.*
*Развага —*
*Бабуля сівая.*
*Прысуджаны да жыцця,*
*Свае гады адбывае…*

***

*Пытанне мінулай вясне*
*Часцей задаю цяперака:*
*Хто гэта праз мяне*
*Глядзіцца ў люстэрка?..*

***

*Можна глядзець бясконца,*
*Як год мяняе свой код,*
*Як зябка ўзыходзіць сонца,*
*Як мыецца рыжы кот…*

***

*Падрасла вышыня.*
*Цьмее позірк савы.*
*Цень гарэлы ў агня.*
*Век зялёны ў травы…*



Фота www.budzma.org

***

*Каб вогнішчу было лам'я,*
*Павінна родніцца ламота.*
*І ў вераб'я страха свая.*
*І ў буцяна сваё балота…*

## Па часе

*Знікаюць дні,*
*Як беглыя вязні.*
*Цішэе тлум*
*На людскім кірмашы.*
*Па часе*
*Пачынае выразней*
*Акрэслівацца*
*Профіль душы…*

## Сівагаловае

*Раскрыллі зморшчын на лобе.*
*Ці гэта думкі некуды лёталі,*
*Альбо праляцелі блізка,*
*А не дакрануліся да галавы.*
*І ў няўтульнай жалобе,*
*У непрыхаваным потаі*
*Сама сябе люляе калыска,*
*Парыпваючы,*
*Што клёк жывы*
*Яшчэ*
*Пакуль не ўцячэ…*

***

*Самотна аціхлы,*
*Калі-нікалі*
*Сябе запытваю ў скрусе:*
*Ці яшчэ я*
*На гэтай зямлі,*
*Ці, можа,*
*Сабе ўжо снюся?..*

***

*Як туман пасівелы,*
*Прачнуўся*
*І клічу голасна:*
*Мама.*
*Ёй адгукнуцца*
*Не выпадае.*
*Старым*
*Не паспагадае раніца,*
*Бо маладая…*

***

*Добра там,*
*Дзе нас няма, —*
*Нездарма казалі.*
*Ну а там,*
*Дзе мы ёсць,*
*Толькі зайздрасць,*
*Толькі злосць,*
*Яміны ды ўзваллі.*
*Покуль мы*
*Не там, а тут,*
*Жахі няньчыць*
*Кожны кут…*

***

*Каб паўтарацца,*
*Ўсё міне.*
*Ніколі не старэе стома.*
*Хто будзе мной*
*Пасля мяне,*
*Я ведаю,*
*Каму вядома…*

***

*Як той сланечнік пераспелы,*
*Хілюся ўдзячна да зямлі.*
*За сонцам дні мяне вялі,*
*Як той сланечнік пераспелы.*
*Гром цішыні чытаў навэлы.*
*Шукалі дзікі мёд чмялі.*
*Як той сланечнік пераспелы,*
*Хілюся ўдзячна да зямлі…*

***

*І цень мой*
*Не пазнае мяне,*
*Мяне, маладога калісьці.*
*Гадоў былых жаўталісце*
*У стомленых рэчках*
*На дне.*

*Не зазелянець яму,*
*Не ўсплысці.*
*Ніцеюць новыя цені.*
*Мігценне,*
*Знікненне,*
*Трымценне, —*
*Усё ажывае ў жыцці…*

## З узростам

*Час сам па сабе*
*Ахвотна цячэ.*
*Палаюць то спёка, то сцюжа.*
*Жыццё не адпускае яшчэ.*
*Ды ўжо й не трымае*
*Дужа…*

***

*Несупыннасці багаты сусед,*
*Час,*
*Мае лінію на прыкмеце.*
*Азяблы Сусвет*
*Пазірае на нас,*
*Як на чарговае смецце.*
*Зграаючы з зорамі,*
*Паўтараемся ў сораме…*

***

*На плыні плыў,*
*Заліў хваліў.*
*І заадно*
*Пайшоў на дно…*

***

*Калі на зямлі*
*Чарната веснавая,*
*І снегу*
*Не да белага смеху*
*Бывае…*

***

*Картавы крумкач*
*Пад уначэлым крылом*
*Нёс чорны плач.*
*Шаптала пагарда:*
*Ці шчырэй, ці лайдач,*
*Будзеш заўважаны тлом…*

## Прысненне

*Маланка сцюдзёна*
*Ў імгненні жыве.*
*Смялее страх —*
*Падхартаны ваўчыла.*
*Іголку сасны*
*Ў недаспанай траве*
*Шукае краўчыха-цемра*
*З вырачанымі вачыма…*

## Каб запытацца…

*Як і твае неўміручыя продкі,*
*З сонцам вітаешся,*
*Кленчыш вадзе.*
*Век твой, як цень,*
*Цень, як век твой кароткі.*
*Мітаешся.*
*А жыццё ідзе.*

*Носяць вянкі жывыя кашамі.*
*Усё жывое ў жывой чарадзе.*
*Родныя дзеці*
*У лёса ў пашане.*
*Зводныя збоку.*
*Жыццё ідзе.*

*Ні перагнаць.*
*Ні дагнаць немагчыма.*
*Рух несупынны —*
*Жыццё ідзе.*
*Сустрэцца б з вачыма*
*Лёса-айчыма,*
*Каб запытацца,*
*Дзе?*

***

*З восенню жураўвы*
*На «вы».*
*З раніцай чараты*
*На «ты».*
*А як з сабою самімі*
*У туманковым дыме?..*

***

*Так з горкай душою і даўякую,*
*З маўчаннем перагукваючыся вачыма.*
*Ты Песня песняў мая,*
*Якую пераспяваць немагчыма…*

***

*Не апраўдаў тваіх надзей,*
*Не ашчадзіў твайго даверу.*
*Цяпер і сам сабе не веру,*
*Свой між зняверaных людзей.*

*Спяшаецца за годам год.*
*Жыццё, як даўгавая яма.*
*І следам за табою, мама,*
*Ніцее наш старэнны род…*

**2011–2013 гг.**

ГЕРАДОЦІНКІ

# СЛЁЗЫ АПОШНІХ МАМАНТАЎ

Леанід ДАЙНЕКА

## Залаты туман мінулага

У часопісе «Маладосць» я працаваў адказным сакратаром 16 гадоў і 11 месяцаў. Невераемная для нашага хуткаплыннага часу лічба! Калі-нікалі здаецца, што ўсё гэта адбылося не са мною, што нехта іншы хадзіў і ездзіў усе доўгія гады на працу, спачатку ў ЦК камсамола на вуліцы Карла Маркса, дзе месцілася рэдакцыя, потым у Дом друку на Ленінскім праспекце, куды мы перабраліся, бо камсамольскім правадырам пачалі замінаць шумлівыя не дужа дысцыплінаваныя журналісты і іхнія аўтары — самы розны, надзіва экзатычны люд.

Калі быць шчырым, я й не думаў, што некалі буду працаваць у «Маладосці». Занадта высокаю была вяршыня. Праўда, я там ужо друкаваўся. Мая паэма «Ключ» з лёгкай, па-бацькоўску клапатлівай рукі цудоўнейшага чалавека і паэта Міколы Аўрамчыка пабачыла свет на старонках часопіса і нават была ўганаравана штогадовай камсамольскай прэміяй. З Віцебска, дзе я кіраваў дзіцячай рэдакцыяй абласнога тэлебачання, я прыехаў атрымліваць нечаканую ўзнагароду ў Мінск. Там пазнаёміўся і назаўжды пасябраваў з гэтакімі ж самымі, як я, лаўрэатамі, маладымі прыгожымі Жэняй Янішчыц і Алесем Рыгам. Увечары ў гатэлі «Мінск» мы шчыра ўзнімалі келіхі віна, шчыра радаваліся. Твары маіх новых знаёмых ззялі шчасцем. Як шкада, што Жэня і Алесь ужо адляцелі ў незваротны вырай з гэтага свету!

Вярнуўся ў Віцебск, і неўзабаве тэлевізійныя клопаты выцеснілі з галавы і прэмію, і часопіс «Маладосць». Ды нечакана часопіс зноў напомніў пра сябе — у наш абласны цэнтр прыехаў у творчую камандзіроўку адказны сакратар «Маладосці», мой абаяльнейшы зямляк з Клічаўшчыны Анатоль Кудравец. Мы сустрэліся з Толем, хадзілі над Дзвіною і ў гарадскім парку, размаўлялі. Вядома, была й чарачка.

— Табе перадаваў прывітанне Мікола Якаўлевіч Аўрамчык, — сказаў Кудравец. — Дарэчы, ён цікавіцца, чаму ты не ўступаеш у Саюз пісьменнікаў. Ён гатоў напісаць табе рэкамендацыю. Я таксама магу.

Паклон вам, мілыя добрасардэчныя людзі! Ніколі не забуду ваш клопат, вашу ўвагу. У жорсткім хапатліва-зубастым свеце, дзе з усіх бакоў імкнуцца ўкусіць, падставіць нагу, вы, як маякі спагады і дабрыні, да якіх цягнецца спакутаваная чалавечая душа.

Праз нейкі год з Віцебска я перабраўся ў Мінск, уладкаваўся на пасаду старшага рэдактара ваенных праграм маладзёжнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання. Гарнізоны, ваенкаматы, вайсковыя часткі,прызыўныя пункты... Словам, як у той песні — «не плачь, девчонка, пройдут дожди. Солдат вернётся. Ты только жди..». Душа не гарнулася да казармы, але трэба было зарабляць дзецям на хлеб, жонцы на парфуму.



Леанід ДАЙНЕКА

Працуючы на спрэс расійскамоўным тэлебачанні, я сумаваў па беларускаму слову, пры любой нагодзе імкнуўся трапіць туды, дзе збіраліся на свае мерапрыемствы пісьменнікі, дзе можна было наталіць беларушчынай душу. Вось такія парыванні прывялі мяне спякотным жніўеньскім днём 1972 года на Маскоўскія могілкі Мінска, дзе адбывалася пахаванне рэдактара часопіса «Беларусь» пісьменніка Іллі Гурскага. Калі аддалі родлай зямельцы аўтара рамана-хронікі «Вецер веку», да мяне падышоў Васіль Зуёнак, намеснік галоўнага рэдактара «Маладосці».

— Леанід Мартынавіч, — сказаў ён. — У нас з'явілася вакантнае месца. Анатоль Кудравец, адказны сакратар, запрошаны на працу ў ЦК КПБ. Прапануем табе стаць нашым «начальнікам штаба».

Начальнік штаба! Упершыню ад усмешлівага Васіля Васільевіча пачуў я гэтыя словы. Вядома ж, у іх быў прыхаваны гумар, нязводны пісьменніцкі сцёб, але я, супрацоўнік тэлевізійнай ваеннай рэдакцыі, кожны дзень сутыкаўся з такімі словамі, можна сказаць, жыў імі. Я згадзіўся. Вось такім чынам у кастрычніку 1972 года пачалася мая маладосцеўская адысея. Адразу ж скажу: я ўдзячны лёсу, які звёў мяне са славутым калектывам славутага беларускага маладзёжнага часопіса.

Рэдакцыя месцілася на другім паверсе будынка, дзе зараз знаходзіцца цэнтральны офіс БРСМ. Нам выдзелілі чатыры пакоі. У першым сядзелі галоўны рэдактар з намеснікам, у другім — аддзелы паэзіі і прозы, у трэцім — адказны сакратар і аддзел культуры, у чацвертым (самым шумным!) — машыністка Ларыса Пятроўна Кунько з нязменнай цыгарэцінай у роце, аддзел публіцыстыкі, тэхрэд, карэктар і мастак. Ага, ледзь не забыўся — у саменькім падвале меўся яшчэ адзін пакойчык, дзе са сваёй апаратураю атабарыўся Валянцін Ждановіч, цудоўнейшы, вельмі разумны хлопец, апантаны фатограф-публіцыст, які праз шмат гадоў так трагічна пайшоў з жыцця.

З выдатнымі людзьмі, супрацоўнікамі і аўтарамі, звяла мяне «Маладосць»! Колькі было сустрэч, размоў, спрэчак, дыскусій! Колькі было ўсмешак, шчырых сяброўскіх поціскаў рук! Узіраюся ў залаты туман мінулага, услухоўваюся, і сэрца трапеча ў грудзях.

«Маладосць», як казалі ў тыя часы, была ОРГАНАМ ЦК камсамола Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР, «Мы — слугі двух гаспадароў», — жартавалі маладосцеўцы. Камсамольцы, трэба зазначыць, ліберальнічалі і асабліва не ўмешваліся ў нашы рэдакцыйныя справы. Раз на тыдзень галоўны рэдактар хадзіў да іх наверх на лятучкі ды аддзел публіцыстыкі, якім кіраваў мудрэйшы Сцяпан Іванавіч Кухараў, заслужаны франтавік, што пакінуў свой подпіс на сцяне фашысцкага рэйхстагу, павінен быў «асвятляць» кіпучае камсамольскае жыццё. А жыццё тое біла праз край. З'езды. Пленумы. Працоўныя вахты ў гонар бясконцых рэвалюцыйных гадавінаў. Сацыялістычнае спаборніцтва. Няспынна грукатаў велізарны прапагандысцкі барабан. Сцяпан Кухараў спакойна і ўпэўнена вёў карабель публіцыстыкі па гэтым штармавітым моры, і ў ягоных блакітных вачах гарэў агеньчык лёгкай іроніі. Дапамагалі яму цудоўнейшыя хлопцы: чубаты няўрымслівы амаль двухмятровы Алесь Гаўрон, які меў тонкую паэтычную душу, і разважлівы добразычлівы філосаф Валодзя Саламаха.

Памятаю — мы ўзялі шэфства над саўгасам «Адраджэнне» Ганцавіцкага раёна. Тады было модна над некім шэфстваваць. На рэдакцыйнай «Волзе», якой віртуозна кіраваў жыццярадасны шафёр, ён жа малады таленавіты празаік Анатоль Пенязь, паімчаліся ў палескую глыбінку. Там было на што глянуць! Самабытныя несапсаваныя разбэшчанай гарадской цывілізацыяй людзі і цудоўная велічная ў сваёй крынічнай непарушнасці палеская прырода. «Вось адкуль, — думалася нам, — трэба чэрпаць матэрыяльныя шчадроты і духоўныя сілы». Ды й тут цякло далёка неідылічнае жыццё. Пажылая даярка, што ў гумовых запэцканых ботах цяжка ішла з двума поўнымі вёдрамі малака нам насустрач, раздражнёна выдыхнула, даведаўшыся, што мы журналісты, толькі адно слова:

— Ілгуны!

Мы сумеліся, спыніліся. Сітуацыю змякчыў Сцяпан Іванавіч Кухараў.

— Маладзічка, давай я табе дапамагу паднесці вёдры, — прыязна ўсміхнуўшыся, прамовіў ён і спрытна ўзяў з рук у суровай паляшучкі вёдры.

Трэба зазначыць, што калектыў «Маладосці» заўсёды быў дружны, згуртаваны. Інтэлігентныя адукаваныя людзі працавалі ў часопісе на самых розных пасадах. Мы разумелі, у якім жывем часе і чаго чакаюць ад нас улады. Мы стараліся рабіць сваю справу сумленна і прафесійна.

Калі з камсамолам усё было загадзя выверана і цякло ў звычна-нязменным ідэалагічным рэчышчы, то маладыя і сталыя аўтары, паэты, празаікі, драматургі, крытыкі, мастакі, публіцысты, гумарысты (каго яшчэ не прыпомніў?) вымагалі столькі клопату, столькі нервовых сілаў, часам даводзячы сітуацыю да кіпення, што я шчыра спачуваў загадчыкам аддзелаў, якія кожны дзень, кожны за сваім заваленым рукапісамі сталом сустракаліся твар у твар з гэтай неўтаймаванай творчай рацццю. Якія аўтары прыходзілі да нас! Якія імёны! Якія характары! Гледзячы на іх, слухаючы іх, размаўляючы з імі, парывістымі і гарачымі, я яшчэ тады, дваццаць гадоў таму, пераканаўся ў несмяротнасці нашага беларускага слова, нашай літаратуры. Такія людзі (цвёрда думаў і думаю я) не могуць служыць часовай дробязнай справе. Яны кожны ў меру сваіх здольнасцяў, натхнення і цярпення працуюць на вечнасць.

**Інтэлігентныя адукаваныя людзі працавалі ў часопісе на самых розных пасадах. Мы разумелі, у якім жывем часе і чаго чакаюць ад нас улады. Мы стараліся рабіць сваю справу сумленна і прафесійна**

Падчас свайго сакратарства ў «Маладосці» я блізка пазнаёміўся з сотнямі нашых творцаў. З некаторымі нават пасябраваў. Што тысячца надрукаванага намі, то шмат якія творы ўвайшлі ў залатую скарбніцу беларускай літаратуры. Не буду іх пералічваць. Яны на слыху, яны ў сэрцах аматараў прыгожага пісьменства.

Мне пашчасціла працаваць поруч з такімі цудоўнымі мудрымі людзьмі, як Мікола Аўрамчык, Уладзімір Дамашэвіч, Яўгенія Янішчыц, Пятрусь Макаль, Янка Сіпакоў. Гэта — загадчыкі літаратурных аддзелаў. А былі ж яшчэ мастакі — Пятро Лысенка, Уладзімір Крукоўскі, Мікола Купава, Анатоль Зайцаў, Віктар Казлоў, Уладзімір Конаш. Нельга не ўспомніць добрым словам і цярплівага тэхрэда Яніну Важнік, і пільных адукаваных карэктараў Валянціну Шылянкову, Пятра Ліпая, Маю Вінаградаву. Не магу не адзначыць тактоўнасць і прафесіяналізм намеснікаў галоўнага рэдактара Вячаслава Адамчыка і Генрыха Далідовіча. Разам мы рабілі нашу «Маладосць»!

На працягу майго доўгага сакратарства нада мной «стаялі» (пэўна, не самае ўдалае слова ў гэтым кантэксце, але якое знайшлося) тры галоўныя рэдактары: Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Анатоль Грачанікаў. Вартыя самай высокай пахвалы разумныя і сумленныя людзі. Праўда, калі быць даастатку шчырым, з Генадзем Бураўкіным у мяне не надта каб склаліся прыязныя таварыскія адносіны. Мяркую, я быў не з ягонай каманды. У «Маладосць» Генадзь Мікалаевіч прыйшоў месяцы на два пазней мяне і, як галоўны рэдактар і чалавек з ярка выражанай начальніцкай стрункай, пачаў запрашаць пад сваё кіруючае крыло аднадумцаў і таварышаў. Ён пачаў запрашаць, а тут на пасадзе адказнага сакратара ўжо сядзіць нейкі незнаёмы яму Дайнека!

Я — чалавек цягавіты, цярплівы, па-свойму ўпарты. У мяне ў душы (я гэта часцяком адчуваю) сядзіць нейкі сталёвы дрот. Гнецца той дрот, аж рыпіць, але не ломіцца. Не гледзячы на халодныя стасункі з шэфам, я працаваў і працаваў паспяхова. 227 нумароў «Маладосці» я прачытаў, як кажуць, ад дошкі да дошкі. Ні разу (!) па віне сакратарыята не спазнілася здача нумара ў набор. Своечасова вычытваліся карэктуры, рыхтаваліся матэрыялы на чарговы нумар, здаваліся ганарарныя ведамасці. Працавалі дружна і зладжана, без залішняй мітусні. Тыраж часопіса вырас да 21 тысячы паасобнікаў! Прапагандуючы падпіску на часопіс, мы выступалі на рыдыё і тэлебачанні, у школах і студэнцкіх аўдыторыях, у раённых цэнтрах і ў вёсках. Ад імя «Маладосці» я лётаў у Ерэван, Кіеў і Талін. Мацавалася дружба маладзёжных часопісаў саюзных рэспублік, рыхтаваліся абменныя нумары. Гэта было, гэта нельга забыць.

Для сябе я зрабіў нечаканае адкрыццё — аказваецца, ёсць такое паняцце, як «начальніцкі смех». Заходзіў Генадзь Мікалаевіч у які-небудзь з аддзелаў, пачынаў нешта расказваць, пачынаў смяяцца, а, калі быць дакладным, рагатаць. Вакол яго збіралася купка супрацоўнікаў — і залівістая разносілася па ўсёй рэдакцыі: Га-га-га! Гы-гы-гы! Няйначай калгасныя гусі выйшлі на зялёны лужок.

Я не прыхільнік такой калектыўнай і, пэўна ж, ліслівай весялосці. Пра сябе я магу сказаць словамі Грыбаедава з камедыі «Гора ад розуму»:

— Служить бы рад. Прислуживаться тошно.

Правіннасцю маёю было й тое, што я не адносіў сябе да так званага «філалагічнага пакалення», гэта значыць, да тых хлопчыкаў і дзяўчатак, што з-за школьнай парты адразу ж шчасліва ўпырхнулі ў студэнцкія аўдыторыі. Пасля школы я сем гадоў быў будаўніком, грузчыкам, электраманцёрам, салдатам, жыў у рабочых інтэрнатах, у казармах, словам, сербануў суровага працоўнага жыцця, пакаштаваў нялёгкага чорнага хлеба. Гэтыя ж «філолагі» весела і бесклапотна шчабяталі аб нейкіх узвышаных матэрыях, верылі, не панюхаўшы сапраўднага жыцця, камуністычным байкам пра несупынны росквіт краіны, і менавіта ім партыя даручала кіруючыя пасады. Яны стварылі своеасаблівы літаратурны клан, які абслугоўвалі іхнія ж хвалебнаслоўныя крытыкі. У той клан дапускаліся толькі «свае». Я на ўсё гэта глядзеў з іроніяй. Маімі духоўнымі сябрамі былі маладыя і, як паказала будучыня, геніяльныя творцы Іван Ласкоў і Кастусь Тарасаў, абодва, дарэчы, не філолагі, а хімікі па адукацыі.

— Будзем бюракратамі! — строга казаў мне ў сваім начальніцкім кабінеце Генадзь Мікалаевіч Бураўкін. Сёння ён кажа: «Будзем дэмакратамі!». І гэта вельмі добра. Значыць, жыццё развіваецца ў правільным накірунку.

Шмат пра што хацелася б успомніць. Мілыя прыемныя дробязі ўсплываюць у памяці. І шумныя шахматныя бataлii ў кабінетах «Маладосці», калі над дошкай апантана схіляліся і аўтары, і супрацоўнікі часопіса. Лічу, што тыя гульні ўздымалі маральны аўтарытэт нашага часопіса ў вачах ягоных прыхільнікаў, бо чалавек, які азартна са смакам разблытвае шахматныя галаваломкі, не можа быць абмежаваным і прымітыўным.

Узгадваецца таямнічы пладавіты гумарыст Сцяпан Даймак. Гэты псеўданім так і не расшыфраваў сам Янка Саламевіч, даследчык беларускіх псеўданімаў. А пісала дасціпныя творы вясёлая тройца — Сцяпан Кухараў, Леанід Дайнека і Пятрусь Макаль. Вось адкуль з'явіўся Сцяпан Даймак.

…Напаследак жа яшчэ раз скажу:

— Я шчаслівы, я ганаруся тым, што ў маім жыцці была «Маладосць»!

## 25 сакавіка 2008 года

*Унукі Мяснікова,*
*Амапаўская рацць,*
*Яшчэ вы не гатовы*
*ДЗЕНЬ ВОЛІ святкаваць.*
*З дажджу і снегу каша*
*На вуліцах сырых.*
*Дручкі дубасяць вашы*
*Па спінах маладых.*
*Пад ногі, нібы смецце,*
*Кладзецца сцяг, плакат.*
*Гатовы вы памерці,*
*Ды выканаць загад.*
*Глядзіць з замілаваннем*
*Таварыш Мяснікян —*
*Лупцуюць не армянаў.*
*Славяне б'юць славян!*
*Што горцу нашы беды*
*І слёзаў ручаі,*
*Снег бел-чырвона-белы*




*Ад маладой крыві,*
*Пакутніцкія сцежкі*
*Чужых сыноў, дачок?*
*Ён з сыценькай усмешкай*
*Свой смокча каньячок.*

* * *

Маецца ў нашай дзяржаве даволі вядомая грамадская арганізацыя пад назваю «Белая Русь». Кажуць, яна хоча ператварыцца ў палітычную партыю. Што ж, цудоўная задума, выдатная ідэя, але ж… Але ж падчас грамадзянскай вайны іх адразу б паставілі да сценкі. Якая-такая Белая Русь?! Вы што, сытыя морды, — белагвардзейцы?!

* * *

У творчасці, у жыцці, у каханні, у сваіх алкагольных буйствах шаленствах скрозь ён — СЫС!

СЫС, а не Сысунок.

* * *

— Не вешай нос, бацька! — весела кажа мне мой старэйшы сын Сяргей, калі я, бывае, маркочуся з-за чарговых вытворчых цяжкасцей. — Галоўнае, што мы — прадпрымальнікі. Мы — свабодныя.

Нас ніхто не наймаў. МЫ САМІ СЯБЕ НАНЯЛІ!

Апошнія сынавы словы друкую буйным шрыфтам. Дзякуй, сын, за разуменне!

* * *

Як вядома, рускі цар Пётр Першы ( хтосьці называе яго Вялікім, хтосьці — самадурам і катам на троне) загадаў усім баярам у адзін дзень абстрыгчы свае доўгія бароды. Нават сам хапаўся за вострыя нажніцы. Дзеля чаго стараўся каранаваны цырульнік? Зрабіць баяраў падобнымі да галашчокіх галандцаў? Вырваць з коранем (з воласам!) дух стараверства-раскольніцтва? Невядома.

А вось Аляксандр Македонскі таксама прымусіў сваё воінства развітацца з барадамі. І вядома — чаму. Справа ў тым, што падчас шматлікіх бітваў ворагі налаўчыліся адной рукою хапаць грэцкіх гаплітаў за бароды, а другой, у якой быў меч, адсякаць ім галовы.

Давайце, паважаныя чытачы, параўнаем двух Вялікіх, параўнаем Пятра з Аляксандрам. Першы рэзаў людзям бароды з царскага капрызу, з дзікай усёдазволенасці. Другі ратаваў сваім людзям жыццё.

## Памяці Веры Вярбы

Памерла прыгожая жанчына.

Абламалася чароўная кветка.

Не завешвайце люстэркі чорным крэпам.

Яна штодзённа радасна глядзелася ў іх.

Яна ўсміхалася ім.

Яны памятаюць яе прыгожай-прыгожай…

Яна памерла…

А рушнікі, вытканыя ейнымі рукамі і ейным сэрцам,

Плывуць і плывуць па беларускіх рэках.

## Паводле песні з кінафільма «Брыльянтавая рука»

*Слухайце, замежныя*
*госці. Кожны госць!*
*Выспа Незалежнасці*
*У Еўропе ёсць.*
*Там жывуць прыўкрасныя*
*Людзі-бульбашы.*
*Шчырыя калгаснікі.*
*Злёгку алкашы.*
*На бязмежных гонях там*
*Расквітнеўся рапс.*
*Жлукціаць самагоначку,*
*А не фрыцаў шнапс.*
*Там рэкорды валяцца!*
*Там расце працэнт!*
*Там Еўропе хваляцца:*
*— Мы твой, бабця, Цэнтр!*

## Два факты з часопісаў…

У 1911 годзе паэт-пачатковец Ілля Эрэнбург перадаў праз родную сястру сваю першую кніжку вершаў Максіміляну Валошыну. Ні аўтар, ні ягоная сястра не заўважылі, што падарункавы экзэмпляр ушыты ў вокладку «уверх нагамі». Разгарнуўшы кніжку, Валошын спахмурнеў: «Ох, ужо гэтыя дэкадэнты! Друкуюць свае зборнікі шыварат-навыварат, абы прыцягнуць увагу публікі». І вельмі суха падзякаваў даме.

Тая ж разгневана напісала брату, г.зн. Іллю Эрэнбургу: «Валошын, каб выказаць сваю пагарду, дэманстратыўна разглядваў тваю кнігу ўверх нагамі!».

Вось тут і разбярыся!

* * *

Вядомы нямецкі фізік Паскуаль Ёрдан выдаў кніжку «Прыцягненне і космас». Некалькі асобнікаў былі з друкарскім бракам — асобныя старонкі ззялі першароднай чысцінёй. Папярэдне не пагартаўшы кніжку, шчаслівы аўтар напісаў свой аўтограф і паслаў геніяльнае, як ён лічыў, тварэнне ў Швейцарыю Вольфангу Паўлі. Натыкнуўшыся на пустыя старонкі, Паўлі пафіласофску зазначыў:

— Ёрдан цудоўна разумее — я ж сам магу здагадацца, што тут павінна быць надрукавана.

* * *

У часы, калі ў савецкай літаратуры квітнела «аглабельная крытыка», кожны ці амаль кожны лез на трыбуну, каб паказаць сваю класавую пільнасць, сваю цвёрдакаменную вернасць сацыялістычнаму рэалізму. Неяк з Масквы беларускім пісьменнікам спусцілі загад: «Неабходна ў пух і прах разнесці раман Пастэрнака «Доктар Жывага», карацей кажучы, «раздолбать» яго. Загадана — значыць, будзе зроблена!

І вось на трыбуне, як Зеўс-грамавержац, бушуе акадэмік АН БССР, доктар філалагічных навук, прафесар Васіль Барысенка. Ён (ёсць вялікае падазрэнне!) не чытаў твор, але ж з вуснаў ірвуцца, страляюць у прыціхлую залу гарача-гнеўныя словы кшталту:

— Гэты гнюсны адступнік! Гэты празрэнны Пастэрнак!

І гэтак далей! Нібы ўсёсакрушальны цягнік імчыцца па сталёвых рэйках!

Ды вось у зачараванай загіпнатызаванай залі мільганула (на сваю бяду!) лысая галава старога пісьменніка-падпольшчыка Піліпа Пестрака. Аратар зачапіўся позіркам за бліскучую лысіну і натхнёна грымнуў з трыбуны, выпусціў чарговы крытычны снарад, маючы на ўвазе, вядома ж, Барыса Пастэрнака:

— Гэты празрэнны Пястрак!

Адным словам — быў час, была эпоха!

## Нерон і землятрус

Усёмагутны рымскі імператар Нерон, якога звалі Агенабарб (Рудабароды), мецэнат і кат, садыст і артыст, здаволіўшыся ўсім, дасягнуўшы ўсяго, надумаўся забараніць землятрусы. Па ўсёй імперыі быў аб'яўлены імператараў указ.

І вось аднойчы, як заўсёды нечакана, грымнуў землятрус. Пахіснуліся сцены Неронавага палаца.

— Што гэта? — спалохана спыталіся імператаравыя сябрукі, спадзеючыся, што зараз пабягуць хавацца ў грот.

— Гэта пахіснуліся сцены. Землятрусу няма, — спакойна адказаў Нерон і загадаў:

— Рабы, налівайце віно.

Затым узнялася дыбком, затрашчала мармуровая падлога.

— Трашчыць падлога. Землятрусу няма, — сказаў Нерон і пачаў піць фалернскае віно.

Са сцяны трапезнай залі сарваўся залаты кубак, моцна стукнуў Нерона па галаве. Стужка крыві ярка зачырванелася на белай шчацэ ў Агенабарба.

— Што гэта, о, імператар?! — залементавалі да смерці напалоханыя сабутэльнікі.

— Упаў кубак. Землятрусу няма, — пагардліва ўсміхнуўся Нерон. — Разумееце вы, балотныя чэрві? Нават калі вы ўсе здохнеце пад абломкамі майго палаца, нават калі ў вогненную прорву зваліцца ўвесь пракляты Рым, землятрусу не будзе, бо так жадаю я.

* * *

*Няўжо мы памыліліся?*
*Мы Богу памаліліся,*
*Мы асвяцілі зброю,*
*Мы выйшлі на вайну,*
*Мы, быццам тыгры, білі \ся.*
*Няўжо мы памыліліся?*
*На трон хацелі сесці.*
*А леглі ўсе ў труну…*

## Люблю і шаную!

З незабыўных дзён залатога маленства любіў я чытаць кніжкі. Розныя кніжкі. І цікавыя, і нецікавыя. І з малюнкамі, і без малюнкаў. І нейкія даведнікі. І насценныя календары. Я чытаў пажоўклыя газеты, якімі былі абклеены сцены нашай хаты. Схіляў галаву набок і чытаў.

Вядома ж, як амаль усе хлапчукі, запоем глытаў я кніжкі пра індзейцаў — раманы Майн Рыда і Фенімора Купера. І там, у гэтых надзіва хвалюючых цудоўных кніжках, я прачытаў пра мустангаў, здзічэлых коней, якія скінулі са сваіх шыяў хамуты, збеглі ў прэрыі, збіліся ў табуны, і, даўгахвостыя і даўгагрывыя, вольна пасвяцца ў акіянах травы, аберагаючы сваіх кабыліц і сваіх жарабят. Каўбоі ды фермеры палююць на іх, забіваюць, злупліваюць шкуры, рэжуць і смажаць на агні конскае мяса. Ды гэтыя вольныя коні, не зважаючы на смяротны свінец, адважна падбягаюць уначы да агароджаў, за якімі табунніца прыручаныя «ціхія» коні, зазыўна іржаць, клічуць іх да сябе. І некаторыя з «ціхіх» як бы прачынаюцца, грудзьмі, разбіваючы іх у кроў, праломваюць агароджы, імчацца ў прэрыі.

Я, яшчэ зусім зялёны хлапчук, начытаўшыся гэтых п'янкіх кніжак, уяўляў сябе вольным мустангам. Я, увайшоўшы ў вобраз, натхнёна мармытаў складзены мной жа вершык:

*Перагрызу тваю вяроўку,*
*Што шыю сціснула табе.*
*Бяжы са мной, мая сяброўка!*
*Хай вецер волі ў грывы б'е!*

Дзякуй вам, шчырыя і чыстыя, як сляза, кніжкі. Я назаўсёды запомню вас.

Па ўсім сваім жыцці я стараўся пачуваць і пачуваю сябе вольным незапрэжаным канём, імклівым гарачым мустангам. Ганаруся, што навучыў гэтаму і сваіх сыноў Сяргея, Зміцера, Сцяпана.

Толькі ўперад!

Толькі не ў хамут!

Толькі на волю!

Дзякуй вам, хутканогія мустангі. Люблю і шаную!

ЛЕТАПІС

# НАСУСТРАЧ СТАГОДДЗЮ

Яраслаў КЛІМУЦЬ

**Крыху менш за год засталося да стогадовага юбілею народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова.**

Натуральна, гэта важная падзея патрабуе ад грамадскасці, дзяржаўных устаноў канкрэтных захадаў па ўвекавечанні памяці слыннага сына беларускага народа. Пачатак у некаторай ступені ўжо зроблены. Нядаўна ў выдавецтве «Беларуская навука» выйшаў «Летапіс жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова», падрыхтаваны Тэрэзай Голуб у Інстытуце мовы і літаратуры НАН Беларусі.

Аўтар сабрала вялікі фактычны матэрыял пра жыццё і творчасць Аркадзя Куляшова, перачытаўшы аб'ёмную перыёдыку і асобныя зборнікі дакументаў, літаратуразнаўчыя кнігі, успаміны пра паэта. З летапісу таксама можна даведацца пра акружэнне паэта, пра многіх яго аднагодкаў, сяброў і калег па творчай працы, што ў значнай ступені раскрывае воблік паэта, яго грамадзянскую пазіцыю.

Значнае месца ў летапісе адведзена радаслоўнай лініі, продкам паэта. Напрыклад, прадзед па бацькоўскай лініі быў выхадцам з Украіны, які, паводле сямейнага падання, запісанага дачкой паэта Валянцінай, у падлетскаым узросце разам з чумакамі прыехаў у Беларусь, меў прозвішча Куліш, быў запісаны хутчэй за ўсё па тагачаснай традыцыі як сын Кулішаў, што пазней трансфармавалася ў прозвішча Куляшоў.

Аўтар «Летапісу...» звяртае ўвагу чытача на многія старонкі з лёсавызначальных падзей дваццатых-трыццатых гадоў, пра час вучобы ў Саматэвіцкай сямігодцы, пра першае беззваротнае каханне да аднакласніцы Алесі Карыткінай, якой на развітанне ён напісаў верш «Бывай...». Пра знаходжанне ў Мсціслаўскім педтэхнікуме, дзе ён пазнаёміўся з паэтамі З. Астапенкам і Ю. Таўбіным, якім у памяць пра іх трагічны лёс прысвяціў у шасцідзясятыя гады свой знакаміты «Маналог»...

Надзвычай цікавы матэрыял падабраны за ваенны перыяд, а таксама ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе. (У кнізе паказана, што ў пяцідзясятыя гады Аркадзь Куляшоў выступае актыўна як суаўтар кінасцэнарыяў. Так, напрыклад, фільм «Чырвонае лісце» для свайго часу быў знакавым, доўга трымаўся ў кінапракаце, па сутнасці, уваходзіць у класіку беларускага кінамастацтва.)

У шасцідзясятыя гады паэт авалодвае новымі вяршынямі мастацкай творчасці, вершы вызначаюцца дакладнасцю формы, да філіграннасці адшліфаваныя шаснаццацірадковікі, напоўненыя глыбокай філасофскай думкай, напісаў паэму «Цунамі» і іншыя творы.

У сямідзясятыя гады А. Куляшоў, нягледзячы на слабы стан здароўя, таксама актыўна працаваў. Ім былі напісаны паэмы «Хамуціус», «Далёка да акіяна», «Варшаўскі шлях» (пранікліва твор пра лёс паэта і паэзіі, прысвечаны памяці А.Твардоўскага, з якім А.Куляшоў падтрымліваў сяброўскія адносіны).



Аркадзь Куляшоў

Згаданы «Летапіс...» павінен быць у кожнага настаўніка роднай літаратуры. На жаль, гэта малаверагодна, бо выдадзены ён накладам у... трыста асобнікаў. Спее неабходнасць другога выдання. Толькі аўтару трэба ўважліва перагледзець кнігу, сёе-тое ўдакладніць (ёсць друкарскія недагляды, непераканаўчыя сцверджанні: як, напрыклад, тое, што Марыя Верашчака, у якую быў закаханы Адам Міцкевіч, паходзіла з Украіны, хоць на самай справе яна ўраджэнка Навагрудчыны, іншыя недакладнасці).

І яшчэ... Да блізкага юбілею ёсць неабходнасць нарэшце выканаць колішнюю Пастанову Савета Міністраў БССР, адзін з пунктаў якой патрабаваў выдаць Поўны збор твораў Аркадзя Куляшова. А каб выдаць яго, неабходна сабраць усе матэрыялы. Таму ёсць просьба да чытачоў прысылаць на кафедру беларускай літаратуры Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта пісьмы Аркадзя Куляшова або іх завераныя копіі, іншыя матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю народнага паэта Беларусі.

**«Магілёўскія ведамасці»**

ВОДГУК

# АСЯ БЛАНК І КАМПАНІЯ, або ЦІ ПРОСТА БЫЦЬ НЯКЛЯЕВЫМ?

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

Аднойчы вечарам, колькі гадоў таму, пазваніў па тэлефоне Уладзімір Някляеў і пацікавіўся, ці выступаў я калі з вершамі на прыступках мінскага тэатра юнага гледача. Патлумачыў, што задумаў пісаць раман і хоча, каб у ім гучаў верш «Я фільм глядзеў: там Спартака распялі...». На хвіліну задумаўшыся, я сказаў, што каля тэатра вершаў не чытаў, але ў самім тэатры чытаў сваю п'есу «Дзякуй, вялікі дзякуй!» (рыхтаваліся яе ставіць), а на ганку давялося сапраўды выступаць праз колькі гадоў — толькі ўжо падчас свайго дэпутацтва. Гэта калі Вярхоўны савет знаходзіўся ў колішнім будынку ЦК КПБ («чырвоным доме»), гэта значыць, якраз насупраць тэатра з яго «псеўдаантычнымі калонамі». Яшчэ настальгічна дадаў, што з гэтай мясцінай звязана пісьменніцкая маладосць, бо тут, зноўтакі, побач, на Энгельса, 9, размяшчаўся Саюз пісьменнікаў...

Такая вось адбылася размова. Колькі гадоў таму. І потым пры сустрэчах я не-не, ды паўжартам і паўсур'ёзна пытаўся: як пішацца раман? Уладзімір не столькі адказваў, колькі ўсміхаўся. Маўляў, не так проста тут можна што-небудзь сказаць. Потым адбываліся падзеі, былі часы, калі пытацца жартам, а адказваць усмешкай зусім не выпадала. Нават было б не да месца і часу. Гучалі радкі верша-выступлення «Я прыйшоў, каб вы перамаглі...». Замест рэальнай перамогі з'явілася, загучала паэма «Турма». Яе аўтару яўна было не да задуманага даўно рамана.



Прызнацца, я ўжо меркаваў, што з гэтага замыслу ў Някляева нічога не атрымалася, не выйшла, што адклаў ён яго ў доўгую шуфлядку. Ды вось выйшла. Ды вось выйшаў раман, убачыў свет. І нават атрымаў прэстыжную прэмію імя Ежы Гедройца. І мае ўжо на сваім рахунку вялікую прэсу, шырокі розгалас, розныя, часам неадназначныя, — што і не дзіўна ў дадзеным выпадку, — прачытанні.

Час дзеяння твора з арыгінальнай назвай ( «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без») і падзагалоўкам «Менскі раман» амаль супадае з рэальным часам майго другога вяртання ў Мінск (лета 1962 года), а такія месцы дзеяння (яны ж і назвы раздзелаў рамана), як «Плошча Перамогі, былая Круглая», і «Вуліца Энгельса, колішняя Дамініканская, былая Петрапаўлаўская» — з месцамі працы (рэдакцыя газеты «ЛіМ» і Саюз пісьменнікаў). Момант, які, вядома ж, накладваўся псіхалагічна на чытанне твора. Гэтак жа, як па асацыяцыі са зборнымі вобразамі персанажаў-габрэяў, згадваліся рэальныя гараджанемінчане: старэнькая Соф'я Абрамаўна з яе невялікім шапікам з самаробнай шыльдаю «Паэзія», прадаваліся толькі кнігі вершаў. (Шапік стаяў на рагу праспекта і вуліцы Энгельса.) Літфондаўскі доктар Якаў Уладзіміравіч Нейфах з яго незвычайным клопатам пра здароўе сваіх пацыентаў, у тым ліку і нас, маладзейшых вершатворцаў, з яго зычлівым гумарам: «Ёсць загад не хварэць! Люблю здаровых людзей!». Чароўная піяністка Лілія Дворжэц з яе сумным прызнаннем: «Учора вечарам, Анатоль, схіліліся з маці над картай свету. З цяжкасцю адшукалі Ізраіль — вузкую палоску сушы ўскрай мора. Ды будзем збірацца ў дарогу...».

Словам, чытацкае ўспрыняцце — як вяртанне ў рэальна пражытае, як падарожжа ў часе. А аўтар твора — як дасведчаны, цікавы праваднік. Цікавы не толькі сваёй манерай апавядаць, але і незвычайнай здольнасцю своеасабліва, часам, праўда, занадта ўжо вольна, інтэрпрэтаваць факты і падзеі.

Хацеў бы ў гэтай сувязі сказаць колькі слоў наконт жанравай адметнасці «менскага рамана». Пагатоў гэтая тэма закранаецца так альбо інакш ва ўсіх прысвечаных яму водгуках, у прыватнасці — у публікацыях Лявона Баршчэўскага, Леаніда Галубовіча, Сяргея Мікулевіча, Уладзіміра Мароза, Сяргея Шапрана і інш. Пагаджаючыся ў асноўным з іх ацэнкамі, звярну ўвагу на наступны, прынцыпова важны момант. Рэч у тым, што раман ствараўся ўсё ж паэтам. Паэтам выразна лірычнага складу. І ў ім з гэтай прычыны прысутнічаюць, даюць пра сябе ведаць два пачаткі: паэтычны, гэта значыць пераважна маналагічны, і празаічны, гэта значыць дыялагічны, шматгалосы. Па словах даследчыка псіхалогіі творчасці М. Бахціна, «проза ўбірае ў сябе шматстайныя, несумяшчальныя аднаго з адным «галасы». У ёй заўсёды ёсць устаноўка на «чужое слова», якое выступае як прадмет паказу».

Няцяжка здагадацца, што сумяшчаць адметна «свой» голас з «чужымі» галасамі персанажаў, пераадольваць у некаторых выпадках, можа, іх несумяшчальнасць — была адной з няпростых задач для аўтара рамана. Няпростым быў пошук адпаведнай раўнадзейнай. Гэта міжволі адзначаеш, чытаючы твор. Адзначаеш у тым ліку і дзе-нідзе кампазіцыйную і стылістычную стракатасць. Не вельмі ўспрымаеш, заўважу тут жа, матыў вар'яцтва, хай часам і метафарычнага.

Трэба думаць, што на жанрава-выяўленчым характары рамана адбіўся і той відавочны чыннік, што аўтар узяўся рашуча спалучаць мастацка-раманнае з рэчаісным, фактычным (эпізоды, звязаныя з гістарычнымі асобамі: Хрушчовым, Лі Освальдам і г. д.). Задача, зноў-такі, аказалася не з лёгка вырашальных.

Па-рознаму, з розных пунктаў гледзішча ацэньваецца ідэйнатэматычны змест «менскага рамана». Твор не бясспрэчны, дае падставы для гэтага. Дае падставу ў які ўжо раз спытацца: сапраўды «Любоў і голад правяць светам»? Ці напраўду «шаршэ ля фам»? І, можа, раман лепш было б назваць «Ася Бланк і кампанія»? Можа, і так. Але толькі ў поўным сэнсе. Бо ў дадзеным выпадку мы маем усё ж той варыянт, калі галоўны тон дапаўняецца абертонамі. І ці ні самы выразны з іх — матыў вальнадумства, матыў свабоды. Свабоды пачуцця і думкі, свабоды быць самім сабой, свабоды духоўнага выбару і яшчэ — такой жыццёва важнай свабоды, як магчымасць свабодна і свядома выбіраць сабе ўладу. (Дасціпная мастацкая ілюстрацыя на тэму гэтай свабоды — парадыйны раздзел «Новы свет, былы рай»). Непараўнальная Ася Бланк з усіх сваіх шматлікіх паклоннікаў выбірае Палкоўніка (Кіма) менавіта таму, што ён — адзін сярод усіх быў вольны ў той савецкай турме»...

Камічнае і трагічнае. Нізкае і высокае. Агульнаграмадскае і асабістае. Плоцкае і платанічнае. Усведамленне, што «усе нашы клятвы пішуцца на хуткаплыннай вадзе», што «трэба ў гэтым свеце цікаўным быць» і што «жанчыны не любяць, калі на іх глядзяць праз гады», што «нашы звычкі з намі заўсёды»...

Цяжка Някляеву быць... Някляевым. Ды ён, здаецца, не скардзіцца і не збіраецца быць нейкім іншым. І ў сваім «менскім рамане», і ў сваіх выказваннях пра раман. Таму для таго, каб неяк вызначыць «зводны баланс», не прыдумаеш нічога лепшага, як прывесці радкі самога аўтара твора Уладзіміра Някляева. Вось гэтыя:

*Што затужылі,*
*воі-мужчыны?*
*Волі ўдыхнулі — і дух заняло?*
*Як там і што там*
*ні стане з Айчынай —*
*Горай не будзе, бо лепш не было.*

**Сакавік 2013 г.**

ВЕРШЫ

# БЕЛАРУСКІ РУЖАНЕЦ

Аксана СПРЫНЧАН

## Кнігі і кветкі

*Завеі. Снежань. Мележ.*
*Мару пра астранцыю, амарант,*
*дзімарфатэку.*

*Дзікае паляванне… Караткевіч.*
*Палюю на адоніс, трыліум, фізастэгію.*

*Шляхам жыцця. Купала.*
*Іду з амсоніяй, шызантусам і азарэлай.*

*На этапах.Танк.*
*Сяджу з анемонай, катранам і брахікомай.*

*Новая зямля. Колас.*
*Саджаю ў сваю зямлю*
*дзіцэнтру, сальвію і бульбакодзіум.*

*Вянок. Багдановіч.*
*Збіраю ў кола німфею, вераніку і аквілегію.*

*Запіскі Самасуя. Мрый.*
*Дадаю увулярыю, малюцелу і дзеласперму.*

*Жыццё — толькі кнігі і кветкі —*
*блюмерыя, бляціла, гейхера,*
*для іншых —*
*інкарвілея, космас, раджэрсія…*

## АЭС:А.С

*Аблокі нагадваюць блокі АЭС —*
*сваячкі —*
*паводле гучання ініцыялаў*
*я таксама А.С.*
*Згодна майго*
*ўлюбёнага прынцыпа трох «Э»,*
*усё ў жыцці павінна быць*
*энергетычна,*
*эратычна*
*і эстэтычна,*
*у ім няма месца*
*ніякім блокам,*
*апрача Аляксандра,*
*які пакутаваў на Палессі,*
*дзе пасля ў пакутах*
*нарадзілася я.*
*Аблокі нагадваюць блокі АЭС,*
*энергетыка і выпраменьванне-атрута*
*найбольшыя ўва мне,*
*распад*
*праз самоту гадоў,*
*радкоў*
*і ніякіх падкоў,*
*хіба што дэталі*
*ў сеялках і камбайнах 1950-х гадоў,*
*выкаваныя на «Гомсельмашы»*
*маім дзедам кавалём,*
*іржавеюць*
*у свеце, дзе ёсць*
*АЭС,*
*А.С.*

## Беларускі ружанец

*Арабіна*
*наталяе птушак,*
*а ружанец з яе —*
*тых,*
*чыя малітва*
*ляціць да Бога.*
*

*Арэхавы ружанец —*
*нібы зацвярдзелыя*
*бутончыкі ружаў.*
*Распускаюцца малітвамі…*
*

*Дакранаецца*
*да ружанцовых гарошынак*
*дзяўчына.*
*Што прынцэса яна,*
*не ведае…*
*

*З гузікаў старых*
*ружанец бабулі:*
*ад цела шлях*
*да душы…*
*

*Жолуд да жолуда —*
*знак бясконцасці.*
*А малітва —*
*бясконцасць.*
*

*Квітнее свечкай,*
*падае бурштынам…*
*З каштоўных камянёў*
*каштанавы ружанец*
*з простай малітвай.*
*

*Ружанец з сухіх рамонкаў:*
*абмольваюцца-лятуць пялёсткі,*
*як пёркі анёлаў.*
*

*Фа-соль-ля —*
*малітва як песня.*
*У пальцах — маленькія чоўны,*
*што плывуць да Бога.*
*

*Ягады шыпшыны,*
*высахлыя і спакутаваныя…*
*Родны*
*ружанец*
*з дзікай ружы.*

***

*Паміж камянямі*
*маёй Беларусі*
*і іх адсутнасцю*
*на маёй Лунінеччыне*
*пераціраюць мяне*
*жорны жыцця,*
*балюча і прыгожа*
*і толькі граніт,*
*цэлы кар'ер,*
*нібыта Гулівер,*
*звязаны ліліпутамі, —*
*прыжыццёвы помнік*
*мне і майму Палессю.*

***

***Лунінцу —***
***роднаму чыгуначнаму вузлу***

*весці рэй*
*рэйкам і шпалам*
*шалу*
*(які са мной сувымерны)*
*цягнікоў*
*з нікамі местаў,*
*мястэчак*
*з нумарамі месцаў*
*згары і здолу*
*бочных і з боку ад бочных*
*у СВ ці ў агульным вагоне*
*палі і гоні*
*купэ ці плацкарта*
*віновая карта*
*мапа на століку*
*маштаб: адзін да аднаго жыцця*
*сувымернасці вымя*
*смокчуць вужакі-рэйкі*
*а кропля застаецца табе*
*зліжы язы.com*
*«Котт zu mir!»*
*не паспеў на цягнік*
*стоп-кран*
*стоп-рана*
*спуск, платформа*
*адпаведнасць-неадпаведнасць*
*формы і зместу*
*мы*
*завязаныя ў вузел*
*начны*

***

*Створаная*
*з рабра*
*верлібра,*
*яблык абкусваю*
*райскі.*
*Смак свабоды*
*жалезам акіслены.*



***

*Над замчышчам,*
*дзе калісьці стаяў*
*замак Хадкевіча,*
*кружляе махаон.*
*Мятлік-ветразнік,*
*занесены ў Чырвоную кнігу,*
*разгортвае кнігу гісторыі*
*з пылком і пылам,*
*палётам і падзеннем.*
*Мятлік-ветразнік надзеі*
*і выцвярэзнік часу…*

***

*— Смачна працаваць! —*
*жадае дачушка,*
*гледзячы на рукі*
*ў чорным шакаладзе.*
*Залазіць пад пазногці*
*і ў зморшчынкі*
*смачная мара —*
*зямля.*

***

*У жніўні*
*на белых падваконнях*
*разам з памідорамі*
*выспявае*
*беларускасць…*

***

*Я абіраю бульбу,*
*я абіраю Беларусь.*
*Не трэба іншага раю,*
*ды і пекла іншага не трэба.*
*Гэтак жа думаюць*
*каларадскія жукі.*
*Неўзабаве пачнецца*
*сезон змагання*
*з аднадумцамі.*

***

*Каб гадаваць Свабоду,*
*яе трэба зачаць,*
*вынасіць*
*і нарадзіць.*
*Напачатку Свабода*
*заагукае,*
*тады навучыцца*
*трымаць галаву*
*і зробіць першыя крокі.*
*Пакрысе Свабода*
*пачне клікаць на вуліцу.*
*Ты будзеш гатовы*
*аддаць за яе жыццё,*
*толькі акурат Свабодзе*
*і не патрэбная твая смерць.*
*Яна будзе падавацца*
*сапраўдным анёлкам,*
*Боскім цудам*
*і тваёй сутнасцю.*
*Ты не зможаш уявіць*
*свайго жыцця без Свабоды*
*і пачнеш здзіўляцца,*
*як жывуць без яе іншыя.*
*Дзеля ўсяго дзеля,*
*каб тваю Свабоду не сурочылі,*
*ты станеш чапляць на яе*
*ангельскую булаўку*
*і клікаць Альжбэтай —*
*«падарункам Богу»…*
*А пасля,*
*калі дачка падгадуецца,*
*апавядаць ёй,*
*як хацела назваць яе Свабодай,*
*і казаць:*
*Свабода — яна як вершы, —*
*адны пішуць іх для народа,*
*а іншыя — для сябе.*

***

*Я крэслю*
*крыжыкі ля вершаў —*
*сваіх паэтаў*
*вышываю —*
*выжываю.*

***

*на выспе Готланд*
*выспацца,*
*праспаць*
*настальгію,*
*але яе мэтастазы*
*ў снах,*
*нах*
*не паслаць,*
*узгадаць*
*зараз тое,*
*што памятаеш*
*з нямецкай —*
*nach Hause —*
*і без ніякіх дамоў*
*дамоў,*
*у краіну дзвюх моў*
*спаць,*
*праспаць*
*настальгію*
*па адзінай…*

***

*Ты дорыш мне на развітанне*
*готландскую кераміку —*
*піялу*
*майго ўлюбёнага чырвонага колеру,*
*але гэтым разам ён мае*
*надзвычай жыццёвае адценне.*
*Яна ляціць са мною*
*і не б'ецца на шчасце,*
*і я за адно з ёю…*
*Яна стаіць на стале,*
*напоўненая тваёй адсутнасцю,*
*і я доўга не магу прыдумаць,*
*што ў яе пакласці:*
*трускалкі таксама чырвоныя,*
*мёд залішне салодкі,*
*персік нагадвае вядомую карціну.*
*Але ўрэшце ў ёй знаходзіцца месца*
*для выдранай на захадзе сонца*
*рэпкі —*
*не вялікай і не маленькай,*
*ідэальнай,*
*як жаночыя грудзі,*
*якія змяшчаюцца ў мужчынскай руцэ…*

## Туман ярам, туман даліною

*Кахацца ў тумане зімовым,*
*вільготнець у снежным ранку,*
*і светла заплюшчваць вочы*
*ў чаканні працягу ночы*
*ў адлікна-ба(на)льных рыфмах,*
*ба(на)льна-жыццёвых рытмах,*
*туманіца і туманіць,*
*пазногцем выводзіць «…ярам»*
*і вуснамі — «…даліною»…*
*І раптам —*
*«нічога ня відна»*
*ў тумане зімою…*

ФРАГМЕНТЫ

# З РАМАНА «ВОЛЯЙ АБРАНЫ»

Анатоль БАРОЎСКІ

**«Воляй абраны» — раман пра вызвольнае паўстанне супраць расійскага царызму, якое ўзначаліў Кастусь Каліноўскі. Пра каханне кіраўніка паўстання і яго нарачонай — Марыі Ямант. Аўтар паспрабаваў з вышыні сённяшняга часу паглядзець на супярэчлівую і выбітную асобу Вікенція Канстанціна Каліноўскага, разабрацца ў тым, чаму паўстанню была наканавана параза… І чаму духоўны подзвіг Каліноўскага застанецца ў памяці нашчадкаў.**

…Сабраліся на кватэры пана Увішскага.

Канстанцін Каліноўскі заклапочаны, унураны ў сябе. У яго адказная місія, і ён хавае хваляванне. Гаспадыня, жонка пана Увішскага, спакойная і разважлівая, з чорнымі косамі і прыветным позіркам, падала ўсім па кубку гарбаты, кіўнула гаспадару, што пакідае іх.

Калі за ёю зачыніліся дзверы, Каліноўскі ўважліва агледзеў усіх, як быццам іх убачыў упершыню, ціха прамовіў:

— Сябры мае! Я прыбыў у Гародню з мэтай стварэння тайнага таварыства і ўзмацнення палітычнай дзейнасці. Лютаўскія падзеі ў Варшаве ўсхвалявалі ўсю Польшчу. Царскія войскі расстралялі патрыятычную дэманстрацыю. Гэта і перапоўніла чашу цярпення польскага народа, і з гэтага дня, можна лічыць, і пачаўся ўздым нацыянальна-вызваленчага руху ў Польшчы…

Слухалі ўважліва. Ніхто не дакрануўся да кубкаў, гарбата паціху астывала на стале. Доктар Эразм Заблоцкі сядзеў побач з Кастусём. Каля Эразма — яго брат Юлік. Гладка прычасаны, акуратна апрануты, ён выглядаў на гродзенскага франта. Працаваў доктарам. Інспектар егерскай школы Валеры Урублеўскі, што месціўся леваруч ад Заблоцкага, падпёр бараду кулаком, глядзеў на Каліноўскага. Каля грубкі прытуліўся афіцэр Ян Ваньковіч. Побач з ім — землямеры Фелікс Ражанскі і Ільдэфонс Мілевіч, каля заштoранага акна ў чорных сутанах ксяндзы Гінтаўт з Гародні, Ян Зарыжскі і Ігнацій Казлоўскі…

— Справа адказная і сур'ёзная. Кожны з нас павінен даць клятву на вернасць служэння агульнай справе.

Не ўтрымаўся Ян Ваньковіч, прыўзняўся, далікатна спытаў:

— Якой — агульнай справе? Канкрэтна можна, спадар Канстанцін?

— Можна, паручнік! Агульная наша справа, Ян, — узброеная паўстанне, барацьба за нацыянальную незалежнасць, знішчэнне прыгоннага права. А яшчэ канкрэтней пра гэта мы пагаворым пасля, калі збярэмся спецыяльна для распрацоўкі тактыкі і стратэгіі працы нашага таварыства. Мы павінны весці тлумачальную працу сярод сялянаў. З гэтай мэтай пачалі пасылаць на пасады вясковых настаўнікаў і валасных пісараў навучэнскую моладзь, і не толькі моладзь, а і іншых патрыётаў. Канспіратыўныя арганізацыі створаныя паўсюдна: на Віленшчыне, Ковеншчыне, у Мінскай губерні…



Кастусь Каліноўскі.
Лінарыт Міколы Купавы

Эразм успомніў, як пазнаёміўся з Валерыем Урублеўскім. Тое было на водах у Друскеніках, калі ён падаўся туды, каб падлячыць страўнік. Пачуўшы, як той выступае сярод купкі людзей, падумаў: «Задужа энергічны і смелы». Праз некалькі дзён, бліжэй пазнаёміўшыся з інспектарам егерскага вучылішча ў Саколках, пачуў ад яго нечаканае пытанне:

— А кім вы, як служачы будаўнічай і дарожнай камісіі, бачыце заўтрашні дзень?

Замест адказу Эразм паціснуў плячыма. Валеры засмяяўся:

— Гаварыць на гэтую тэму не жадаеце?

— Жадаю.

— Тады прыязджайце да мяне ў Саколку! Дарагім госцем будзеце.

Заблоцкі згадзіўся, падзякаваў за запрашэнне. І наведаў Урублеўскага праз некалькі дзён.

Здзівіўся, колькі людзей было ў інспектара. Там і пазнаёміўся з піцейна-акцызным наглядальнікам Сонгіным, маладым чалавекам, гаваркім і вясёлым, ксяндзом Казлоўскім — з сівой барадой і даўгімі валасамі да плячэй, што прыехаў у госці з Царства Польскага. І пазнаёміўся там з Каліноўскім, які напачатку не спадабаўся яму: надта ж маўклівы.

Але потым, выпіўшы па кубку гарбаты, Урублеўскі прапанаваў выйсці ў сад. Там, пад высокай грушай-дзічкай стаяў Вікенцій.

Ён так і назваўся пры першым знаёмстве, прозвішча свайго не называў.

— Наш госць — камісар Гарадзенскай губерні — пагаварыць з табой хоча, — падвёў Валеры Эразма да Каліноўскага.

— Пра што? — паглядзеў на абодвух Заблоцкі.

— Пра жыццё… — глуха прамовіў Каліноўскі. — Пра нашае жыццё, спадар Эразм… Што адбылося ў Варшаве — вы ведаеце, напэўна?

— А хто ж не ведае? Жудасна.

— Мы ствараем арганізацыю Народнага польскага ўрада, які павінен у хуткім часе з'явіцца ў Літве. Мы з Урублеўскім прапануем вам узяць у гэтым удзел. Ксёндз Ігнацій Казлоўскі можа адразу прывесці вас да прысягі. А можна і пазней, калі я прыеду ў Гародню для стварэння тайнага таварыства.

— Не, не сёння, — адмоўна пакруціў галавой Заблоцкі. — Не гатовы яшчэ… Але я даю згоду ўвайсці ў склад урада. І якая ж пасада мне будзе выдзелена?

— Пасада — пакуль, часова, быць пры Урублеўскім. Ён займае высокі пост ва ўрадзе.

— Добра. Згодзен…

— Праз колькі дзён вы разам з Валерыем адправіцеся ў Вільню. Урублеўскі пазнаёміць вас з Эдмундам Вярыгам — сябрам Літоўскага правінцыйнага камітэта. Пазнаёміцеся і з інжынерам-паручнікам Янам Козелам, які таксама з'яўляецца сябрам правінцыйнага камітэта. І з іншымі людзьмі пабачыцеся...

Эразм Заблоцкі адараваўся ад сваіх успамінаў, прымусіў сябе прыслухацца да слоў арганізатара рэвалюцыйнай арганізацыі.

У гэты ж час нехта пастукаў у дзверы. Гаспадар пазнаў умоўны знак, падняўся, супакойваючы прысутных кіўком галавы, пайшоў адчыняць дзверы.

Праз хвіліну да прысутных далучыўся памешчык Гофмейстар, ваяводскі Гродзенскай губерні. Папрасіўшы прабачэння, сеў на вольнае месца.

Каліноўскі вачыма знайшоў Эразма Заблоцкага:

— Я вам уручаю мандат на званне памочніка Гофмейстара. Вам даручаецца кіраванне трыма паветамі: Гродненскім, Ваўкавыскім і Слонімскім. Кіраваць імі будзеце згодна з інструкцыяй. Кортка пра інструкцыі. Вам неабходна тэрмінова скласці арганізацыю ва ўсіх вашых паветах, прызначыць паветовых начальнікаў. Пры іх павінна быць па пяць рэферэнтаў, можна і па тры. Рэферэнты — вайсковец, скарбнік, прадстаўнік грамады апякунства і камунікацый. Вам неабходна будзе кожны тыдзень атрымліваць рапарты ад паветовых, і ўжо сваё заключэнне дасылаць ваяводскаму камісару і — апошняе — развейваць сумневы паветовых, калі яны з'явяцца ў іх пры выкананні сваіх абавязкаў… Зразумелыя агульныя задачы, спадар Заблоцкі?

— Зразумелыя.

Размова працягвалася.

Гродзенскі камісар Каліноўскі асабіста кожнаму ставіў задачу. Растлумачваў незразумелыя пытанні. Калі іх не стала, падвёў рысу:

— Раз мы абгаварылі ўсе пытанні, якія тычыліся стварэння нашай канспіратыўнай арганізацыі, то ёсць прапанова прагаласаваць за яе зацвярджэнне. Хто за тое, каб лічыць нашую арганізацыю, якая мае на мэце рэвалюцыйнае звяржэнне ўлады, адмену прыгоннага права, абвяшчэнне незалежнасці Літвы і Беларусі, створанай — прашу падняць рукі.

Прагаласавалі аднагалосна.

…Праз нейкі прамежак часу, па адным ці па двое, пакідалі канспіратыўную кватэру.

Апошнімі развіталіся з гаспадаром Заблоцкі, Урублеўскі і Каліноўскі.

…Яны сустрэліся ў парку на ўскраіне Вільні.

Паціснулі адзін аднаму рукі, селі на лаўку ў зацішку старых ліп.

Сярэдзіна траўня. Ужо бярозы выпусцілі першыя ліпкія лісцікі, і іх абуджальны пах луная ў паветры. Усё дыхала жыццём, трывожным прадчуваннем немінучага...

Кастусь глядзеў у засмужаную далеч, маўчаў.

— Што скажаш, Эразм?

Замест адказу Заблоцкі ўзнёсла прамовіў:

— Якое харошае надвор'е, праўда?

— Так, ранняя вясна ў гэтым годзе. Для нашай справы гэта добра…

— Так, добра… Ты ж ведаеш, што атрад Духінскага і Урублеўскага ўступіў у бой з царскімі войскамі. Яны знаходзіліся каля вёсак Валілы і Саколда, што ў Беластоцкім павеце… Змагаліся мужна, паказалі сваю сілу і імкненне перамагчы, але…

Дыктатар уздыхнуў, павярнуўся да сябра, паглядзеў яму ў вочы:

— Тое, што людзі Духінскага пацярпелі паразу пад Саколдаю, можа, і не так страшна, як паспелі абвясціць расійскія газеты. Але кепска другое: няўдача адмоўна падзейнічала на шараговы народ, які браў удзел у паўстанні. Але спачуванне да нашай святой справы не згасла.

Нехта кашлянуў непадалёку ад іх, і Эразм міжволі азірнуўся.

— Усё так, Кастусь! Горш другое — атрады Зыгмунта Серакоўскага таксама доўга не пратрымаліся. Тры дні мужна змагаліся касінеры, паказалі, што могуць працістаяць царскай сіле. Але… Серакоўскі трапіў у палон…

— Шкада, вельмі шкада. Шкада і тое, што замест віленскага генерал-губернатара Назімава прыбыў новы галоўны начальнік краю Мураўёў. Крыважэрная асоба, бязлітасная. Хаця лічыць сябе дзекабрыстам. У яго неабмежаваныя паўнамоцтвы. Дык як заўтра — едзем?

— Так, нам неабходна тэрмінова правесці рэвізію дзейнасці як паўстанцкіх уладаў, так і навядзення парадку ў самой арганізацыі.

— У якія паветы паедзем?

— У Слонімскі, дзе пад Мілавідамі знаходзіцца атрады палкоўніка Аляксандра Лянкевіча. І ў Ваўкавыскі. Ды заадно і да бацькі твайго ў Якушоўку завітаем. А то ты даўно праведваў родных.

— Брычку раздабыў?

— Так, у памешчыка Андрыеўскага. Я буду чакаць цябе каля касцёла святой Алены а шостай гадзіне.

— Добра, Эразм. Да заўтра.

І першым падняўся з лаўкі.

Эразм доўга глядзеў яму ў след, думаючы пра сваё.

«Які, братка, характар у цябе! Узваліў ты, Вікенцій-Канстанцін, на свае плечы ой які груз... Хаця б цябе заўтра не напаткала расчараванне… Не ўсё ж будзе добра, не ўсё гладка, бо не рэгулярная армія будзе ваяваць з царскімі войскамі, а сяляне і шляхта, якія ніколі не трымалі зброю ў руках…»

…Ноччу ліў дождж, таму дарогі раскіслі, скрозь — калюжыны.

Але коні спраўна цягнулі брычку. Заблоцкі не падганяў іх, ведаючы, што рызыкоўна тое рабіць, — ашчаджаў і коней, і брычку…

Дыктатар найбольш маўчаў, хмурыўся. Эразм стараўся не назаляць яму гутаркай, бо перад гэтым даволі падрабязна пра ўсё пагаварылі.

Спачатку завіталі да памешчыка Спірыдовіча. Ён аказаўся дома.

— Каго любіш?

— Люблю Беларусь!

— То ўзаемна!

Гаспадар запрасіў у хату.

Кастусь адмовіўся і спытаў:

— Як у вашых мясцінах, спадар Спірыдовіч?

— Ды быццам нармальна. Зброю ўсю не падвезлі, але карчмар Вонзель заўтра паабяцаў даставіць па прызначэнні.

— Як у атрадзе з дысцыплінай?

— Па-рознаму… Большасць — дысцыплінаваныя, але ёсць і такія, якім хочацца пагуляць у вайну…

— Вось вам інструкцыі. А вось «Мужыцкая праўда». Прачытайце людзям.

— Гэта добра, што вы газэтку прывезлі. З ёю лягчэй гаварыць з народам.

Каліноўскі паціснуў руку, паглядзеў дапытліва ў вочы:

— Мы спадзяемся на вас! А Завістоўскі далёка адсюль?

— Ды не, вунь за той дубровай маёнтак Аляксінец пакажацца. Гэта і ёсць уладанні памешчыка Завістоўскага… Ён ведае пра вас, чакае… З Богам!

— З Богам!

Але Завістоўскага не заспелі на месцы. Замест яго вёў размову аканом пана — высокага росту мужчына, сярэдніх гадоў.

— Няма яго, у Вільню паехаў па нейкай пільнай патрэбе, — адказаў на пытанне Заблоцкага аканом. — Сказаў мне, каб я сустрэў вас, накарміў, напаіў, даў правіянту на дарогу…

— Калі ж вернецца?

— Не казаў, не ведаю.

Завістоўскі быў прызначаны на пасаду рэферэнта камунікацый, і быў папярэджаны загадзя, што, праязджаючы па тракце, правяраючы завітаюць да яго, належыла прадставіць спісы паўстанцаў, у якіх яны маюць патрэбу.

Не падымаючыся вышэй па прыступках, дыктатар тут жа, апершыся правай нагой на бардзюр, напісаў пісьмовую вымову за нядбайнасць, за тое, што рэферэнт Завістоўскі парушае рэвалюцыйную дысцыпліну.

— Перадайце абавязкова Завістоўскаму гэтую паперку. Абавязкова. І нашую незадаволенасць яго адсутнасцю. А мы паехалі далей…

— Перадам. А правіянт, правіянт захопіце з сабой? Я падрыхтаваў.

Канстанцін адвярнуўся ад яго:

— Дзякуем, мы спяшаемся…

Да маёнтка памешчыка Міхала Прылоўскага дабіраліся праз забалочаную нізіну. Коні грузлі,

колы правальваліся ў нябачных ямінах.

Міхал Прылоўскі знаходзіўся на канюшнях — з Вільні яму даставілі трох скакуноў, і ён правяраў іх вартасці. Адарваўся ад агляду неахвотна, перадаручыў гэты клопат конюху.

Тая ж размова, — тыя ж клопаты і хібы. Канстанцін хмурыўся, слухаючы даклад Прылоўскага.

І вочы ў таго неяк бегалі, і рукі не знаходзілі месца.

«Характару не цвёрдага, — адзначаў пра сябе кіраўнік паўстання. — Паспешлівы ў словах і, мусіць, такі ж у справах… Можа брацца з ахвотай, але не давесці да канца».

— Ці забяспечаны ўсе паўстанцы неабходнай зброяй, пан Прылоўскі?

Пытанне прагучала нечакана, таму позірк зноў неспакойна перакідваўся з аднаго на другое.

— Ды як сказаць, спадар Канстанцін… Больш за палову паўстанцаў зброю маюць, а астатняе павінен прывезці карчмар — на некалькіх падводах… Абяцаў праз дзень-два…

— Хто правярае спраўнасць штуцэраў? Ёсць спецыяліст? — задаў сваё пытанне і Эразм.

Прылоўскі крутануў галавой, кіўнуў сцвярджальна:

— Ёсць некалькі афіцэраў. Ім даручана праверка штуцэраў… Мо пройдзем да мяне на веранду, каб прадоўжыць размову. Вы ж з дарогі, падсілкавацца трэба.

Каліноўскі адмоўна пакруціў галавой:

— Не, дзякуем, спяшаемся… За даклад дзякую. Скажыце, да памешчыка Біспінга далёка? Да яго ляжыць далей наш шлях.

— Да Вярэек і не так далёка, не заўважыце, як і даедзеце. Але па тракце могуць рухацца царскія войскі, таму я параіў бы ў аб'езд. На вёрстаў пяць болей, але так будзе надзейней.

І тут жа, агледзеўшыся, гукнуў некага:

— Ганька, ідзі да нас!

Да пана падышоў загарэлы хлапчук гадоў з восем.

— Пакажаш аб'язную дарогу на Вярэйкі. Правядзеш да ўрочышча Гронкі, а потым сам вернешся… Адтуль толькі адна дарога да маёнтка.

Пераехаўшы неглыбокую рачулку, хлопчыка адпусцілі, падзякаваўшы яму за дапамогу.

У Біспінга пераначавалі, а раніцай, на цямочку, зноў рушылі ў дарогу.

Мерыліся ехаць на Ваўкавыск, але на тракце сустрэлі расійскіх грэнадзёраў, павярнулі ў Слонімскі павет. Па дарозе ішла жанчына з хлапчуком. У яе папыталіся, як даехаць да маёнтка Луконца, дзе пражываў акружны памешчык Ягалкоўскі. Жанчына моўчкі махнула ў бок лесу рукой.

Ягалкоўскі сядзеў пад разгалістай ліпай, чытаў кнігу.

Убачыўшы гасцей, няспешна падняўся.

— Проша да стала, халодным квасам пачастую, — запрасіў гаспадар гасцей у цяністую алею, паручкаўшыся з імі, абняўся. Ведалі добра адзін аднаго, паважалі, час праверыў яго вернасць, і ўсе былі радыя запланаванай сустрэчы.

— З задавальненнем, — згадзіўся адразу Канстанцін. — Але ёсць просьба. Неабходна тэрмінова паклікаць да нас памешчыка Язэпа Стравінскага.

— Добра, зразумеў. Вы праходзьце на летнюю веранду, а я распараджуся паслаць па Стравінскага.

Пакуль чакалі прыезду Язэпа, Ягалоўскі паказаў рэвалюцыйнаму камісару Гродзенскай губерні Вікенцію-Канстанціну Каліноўскаму неабходныя паперы і дакументы.

— Вось спіс людзей, якія ўліліся ў паўстанцкія атрады. Вось пералік зброі, якой не хапае. Мясцовы каваль нарабіў шмат дзідаў і мячоў, але гэтага недастаткова. Не хапае коней, не хапае вазоў, вяровак, сякер… Паціху неабходнае звозяць у мае патаемныя склады, але хацелася б больш… Ваяваць — не касой махаць.

Каліноўскі ўважліва вывучаў паперы, задаваў пытанні, удакладняў. Эразм назіраў за тварам рэвалюцыйнага камісара, адзначаў, што дыктатар ужо не такі раздражнёны, як перад гэтым.

Недзе праз гадзіну прыехаў на брычцы і Язэп Стравінскі.

— Каго любіш?

— Люблю Беларусь!

— То і ўзаемна!

У вачах зацікаўленасць, радасць сустрэчы.

І Язэп расказаў камісару пра становішча. Не ў ружовых колерах, гаварыў начысціню, асабліва не скардзячыся на слабую дапамогу з боку мясцовай шляхты, але ж і не хваліўся тым, што ўдалося дасягнуць.

Пасля даклада Каліноўскі звярнуўся да яго:

— Спадар Язэп, мяне ўпаўнаважылі прызначыць вас павятовым Слонімскага павета. Думаю, што абавязкі для вас зразумелыя, інструктаваць не трэба.

— На апошнім пасяджэнні ў Гродне вы падрабязна пра гэта расказвалі.

— Якія пытанні будуць да мяне? Якія пажаданні, шаноўныя спадары?

— Пажаданне адно, спадар рэвалюцыйны камісар: дай Божа нам сілы і моцы!

— Дай Божа!

— Куды далей?

— Да памешчыка Арды. Яго праведаем…

Замест Арды даклад трымаў яго ўпраўляючы Якаў Свяшынскі. Ад імя свайго гаспадара папрасіў прабачэння за яго адсутнасць — па справах паўстання знаходзіцца ў Варшаве. Дастаў са скуранай сумкі паперы, падаў Каліноўскаму.

— Я ведаю пра ўсе справы і бяру ўдзел у паўстанні. Калі што незразумела з папер, растлумачу на словах.

Тлумачэнні не спатрэбіліся. Кастусь і Эразм засталіся задаволеныя.

Свяржынскі прапанаваў затрымацца, паабедаць, але Каліноўскі адмовіўся, загадаў адразу ж ехаць усім разам да Керсноўскага.

— У яго і абгаворым нашыя справы, а потым адразу разам рушым у паўстанцкі лагер. Колькі вёрстаў будзе ад вас — пяцьшэсць?

— Меней. Вярсты з тры…

— Рушылі! Час не чакае.

… — Мы вытянем из вас все жилы, но добьёмся своего, — гаварыў ціха і спакойна следчы. — Ещё раз требую — назовите фамилии и имена тех, кто стоял во главе бунта, ну, пусть восстания, как вы утверждаете, ладно уж, пусть будет так… Мы почти всех уже и так знаем. Но желаем услышать их имена от вас.

Свечка стаіць перад носам у следчага, агеньчык яе хістаецца ад дыхання абвінаваўцы, ад яго слоў, і постаць — цень на сцяне — таксама вагаецца, хістаецца. Цень пагрозлівы, злы, але Кастусь не адчувае ні страху, ні боязі.

Пад раніцу, калі сама хочацца спаць, паднялі яго з ложка, павялі на допыт — невядома які ўжо па ліку. Зліпаюцца вейкі, хіліць у сон…

— Имена?

— Не ведаю…

Тупы ўдар па галаве — і ён падае на падлогу. Перакруцілася табурэтка і балюча ўдарыла па калене. І адразу ж перад вачыма выплыў вобраз Марыські. Яна разам з яго татам і маці схіліліся над ім, устрывожана папыталіся:

— За што ж яны цябе так, Кастусёк?

Адказвае глуха:

— За праўду, за мужыцкую праўду… За тое, што хацеў свабоду здабыць простаму люду.

— Ты ж загінеш…

— Загінуць не страшна. Страшна, калі не зразумее мяне той жа люд.

Новы ўдар, але ён ужо не адчувае болю.

— Уставай. Нельга поўзаць каля ног катаў. Ты ж ніколі не поўзаў перад ворагамі.

То ўжо, здаецца, голас маці.

— Ніколі. Але я не магу ўстаць… Няма сілаў.

— Уставай, каханы, — просіць ужо і Марыся, і яе словы і слёзы льюцца на яго твар.

— Иван Иванович, он не приходит в себя…

— Ещё одно ведро воды вылей на него.

Вада халодная, ледзяная… Іголкі шпыраюць у скроні, і ён прытомнее, вяртаецца да жыцця. Глядзіць на катаў, нічога не разумее — дзе ён, што з ім, чаму ляжыць на мокрай падлозе…

— Фамилии, я требую, чтобы вы назвали фамилии, — шыпіць над вухам голас таго ж следчага — мокры, успацелы: і яго аблівалі вадой? Ды не, то ён так шчыруе над ім.

Яго зноў пасадзілі на табурэтку.

— Имена!

— Тадэвуш Касцюшка, Эмілія Плятэр, Міхал Валовіч, Міхал Клеафас Агінскі? Канстанцін Астрожскі, Януш Радзівіл……

— Кто ещё? Кто?

— Касінеры… іх шмат… Тысячы і тысячы інсургентаў… Усіх не памятаю.

Язык не варушыцца. У роце горка і солана, кружыцца галава, хістаецца ўсё навокал. Зноў удар па галаве…

І тут жа ўсё адразу сплывае, патанае ў касмылях шызага туману.

Ён не чуе, як яго хапілі пад пашкі і пацягнулі па доўгім і цёмным калідоры былога Дамініканскага манастыра, і аднекуль, ці то зверху, ці з бакоў далятаюць галасы, зліваючыся ў адзін суцэльны гул: «Ка-ты… Ка-ты… Свабоду Каліноўскаму! Жыве Ліцвінія!..»

Зноў над ім схіляецца Марыся, прыкладвае да акрываўленага твару прымочкі, выцірае засохлыя крывяныя сукравіцы. Ужо не плача, а толькі маўчыць, абдымае, паклала галаву на калені і, здаецца, нешта шэпча, шэпча…

А мо то лісце шапоча на вуліцы, ці дождж ідзе і цякуць раўчакі? Не зразумець, усё змяшалася, перайначылася, перакулілася…

— Ты жывы, Кастусёк?

— Жывы, Марыся. Калі паміраць буду, скажу табе пра тое. За хвіліну да смерці…

— Я не хачу, каб ты паміраў, не хачу, мой любы.

— І я не хачу. Але не ў маіх сілах адмяніць таго, што падрыхтавана мне лёсам.

Марыся нахіляецца над ім, дакранаецца ілбом да яго ілба, зажмурвае вочы, чытае малітву, просіць Вышняга, каб захаваў яе каханаму жыццё…

Не хутка прыйшоў у сябе…

А, апрытомнеўшы, глядзеў безуважна на шэрую, выцвілую столь, і ў яго не нараджалася ніякіх думак і жаданняў.




Ён прымружыў вочы, глыбака ўздыхнуў. Боль ва ўсім целе…

…Вязень маўчаў. Можа, ён і не чуў, пра што казаў следчы Шалгуноў, а мо і чуў, ды не рэагаваў на яго пытанне.

— Скажу в подтверждение своих слов. Вы вместе с Малаховским издали секретный приказ-задание резчику Генриху Штейману, чтобы он изготовил для виленского повстанческого центра новую печать с надписью: «Литовский Комитет. Свобода. Равенство. Независимость». Комиссара Варшавского жонда в Вильно Нестора Дюлерана вызвали срочно в Варшаву. Перед отъездом он передал вам печать. Ещё. Малаховский, как повстанческий начальник города, подписал смертный приговор губернскому предводителю дворянства А.Домейко — инициатору подачи верноподданического адреса батюшке царю. Вы же сам дворянин, как так можно?

Вязень наструніўся:

— У нас няма дваранаў, у нас усе роўныя!

— Генерал-губернатору Михаилу Николаевичу Муравьёву был представлен первый верноподданический адрес с 235 подписями виленских дворян. А это означает, что дворянство, поняв свою ошибку, начало открыто отходить от вашего мятежа. Но вы, в противовес, издаёте приказ о сборе подписей под контрадресами, которые вы намеревались напечатать за границей. И это вменяется вам в вину. А потом мы арестовали Гейштера и Зигмунта Чеховича. Перед арестом Гейштер вручил печать Отдела члену виленской организации Цитусу Долевскому для передачи вам. Я правильно всё излагаю, дворянин Калиновский? Долевский становится одним из ваших ближайших друзей. Не так ли? Мы арестовали и резчика Штеймана. Он во всех подробностях рассказал, как добраться до виленского повстанческого центра. Вот тогда мы и завели вместе с генерал-майором Соболевским дело «О лицах, участвующих в виленской революционной организации…»

Палкоўнік Шалгуноў падышоў да акна, спыніўся, абаперся адной рукой на падаконнік. Ужо адтуль ціха гаварыў:

— Видите, вы обречены. И вы лично, и ваш мятеж. Видите, какие ненадёжные люди окружали вас. Всё выдали, предали и вас. И вы во многом признались.

— Я ні ў чым не прызнаваўся.

— Вы подтвердили свою фамилию и участие в бунте. И этого достаточно. Мне просто интересно, отчего вы так упорствуете.

Ужо сонца зазірнула ў акно, пранізала мутнае шкло, высвеціла на шэрай сцяне пакоя квадраты і прамавугольнікі.

— Ну, что же, Викентий Константин Семёнович Калиновский, — следчы абапёрся на падваконне, — на этом мы прекращаем допрос. Жаль, что вы чистосердечным признанием не облегчили свою судьбу, очень жаль. А могли бы сохранить себе жизнь. И не только себе, а и другим. Но это уже на вашей совести.

Канстанцін схіліў галаву. Чакаў нейкіх апошніх слоў, чакаў і баяўся іх пачуць. Хаця нікуды не мог падзецца ад непазбежнасці.

— Заседание военно-полевого суда пройдёт в ближайшее время.

Следчы паклікаў канваіраў.

— На прощание мне вы ничего не хотите сказать, заключённый Калиновский?

Дайшоўшы да дзвярэй, вязень азірнуўся:

— Хачу сказаць. Дзякуй, што не білі сёння.

— И всё?

— Усё.

Калі зайшоў у камеру і сеў на ложак, прымацаваны да сцяны, пачуў, як на падваконні завуркатаў голуб.

«Шле мне Марыська сваё пасланне? — падумаў горычна і радасна, не ўстаючы і не кладучыся. — Адкуль? З Сібіры, ці яна тут яшчэ, у Вільні? Мо і схлусіў следчы, а мо і праўду казаў».

Ён узяў са стала люстэрка, падышоў да акна. Расчыніў фортку, уставіў туды руку з люстэркам, павярнуў яго, так, каб бачыць будынак былога кляштара. Пільна прыглядзеўся. Па вуліцы, перад кляштарам, хадзілі людзі. А вокны былі ўсе зарашотчаныя і аднолькавыя.

«За якім акном знаходзішся ты, мая чарнаброўка?» «Не наракай, Марыся, на сваю бяздолю, но прымі цяжкую кару, Прадвечнага волю, а калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся, то я з таго свету Табе адзавуся…»

Голуб стаіўся ў кутку падваконня, маўчаў.

ВЕРШЫ

# ГОНАР І ВОЛЯ

Славамір АДАМОВІЧ




* * *

*Юры Гуменюку,*
*брату ў веры*

*Аднойчы Лёсу майму абрыдне*
*ратаваць мяне ад недарэчных прыгод,*
*ад уласных выбрыкаў і дума-злыдняў,*
*што ў галаве маёй чаўпуць карагод.*

*Аднойчы зіма ўсё накрые снягамі*
*белымі-белымі, і вось тады*
*вынесуць мяне, васковага, уперад нагамі*
*на гарадзенскія старыя клады.*

*І ўжо без мяне ў салатавым скайпе*
*напішуць сто развітальных словаў*
*і падораны сябрам набор мэйк-апу**
*у труну пакладуць замест узгалоўя.*

*І буду я ў пераломным палёце*
*бясконца падаць па вертыкалі,*
*як пёры, губляючы высокія эмоцыі*
*у нізкачастотных нашых рэаліях…*

**14–20.01.2013,**
**Менск — ст. Пухавічы**

* Парфума (аўт.)

* * *

***Til Deg…****

*Адно кароткае імгненне*
*Яна была*
*маёю музай і натхненнем*
*пакуль мяла*
*і замятала завіруха*
*мае сляды*
*у Каралеўстве горных духаў*
*і атлантычнае вады…*

* Да цябе (нарв.).

## Адвэнт-2012

*Адвэнт дзве тысячы дванаццаць,*
*пачаўся снежань пульхным снегам,*
*і так прыемна ў ім штурхацца*
*на зайздрасць непахісным шпегам.*

*І хай змяркаецца зарана —*
*гарыць і свеціцца ў душах*
*агонь, што высмаліць тырана*
*да самых недасяжных юшак*…*

* Юшка — люхта ў печы, праз якую выграбаюць сажу; калі юшкі не чысціць, верагодна самаўзгаранне, задымленне…

## Зброя

Зброю трэба выбіраць як жонку, а любіць як каханую… Любі як хочаш і можаш, толькі разумна… Шукай яе, набывай. Альбо рабі сам; тачы яе, як прадзеды твае тачылі некалі французскія багнэты, а дзяды — нямецкія штык-нажы… Палюбі зброю — твайго сапраўднага абаронцу… Палюбі як Бацькаўшчыну тваю гэтае лязо сталёвае, гэты ствол варанёны, гэтыя залатыя пятачкі патронаў, гэтыя цяжкія свінцова-латунныя кулі… Палюбі дрэва прыкладу, які аднойчы прыхінецца да тваёй шчакі так, як ты яшчэ ніколі не прыхінаўся да ўлоння любкі тваёй…

А як палюбіш — адчуеш, як пахне ейная жыццядайная змазка… Гарачую зброю трэба змазваць старанна — як жанчыну тваю ты лашчыш перад любошчамі…

Зброю трэба час ад часу ўжываць, каб не перастойвала, як нявеста, якую жаніх доўга беражэ-беражэ, так што яна ўжо і нудзіцца пачынае… Правярай сваю зброю стральбой ці работай ляза.. Не давай іржавець ёй…

Зброя наша — і мова… Зброя — слова… Не ўжывай слова чужога — супраць цябе абернецца. Ты і не заўважыш, як яно ў грудзях тваіх расхіне пёры свае. І захочаш выцягнуць — ды толькі з крывёю тваёй, з вантробамі назад, а за імі і дух твой — вон! І канец табе… Са слова пачні, слова спачатку знайдзі Сваё — Дух падрыхтуй! Потым пра цела сваё падумай (падрыхтаванае цела таксама зброя!). А пасля ўжо, пасля настане чарга і за сталёвую ўзяцца… Любі зброю сваю — згадай пра Гонар!

## Лене

*Восень. Дождж. І твае калені*
*я абдымаю ў цяпле жытла,*
*і абмываю ў сямейнай балеі,*
*каб муза мая чыстай жыла;*

*каб расхінуцца магла насустрач,*
*як раўнапраўная, сіле маёй,*
*і залівалася смехам гучным,*
*быццам бы непераможны герой…*

## Кроў

*Вось яна, булькае блізка-блізка*
*ў соннай артэрыі пругкага горла,*
*рывочкамі штохвілінна і сцісла,*
*каб душа не памёрла.*

*Кроў мая і маіх пакаленняў,*
*якія былі і жылі тут,*
*дае мне радасць жыцця і натхненне*
*і права правіць канчальны суд.*

*Дык што ж нам — баяцца крыві*
*жыццядайнай?*
*Няхай расплешча на захад і ўсход,*
*кіпіць хай і пеніцца капітальна,*
*да помсты клічучы за свой Род!*

*А я напружу з апошняе сілы*
*франтальныя цягліцы рук і ног,*
*каб нашы жанчыны шапталі мне «мілы»,*
*але каб кожнай свой дапамог*
*мужчына…*

*Не, кроў не вадзіца, свая — тым болей,*
*але мы гатовы аддаць яе,*
*калі паўстануць Гонар і Воля,*
*і вырвуцца пераможным крыкам з грудзей!*

**13/14 лістапада 2012, ст. Пухавічы**

# НУЛЯВАЯ ГАДЗІНА СВАЙГО НАРАДЖЭННЯ

Андрэй СЦЕПАНЮК

## Нуль восем

*Алесю Барскаму*

*як проста павярнуць*
*час*
*хопіць толькі заплюшчыць*
*вочы*
*і загуляць у карнавальным танцы*
*паваротаў*

*як бенджамін батан ставаўца*
*з кожнай хвілінай*
*маладзейшым*
*аж да нулявой гадзіны*
*свайго нараджэння*

*аднак у восем*
*пачуюцца словы маці*
*як дакор*

*— навошта гэта сынок*

*навошта ты выязджаў*
*у іншы свет*

*навошта ты стаў*
*такім вядомым*

*навошта ты пачынаў*
*пісаць вершы*

*навошта табе гэтыя*
*лодзі варшавы мінскі і лонданы*



*навошта табе столькі пытанняў*
*на якія дагэтуль*
*не знайшоў адказаў*

*навошта табе гэта*
*адкажы*

*— я хацеў пайсці каб вярнуцца*
*мама*

*каб у люстэрку ўбачыць*
*твой загарэлы твар*
*і ўсміхнуцца*

*пачуць бацькавыя словы*
*і паверыць што ішоўшы*
*варшаўскай маршалкоўскай*
*я і так дайду да бандароўскіх лугоў*

*крыкнуць каб пачакалі*
*сябры маладосці*

*глянуць за сябе*
*і не ўбачыць нічога*
*толькі цені тваіх рук*

*не верыць што можа*
*быць інакш*
*што сляды маіх крокаў*
*залье вада*
*а чорныя сокі зямлі*
*спарахнеюць*

*марыць аб тым*
*што чалавечы розум*
*прыдумвае эліксір вечнага*
*хараства*

*кахаць каханнем забойцы*
*маўчаць маўчаннем абарыгенаў*

*быць сабою сярод чужых*
*быць чужым сярод сваіх*

*быць такім як у нулявую гадзіну*
*свайго нараджэння*

*а ў восем*
*не пытаць*
*навошта*

АПАВЯДАННІ

# СВАТ

Сакі (Гектар Х'ю МАНРО)
(1870-1916)

Рэстаранны гадзіннік прабіў адзінаццаць з усёй вартай павагі ненавязлівасцю і разуменнем сваёй місіі — заўсёды быць незаўважным. Калі з'яўлялася патрэба звярнуць увагу на імклівасць часу і намякнуць на ўмеранасць і неабходнасць змяніць месца знаходжання, то з гэтай мэтай звычайна прыглушалі святло.

Праз шэсць хвілінаў Кловіс падышоў да абедзеннага стала са шчаслівым трымценнем чалавека, які вячэраў невядома як і да таго ж досыць даўно.

— Я паміраю з голаду, — узвесціў ён, спрабуючы адначасова грацыёзна сесці і азнаёміцца з меню.

— Я ўжо зразумеў, — адказаў гаспадар, — улічыўшы той факт, што вы амаль не спазніліся. Вымушаны сказаць вам, што я кулінар-рэфарматар і ўжо замовіў для вас дзве талеркі малака з хлебам і некалькі карысных для здароўя сухарыкаў. Спадзяюся, вы не супраць.

Пасля Кловіс сцвярджаў, нібыта цягам першых доляў секунды ўсё, што было ў яго вышэй за каўнер, нават не збляднела.

— Я б на вашым месцы, — сказаў ён, — не жартаваў такімі рэчамі. Людзі, якія харчуюцца падобным чынам, напраўду існуюць. Я нават сустракаў тых, хто іх бачыў. Ведаць пра тое смакоцце, якое існуе ў свеце, і ўсё адно да канца жыцця чвякаць апілкамі і ганарыцца гэтым!..

— Яны як тыя сярэднявечныя флагеланты [1], што ўтаймоўвалі сваю плоць...

— Флагелантаў яшчэ можна зразумець, — сказаў Кловіс. — Яны ж хацелі ўратаваць свае несмяротныя душы, праўда? І не трэба нагадваць мне, што ў чалавека, які не любіць вустрыц, спаржу і добрае віно, ёсць душа ці хаця б страўнік. У яго проста вельмі развітая цяга да нешчаслівага жыцця.

На некалькі блаславёных імгненняў Кловіс з усёй магчымай пяшчотай насалоджваўся хуткім знікненнем вустрыц.

— Я лічу вустрыц лепшымі за любую рэлігію, — вярнуўся ён да размовы. — Яны не толькі даруюць нам нядобрае да сябе стаўленне, але і апраўдваюць яго, падбухторваючы абыходзіцца з імі яшчэ больш жорстка. Трапіўшы аднойчы на абедзенны стол, яны, здаецца, з усёй сур'ёзнасцю робяцца яго душой. У хрысціянстве ці будызме няма нічога нават блізка падобнага да гэтай спачувальнай бескарыслівасці вустрыц. Вам падабаецца мая новая камізэлька? Сёння я надзеў яе першы раз.

— Яна выглядае нічым не лепш за ўсе іншыя камізэлькі, якія вы надзявалі апошнім часам. Вы ўзялі за звычай прыходзіць на абед кожны раз у новай камізэльцы.

— Кажуць, што за лішкі маладосці потым даводзіцца расплачвацца здароўем, але, на шчасце, адзенне гэта не датычыць. Мая маці падумвае пра тое, каб выйсці замуж.

— Зноў?!

— Гэта будзе першы раз.

— Вы, безумоўна, ведаеце лепей. Але ў мяне такое ўражанне, што яна была замужам як найменш два разы.

— Тры, калі быць матэматычна дакладным. Я хацеў сказаць, што гэта першы раз, калі яна думае пра замужжа. Ва ўсіх астатніх выпадках яна выскоквала, нават не задумваючыся. Хаця напраўду гэтым разам за яе думаю я. Разумееце, пасля смерці яе мінулага мужа прайшло ўжо два гады.

— І вы, несумненна, мяркуеце, што кароткасць — сястра ўдаўства.

— Мне здаецца, што яна пачынае хандрыць і рабіцца сур'ёзнай, а гэта зусім ёй не пасуе. Першы сімптом, на які я звярнуў увагу, — гэта яе жальбы на тое, што мы жывем не па сродках. Усе прыстойныя людзі жывуць сёння не па сродках, а людзі непрыстойныя жывуць на сродкі іншых. Рэдкім таленавітым асобам удаецца спалучаць і першае, і другое.

— Гэта не талент, а хутчэй кемлівасць.

— Крызіс пачаўся тады, — працягнуў Кловіс, — калі яна раптам учапілася за ідэю, што позні час — гэта кепска, і захацела, каб я вяртаўся дадому не пазней за гадзіну ночы. І гэта яна казала мне, каму мінулым днём нараджэння спаўнілася васямнаццаць!



— Двума мінулымі днямі нараджэння, калі быць матэматычна дакладным.

— Ну, гэта ўжо не мая віна. Я не збіраюся рабіцца дзевятнаццацігадовым, пакуль маёй маці ўсё яшчэ трыццаць сем. Трэба ж сачыць за вонкавай адпаведнасцю!

— Магчыма, зрабіўшыся сур'ёзнай, ваша маці зробіцца таксама крыху старэйшай.

— Ні ў якім разе. Жанчыны пачынаюць перавыхоўваць толькі тады, калі бачаць недахопы іншых. Вось чаму я і схапіўся за думку выдаць яе замуж.

— І як, вы ўжо прасунуліся ў справе пошуку патрэбнай кандыдатуры ці проста падкінулі ёй ідэю і з надзеяй чакаеце, што яна зразумела ваш намёк?

— Калі хочаш зрабіць нешта як мага хутчэй, зрабі гэта сам. Я знайшоў аднаго франта-вайскоўца, які без справы абіваўся ў клубе, і запрасіў яго разы з два дадому на абед. Большую частку жыцця ён правёў на індыйскай мяжы, дзе будаваў дарогі, дапамагаў справіцца з голадам і землятрусамі, карацей, займаўся ўсім тым, чым займаюцца на мяжы. Ён мог на пятнаццаці мовах дамовіцца з раздражнёнай кобрай і, верагодна, ведаў, як паводзіць сябе, калі дзікі слон забрыдзе на тваю пляцоўку для кракету, але з жанчынамі паводзіўся сціпла і няўпэўнена. Я цішком паведаміў маці, што ён ненавідзіць жанчын, і яна прадэманстравала ўсе свае таленты ў галіне флірту, а іх зусім нямала.

— І як, джэнтльмен паддаўся?

— Я чуў, як ён казаў у клубе, што шукае для свайго маладога сябра працу ў калоніях, чым цяжэйшую, тым лепш, а таму не сумняюся, што ён вырашыў увайсці ў нашу сям'ю.

— Баюся, вы рызыкуеце зрабіцца ахвярай перавыхавання сваёй маці.

Кловіс сцёр з вуснаў рэшткі турэцкай кавы і стоеную ўсмешку ды марудна прымружыў правае вока, што, верагодна, магло абазначаць: «Ох, наўрад ці!».

[1] Флагеланты — рэлігійныя заходнееўрапейскія аскеты-фанатыкі XIII–XIV ст., што змярцвялі сваю плоць; у пераносным сэнсе — людзі, якія займаюцца самакатаваннем.

**Пераклад з ангельскай мовы
Ганны Янкута**

# МАМАНТ У СТРАСЕ

Збігнеў Влодзімеж ФРОНЧАК

Якуб Залескі, задзірлівы шляхцюк з Падляшша, як кажа старая і вядомая прыпавесць, вырашыў шукаць справядлівасці ў самаго караля Яна Сабескага.

Шляхта бывала сварлівай, схільнай да звадніцтва, не шкадавала грошай на подкуп суддзяў, судзілася гадамі. Вядомая рэч. Можа, і той Залескі прамантачыў маёнтак у працэсах. Адно не падлягае сумненню: надышоў дзень, у які ён асядлаў клячу і напраста рушыў у падваршаўскае Вілянова. Быў ужо недалёка, калі натрапіў на шпацыруючага шляхціра. Спытаўся ў напатканага пра дарогу, атрымаў талковы адказ, завязалася гутарка. Залескі, поўны горычы з-за чалавечай несправядлівасці, распавёў пра мэту падарожжа. Разззлаваны, заявіў, што калі справядлівасці не знойдзе і ў ягамосці, тады засведчыць усім, быццам манарх пацалаваў ягонага каню ў ср..у.

Незнаёмец, чалавек станісты і тлусты, не хаваў сваіх сувязяў з дваром. Абяцаў прыбыўшаму забяспечыць аўдыенцыю ў найяснейшага. Нават на наступны дзень. І слова стрымаў.

Пераступіўшы парог аўдыенцыйнай залы, Залескі імгненна зарыентаваўся, што папярэднім днём гутарыў з каралём. Сабескі яшчэ раз выслухаў шукальніка справядлівасці, у канцы ж нахітліва запытаў, што здарыцца



ў выпадку каралеўскай адмовы? Падляшак спанталыку не збіўся, адказаў: «Слоўца сказана, кабылка ля плоту!».

Кароль зайшоўся смехам, прысутным растлумачылі выбух каралеўскай весялосці. Показка спадабалася і здабыла незвычайную папулярнасць. І сёння, калі прыгадваем камусьці пра дадзенае абяцанне, мы ўжываем тую гістарычную фразу.

Залескія на Падляшшы — гэта шматлікі род. Караль Залескі, жыхар падляшскіх Лотазаў, меў таго Якуба, аўтара згаданай фармулёўкі, сваім продкам. Жыў у самоце і памёр ціха. Здарэнне, дзякуючы якому памяць аб ім захавалася, звязана з... мамантам.

— Калі сюды прыйдуць рускія, то я пацалую маманта. Пад самы хвост! — Агалосіў Караль.

Як можна заключыць, пыхлівы нашчадак падляшскага шляхціца не верыў у разгром Вермахта. Гэта не значыць, барані Божа, што зычыў немцам перамогі. Ненавідзеў іх ад усяго сэрца, але савецкай вікторыі не прадбачваў.

Вайна была доўгай і цяжкай. Сёння ўжо і школьнікі ведаюць, што пасля сталінградскага разгрому шанцы немцаў на выйгрыш зніклі. Стала зразумелым: расейцы здолеюць быць у Берліне і Ломаз у тым пахаdзе не абмінуць. Але Караль Залескі, васьмідзесяцігадовы, пранырлівы, у год, калі выбухнула вайна, ужо самотны ўдавец, галаву нёс высока. Ганарыўся сваёй хітрасцю — хоць у палітыцы троху пралічыўся, але ўсе ведалі, што такой жывёліны на свеце няма, таму азадка мамантавага не пацалуе...

Існуюць, аднак, на свеце рэчы, што не сніліся нават Залескім з Падляшша!

Стары Караль прачнуўся неяк зімнім ранкам, была гэта зіма 43-га ці 44-га года (хто ж гэта можа дакладна памятаць?). Халодны шэрань пакрываў яшчэ зямлю, і здалося пабуджанаму дзядку, быццам ягоная хатка, што самотна стаяла ля тракта на Вішаніцы, захісталася. Гэта быў не сон, бо праз хвілю зноў яўна затрымцела. На брудныватыя і моцна паношаныя споднікі нацягнуў вельветавыя нагавіцы, выглянуў у акно і нічога не заўважыў. Надставіў вушы, бо слых меў добры. Нехта драпаў па страсе. Так, гэта з тылу хаты тузаюць пакрыццё даху. «Не каза ж?» — падумаў так і ўзброіўся сукаватым калом. Адкінуў гачок, адчыніў дзверы. На дыбачках падкраўся да кута хацінкі, асцярожна выглянуў — і аслупянеў. За чатыры крокі ад яго стаяў... мамант! Не толькі стаяў, а і скуб страху. Вялікі, як дзве альбо тры разам узятыя каровы, і хоць на казліных худых нагах, але галава дасягала коміна! Жаваў старую салому са страхі з такім смакам, аж но з пысы сліна цякла. Голасу не падаваў.

— І я павінен пацалаваць яго пад хвост? — Думка гэтая ўразіла дзёрзкага дзядка. — Завялікі ж.

Пакуль што вызваленне ад абяцання належала адкласці. Шэльма магла спляжыць дах ці нават забурыць хацінку. Трэба было бараніць маёмасць! Замахнуўся калом, але праз імгненне быццам апрытомеў і спалохаўся сваёй адчайнай адвагі, бо апусціў рукі і сукаватку схаваў за спіной. А велічэзны абжора відавочна напоўніўся да смельчака павагі. Кінуў скубці, і хоць неахвотна, павольна адступіў ад халупкі і пайшоў сабе бледным золакам у далёкі край.

— Хутка канец свету! — заявіў Залескі знаёмым. — Пацалаваў гэтай ноччу маманта. Пад самы хвост!

Не верылі. Ніхто нават не ўсміхнуўся. Той-сёй паківалі галовамі. Ат, — думалі, — панесла дзядка фантазія.

Неўзабаве пасля ўваходу расейцаў памёр, пахавалі яго побач з жонкай, пра рахункі з мамантам узгадваць перасталі.

Адно здарэнне з тых мясцінаў кідае, аднак, святло на той найважнейшы момант жыцця Караля Залескага. Ёзэф Вільк, сённяшні жыхар Варшавы, які паходзіць з Падляшша, з-пад Вэнгрова, у час вайны, калі быў падлеткам і знаходзіўся ў дзеда з бабуляй, бачыў паблізу Ламазаў... вярблюда. Сапраўднага, двухгорбага гіганта. Ці то ведае, ці то прыдумаў ягоную гісторыю. Гэты незвычайны ў тых краёх звер вяртаўся з-пад Масквы. Што там рабіў? Завезлі на гастрольныя выступленні! Хтосьці ў Рэйху, хутчэй за ўсё нейкі прапагандыст, прыдумаў крыху пазабавіць жаўнераў на фронце прадстаўленнямі. І адправіў на ўсход цыркавую трупу пад назовам «Фантазія», ці то «Пінокіо». Пэўна, былі там і мядзведзь, і малпы, і дрэсіраваныя сабакі. Гэта малаважна. Калі пад нагамі пачала гарэць зямля, цыркачы спакавалі манаткі. Трупу разграмілі партызаны, шчасліва выслізнуў толькі вярблюд. Незвычайна пашанцавала — дабраўся да Ломазаў, затрымаўся ля хаты апошняга з роду Залескіх. Але стары Караль, які ўсё жыццё ўрабляў невялікае поле і за Ламазы не вытыркаў носа, ніколі не бачыў ні жывога вярблюда, ні намаляванага маманта. Таму нічога дзіўнага, што гарбача прыняў за перадпатопавы экземпляр.

Лёс даў яму, аднак, незвычайны шанец. Мог выканаць сваё абяцанне, каб не лічыцца пустасловам.

Вярблюд, гнаны здаровым інстынктам, падаўся на захад. Аднак скуры не збярог. Здаецца, укатрупілі яго партызаны. На жаль, след атрада, жаўнеры якога згаталі печань цыркавой жывёліны, не знайшоўся.

**Пераклад з польскай мовы
Паўла Ляхновіча**

ЗГАДКА

# У МАСКВУ НА РАЗВІТАННЕ

Яўген ЛЕЦКА

**...Жалобная вестка пра смерць Антона Аляксандравіча Сабалеўскага не заспела мяне цалкам знянацку, бо тужлівы званочак-прадбачанне празвінеў больш пяці гадоў таму, — калі яго, дзейснага, рухавага і інтэлектуальнага, нечакана зваліў цяжкі інсульт.**



Даведаўшыся, я памкнуўся яго наведаць, каб неяк падтрымаць, ды родныя мяне перасцераглі, параілі пачакаць, пакуль нямоглы акрыяе. Але да ранейшага жыцця дзядзька Антон, як мы яго называлі, так і не вярнуўся, сустракацца з сябрамі не жадаў, мабыць, хацеў застацца ў іхняй памяці такім, якім быў дасюль. Але розумам не парушыўся, успрымаў рэчаіснасць адэкватна, хоць чытаць яму было цяжка; родныя пераказвалі найбольш цікавыя навіны з перыёдыкі, знаёмілі з тым, што адбывалася з Беларуссю, у тым ліку і на яго малой радзіме — на Глыбоччыне, якую ён любіў, шанаваў і чым мог ёй спрыяў. Апошнім такім учынкам быў падарунак бронзавай статуі Янкі Купалы этнаграфічнаму музею роднага горада. Гэтаму папярэднічала свая гісторыя. Антон Аляксандравіч быў ініцыятарам устаноўкі помніка слыннаму беларускаму песняру ў Маскве, захапіў гэтай ідэяй вядомага скульптара Валерыя Янушкевіча. Эскіз помніка быў выкананы, але ў чымсьці не спадабаўся міністэрскім чыноўнікам... Сабалеўскі, як чалавек высокамаральны, адчуваў няёмкасць перад В. Янушкевічам, набыў у яго адліты ў бронзе рабочы варыянт скульптуры і падарыў яе роднаму Глыбокаму...

Антон Сабалеўскі, у мінулым кадравы вайсковец, мужна пераадольваў жыццёвыя нягоды. Апрача іншага, спрацоўваў кодэкс афіцэрскай годнасці, хоць па жыцці сваім палкоўніцкім званнем не выстаўляўся, у форме і пры ўзнагародах быў хіба што на афіцыйных прыёмах і ў адпаведныя дзяржаўныя святы. Быў простым і шчырым, паводзіў сябе як роўны, а з блізкімі сябрамі як родны з роднымі. Дый прафесія ў яго была больш мірная, чым ваярская. Быў ён інжынерам-будаўніком, а дакладней — маставікам...

Жалобную вестку пра смерць мне перадала па просьбе слаўнага маскоўскага беларуса Аляксея Каўкі таксама светлая асоба — дырэктар Дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка. Пытання ехаць, ці не — не існавала. Праблема была ў тым, каб своечасова трапіць у Маскву. Трэба было набыць на цягнік білет. Па тэлефоне сказалі, што плацкартных няма, толькі купэйныя. Як для пенсіянера, сума астранамічная: туды і назад два мільёны, а гэта і ёсць месячная пенсія. Тэлефаную знаёмаму выкладчыку, сябру яшчэ са студэнцка-аспіранцкіх часоў, спагаднаму і зычліваму беларусу Кастусю Лапко, прашу выручыць: пазычыць грошы і ўзяць білет, бо сам я не паспяваю — трэба ж неяк даведацца, дзе і ў колькі будзе адпяванне нябожчыка. У Кастуся якраз былі вячэрнія заняткі, але ён папрасіў паспрыяць маладзіцу са сваёй лабараторыі...

У Маскве апошні раз быў гадоў дзесяць назад, калі пры спрыянні ўжо светлай памяці Антона Аляксандравіча Сабалеўскага была наладжана прэзентацыя выдадзенай мною праз ТАА «Выдавецтва Бацькаўшчына» кнігі Генадзя Бураўкіна «Паміж зоркай і свечкай». Дзядзька Антон дамовіўся наконт залы ў адной з цэнтральных маскоўскіх бібліятэк, здолеў сабраць у ёй намала народу, зразумела, пераважна маскоўскіх беларусаў.

У Мінску мне ўдалося скантактавацца з чалавекам, які ляцеў на пахаванне самалётам, ён паведаміў, што ад адной са станцый метро ў прызначаны час адыдзе аўтобус і адвязе туды, дзе будзе адпяванне спачылага. Праблема была ў тым, што жалобнае развітанне было ў адным месцы, а само пахаванне на іншых могілках, а дзе дакладна, той чалавек не ведаў. Вось чаму мне канечне трэба было паспець на замоўлены аўтобус. Але ў метро ўзнікла праблема: у мяне не было расійскіх грошаў на білет. Былі долары. Прасіў у чарзе ўзяць, але нечакана сутыкнуўся з агрэсіўнай непрыхільнасцю і адмовай выручыць...

Патрэбная мне станцыя метро была недалёка ад гэтай, «Беларускай». Я ўрэшце быў на месцы. Але... мой аўтобус ад'ехаў без мяне...

Ведаць бы хоць дакладна, у якой царкве будзе адпяванне, можна было б паспрабаваць дабрацца туды на гарадскім транспарце. Распытваю ў мінакоў, якая з дзвюх царква бліжэй і як туды дабрацца. Саджуся на аўтобус, колькі мага пад'язджаю, потым з кіламетр іду пешкі. Зводдаль усцешыўся, што ля царквы стаялі легкавушкі, потым убачыў і дзверы, у якія заходзілі і з якіх выходзілі людзі. Але народу ў царкве было няшмат, нікога там не адпявалі. Падыходжу да прадавачкі іконкаў і свечак, цікаўлюся, ці адпявалі вайскоўца-палкоўніка. Ды не, адказала, сёння ў храме выхадны, нікога не адпяваюць. Цікаўлюся, ці далёка адсюль і ў якім баку Кунцаўская царква...

— Это там, — махае рукою. — Километра два-три отсюда будет. Не зайдешь ты, милый, со своими ножками-то. Может, автобус подвернется, выходи на трассу, там и расписание висит...

Расклад сапраўды вісеў, і праз хвілін дзесяць меўся быць аўтобус. Мінула дзесяць і дваццаць, а яго ўсё не было. Пачаў, адчуваючы, што з кожнай хвілінай гіне мой шанец трапіць на развітанне з дзядзькам Антонам, распытваць у людзей, чаму няма аўтобуса па раскладзе. Ніхто гэтаму не здзіўляўся, а тым больш не абураўся. Маўляў, вінавата надвор'е, снегу за ноч накідала, пакуль што ніхто не расчышчае, таму аўтобус і не выехаў, бо больш спаліш бензіну, чым выручыш... Выходзіць, і мне трэба супакоіцца і вяртацца назад у Мінск. «Эх, дзядзька Антон, дзядзька Антон! Вось мы і сустрэліся з Вамі і назаўсёды развіталіся!»

І тут раптам ля мяне спыняецца іншамарка, адчыняюцца дзверцы і кіроўца пытаецца ў нас (мы стаялі ўтрох), ці можа хто сказаць, як яму трапіць на Кунцаўскія могілкі... Мяне асяніла: вось ён, апошні шанец!

— Паехалі! Мне якраз туды...

Мы едзем, я пільна ўзіраюся, прыкідваю, дзе трэба будзе павярнуць направа. Выглядае, шго адгадаў. Пад'язджаем да царквы, нам падказваюць, што адпяваюць не ў ёй, а ў рэлігійна-грамадскім цэнтры. А гэта побач. Адчыняю дзверы ў рытуальную залу, вока выхоплівае постаць Аляксея Каўкі... Падыходжу, углядаюся ў навечна супакоенага Антона Аляксандравіча. Хвароба не знявечыла ягонае аблічча: выглядае так, як і пры жыцці, тым, калі мы апошні раз з ім бачыліся. Апрануты ў цывільны гарнітур, толькі вайсковая фуражка сведчыць пра яго службовае становішча.

Адпяванне ішло наўздзіў прыгожа. Малады стройны святар усю службу вёў па памяці без усякай кантычкі. А як хораша зладжана і ўзвышана спявалі чацвёра таксама маладых і стройных пеўчых — не жанчыны, а мужчыны.

У канцы рытуалу да мяне падышоў Аляксей Каўка і папрасіў сказаць, як прадстаўніка Бацькаўшчыны-Беларусі, развітальнае слова. Сказаць было пра што: мы разам былі ля вытокаў стварэння Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» — я як старшыня Аргкамітэта і першы старшыня Рады гэтай грамадскай арганізацыі, а ён спачатку як сябра Рады маскоўскага Таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны, а потым, замяніўшы Аляксея Каўку, і старшыня гэтай найстарэйшай дзеючай арганізацыі беларускай дыяспары ў Маскве.

Антон Аляксандравіч заўсёды быў спераду ў літаральным і сімвалічным сэнсе. Згадаю тут пра адно нестандартнае мерапрыемства, ідэя якога належала актыўнаму мінчуку, адмыслоўцу ў галіне турызму Міколу Чырскаму і заключалася ў арганізацыі вандроўкі так званага «спеўнага цеплахода» па рэках Ака і Волга, з высадкай і наведваннем мясцін, звязаных з жыццём класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Параход адыходзіў у некалькі-дзённае падарожжа з Масквы, і асноўныя арганізацыйныя клопаты па сталіцы ўзяў на сябе Антон Аляксандравіч. Але напярэдадні вандроўкі свет быў узбаламучаны дзеяннямі так званага ГКЧП... Час быў трывожны... Я патэлефанаваў дзядзьку Антону, пачаў з ім раіцца, як дзейнічаць у гэтай неардынарнай сітуацыі.

— Як вырашылі, так і будзем рабіць. Няхай баяцца тыя, хто заварвае дзяржаўныя перавароты. Бачыў жа па тэлебачанні, як у іх калаціліся рукі? Так што смялей!..

Напярэдадні нашай вандроўкі гэкачэпісты былі арыштаваны і ўзяты пад варту, і мы, прыехаўшы ў тады яшчэ сталіцу СССР, мелі магчымасць агледзець ужо апусцелыя на маскоўскіх вуліцах барыкады і ўмацаванні, пабітыя вітрыны...

Дзядзька Антон быў адзіным з удзельнікаў «спеўнага парахода», хто ўзяў з сабою нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг (дзяржаўным ён стане пазней) і заўсёды насіў яго з сабой напераменку з унукам Дзянісам, хлопцам гадоў пад дзесяць. Дзякуючы сцягу, хлопец не згубіўся ў велізарным тлуме ў Ніжнім Ноўгарадзе, калі адстаў ад дзеда і мы кінуліся на пошукі, распытваючы ў людзей пра хлопчыка з экзатычным палотнішчам над галавой. Сёння той колішні хлапчук — высокі і стройны малады чалавек, жанаты, мае сына, працуе начальнікам аддзела навін эканомікі на гарадскім інфармацыйным тэлеканале «Масква 24». Ён — сын дачкі Антона Аляксандравіча. А сын названы ў гонар бацькі Антонам. Мае двух сыноў. І ого якую паважную пасаду: начальнік аддзела падводных караблёў Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі. Ён і быў непасрэдным арганізатарам пахарон, зладжаных на самым высокім і прадстаўнічым узроўні з выкананнем дзяржаўнага гімна Расіі і ўшанавальнага салюту. Антон Аляксандравіч гэткага гонару заслужыў, пра што гаварылі за жалобным сталом яго колішнія аднапалчане, родныя і сябры. Гаварылі, безумоўна, не толькі пра выкананне ім службовых абавязкаў, але мо найбольш пра яго талент быць сапраўдным Чалавекам, сапраўдным Беларусам, сынам Глыбоччыны, дзе, маркую, ягоная памяць абавязкова павінна быць ушанавана...

У асобе Антона Аляксандравіча арганічна была паяднана высокая культура, традыцыйная беларуская зычлівасць, тактоўнасць, спагада з грамадзянскай мужнасцю, нязломнасцю, прынцыповасцю, падмацаванымі і набытымі за часы вайсковай службы. Прывяду тут факт, сведкам якога я быў і пра які напісаў у памінальным слове на старонках тыднёвіка «Наша ніва» маскоўскі беларус Алесь Чайчыц:

«Памятаю, на з'ездзе беларусаў свету 2005 года на трыбуну выйшаў нейкі расійскі чыноўнік у дарагім гарнітуры і неахвотна прабачыўся перад публікаю: «Я двадцать лет живу в Москве и уже забыл родную мову». Пасля ягонага выступу на трыбуну імкліва ўзышоў спадар Сабалеўскі і пачаў сваю прамову словамі: «Я жыву ў Маскве ўжо пяцьдзясят гадоў. Але беларускую мову не забыў».

На жаль, такіх, як Антон Аляксандравіч, людзей сярод маскоўскіх беларусаў няшмат, асноўная ж маса з узроўнем і светапоглядам такія, як той безыменны чыноўнік. У Маскве беларусаў пражывае каля паўмільёна, але няма ніводнага беларускамоўнага выдання, а спробы адчыніць беларускамоўную школу скончыліся нічым, увогуле нацыянальная беларуская свядомасць, якая ажывілася ў першыя гады незалежнасці, не толькі не ўмацавалася і акрыяла, але, наадварот, згасае, многія беларусы, не бачачы перспектывы, проста перапісваюцца і ў пашпартах на рускіх.

Вось чаму адыход у лепшы свет такіх людзей, як светлай памяці Антон Аляксандравіч Сабалеўскі, успрымаецца балючай стратай...

**КРАЯПІС**

# СЛОВЫ ПРА ЗЕМЛЯКА

Канстанцін КАСЯК

**Гэтая гісторыя пачалася ў верасні 1924 года, калі нарадзілася мая бабуля. Сёлета ёй споўніцца 89 гадоў.**



Яна прыйшла ў свет у вёсцы Магільна Уздзенскага раёна Мінскай вобласці. Менавіта з гэтай вёскі пачынаецца вялікая дуга, якую ўтварае Нёман аж да Стоўбцаў. Самі Стоўбцы знаходзяцца ў дваццаці кіламетрах ад Магільнага, а Мікалаеўшчына ў пятнаццаці. У гэтых вёсак шмат агульнага.

Магільнае, як і Мікалаеўшчына, было ў свае часы мястэчкам. У часы Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага Магільнае было княскім уладаннем, якое асабіста належала Вітаўту Вялікаму. На беразе Нёмана нават стаяў замак. Цяпер ад яго нічога не засталося, але сталічныя археолагі раскопкі ладзілі.

Не абмінулі мястэчка падзелы Рэчы Паспалітай, калі яно трапіла ў склад Расійскай імперыі. Пасля Рыжскага міру, калі Беларусь была падзелена паміж Савецкім Саюзам і Польшчай, Магільнае апынулася на самым ускрайку «бальшавізму». За полем, якое пачыналася за вясковымі хатамі, была ўжо «панская Польшча». Там была Мікалаеўшчына і засценак Акінчыцы, дзе нарадзіўся Якуб Колас…

З яго творчасцю я пазнаёміўся надзвычай рана. Мая бабуля была выкладчыцай, навучала дзяцей расійскай мове. У хаце было шмат кніг, у тым ліку і на беларускай мове. Сярод іх большасць належала класікам: Колас, Купала, Караткевіч, Маўр ды іншыя. Бабуля з малых гадоў прымушала чытаць і пераказваць ёй змест. Зразумела, мне гэта не падабалася — каму з дзяцей такое можа падабацца? Цяпер я з удзячнасцю ўзгадваю сваю бабулю...

У той час больш за ўсё мне падабалася чытаць Якуба Коласа. Пэўна таму, што я заўсёды адчуваў яго найперш земляком, а ўжо потым паэтам і празаікам. Гэта больш за простае чытанне. Гэта больш за літаратуру. Гэта больш за паэзію. Коласаўскія радкі вельмі блізкія мне. Апісанні прыроды зачароўваюць. Тым больш, калі жывеш побач, тым больш, калі можна ўсё гэта пабачыць.

Мяне заўсёды вабіў Нёман. Гэтую раку справядліва празвалі «бацькам», бо яна карміла не адно пакаленне беларусаў. Мая бабуля, калі я іду купацца, часцяком узгадвае той факт, што Нёман некалі быў судаходным. Яна бачыла гэта наўвачавідкі. Бачыла і плыты, якія гналі на Захад. Пра гэта ўсё любіла распавядаць, займаючыся якімі-небудзь хатнімі справамі. Я слухаў, запамінаў, пасля браў кнігі Коласа і чытаў.

Мой зямляк вельмі красамоўна апісаў прыгажосць краю. Можна нават сказаць па-іншаму: жывучы сярод такой прыгажосці, не пачаць пісаць было немажліва. Пясняр прыгажосці павінен быў з'явіцца. І ён з'явіўся.

Якуб Колас пісаў не толькі пра Міншчыну. У які б куток краіны мяне не закідваў лёс, я ўзгадваў радкі з вершаў свайго земляка. Яны падыходзяць для ўсіх куткоў Беларусі, і не толькі... Мінулым летам мне давялося патрапіць у Вільню. Першы раз за жыццё. Гэта горад, дзе павінен пабываць кожны беларус, бо там пачыналася «усё». Наша ўсё. Яшчэ на памежным пункце «Кена», калі ў вагон зайшлі літоўскія памежнікі, я зразумеў, што ніякае гэта не замежжа. Некалі мы жылі ў адной дзяржаве, але лёс развёў нашыя народы па розных дарогах, а межы пасеклі былое супольнае гаспадарства. «Цяпер, каб патрапіць у Вільню, патрэбна віза, віза, віза», — злуецца валасаты хлапец, які сядзіць насупраць. Яшчэ нядаўна ён, неабцяжараны пытаннямі візавага кантролю, з цікавасцю чытаў «Мур» Сартра...

Калі прыглядзецца, а дакладней прычытацца, то коласаўскія сляды можна дагэтуль пабачыць у былой сталіцы Княства. Як толькі выйшаў з цягніка, прыгадаўся «Дзядзька ў Вільні». Але ж як трапна ўзгадалася. «Калі вярнуся дадому, абавязкова перачытаю «Новую зямлю», — падумаў я сабе і пайшоў да Вострай Брамы. Віленскі вакзал з часоў дзядзькі Антося не змяніўся: той жа тунэль пад вакзалам, тыя ж выхады, той жа паварот...

Як высветлілася пазней, не толькі вакзал, але і горад не змяніўся. Вечны горад. Падумаць толькі: сто гадоў таму тут быў Колас, пісаў вершы, а з Замкавай гары на былую сталіцу Вялікага княства глядзелі яго героі. У часы Коласа Вільню звалі еўрапейскім Іерусалімам, цяпер гэта сапраўдны еўрапейскі Вавілон: тут без праблемаў можна сустрэць не толькі прадстаўнікоў большасці еўрапейскіх нацыяў, але і людзей з іншых кантынентаў.

Насупраць будынка, дзе некалі была рэдакцыя газеты «Наша Доля», на Віленскай вуліцы граюць літоўскія вулічныя музыкі. Яны тут бываюць вельмі часта, прынамсі, мне за дзесяць дзён трапляліся некалькі разоў. Калі па вуліцы прайсці крыху ніжэй, то выйдзеш на праспект Гедыміна. Па выхадных ён пешаходны. Мясцовыя гандлёўцы тут разнастайнымі сувенірамі. Сярод віленчукоў можна сустрэць і «рускамоўных» з Новай Вільні (якую ў народзе завуць Вілейкай) — гуляюць ды лузгаюць семкі. Гэтыя суворыя хлапцы ў большасці сваёй беларусы, якія забыліся на сваю нацыянальнасць. Пераканацца ў тым проста: дастаткова паслухаць, як яны размаўляюць. Мой сябар Алесь, першы раз пабачыўшы іх, падумаў, што гэта трактарысты з Ашмян...

Уночы каля Кафедральнага касцёла Святых Станіслава і Уладзіслава можна сустрэць п'яных вясёлых сербаў, якія настальгуючы па некалі моцнай краіне, крычаць «Юга-Юга-Югаславія!». Помнік Гедыміну аблюбавалі ўсюдысісныя японцы са сваімі «мыльніцамі». На Замкавай гары за пяць літаў можна паглядзець горад, чым і скарысталіся турысты з Баварыі...

Зрэшты, каб усё гэта апісаць, патрэбны свой сучасны дзядзька Антось і свой Колас...

**ВОДГУК**

# МЕСЦА І ЧАС

Уладзіслаў АХРОМЕНКА

**Уяўляю, як цяжка даводзілася хрысціянскім місіянерам у язычніцкіх краінах. Місіянерам трэ' было не толькі мэтанакіравана наварочваць аўтахтонаў у новую веру, але й грунтоўна вытлумачваць ім заганы ранейшых традыцыйных культаў. Але як, скажам, давесці перакананаму язычніку нявартасць іх старых багоў?**




Як стлумачыць, што Шыва — помслівы разбуральнік усяго існага і, да таго ж, аматар марыхуаны, што Буда Шак'ямуні — звычайны лайдак і абібок, а які-небудзь Зеўс — наагул бацьказабойца, клятваадступнік і, да таго ж, падступны гомасэксуаліст...

У гэтым сэнсе персанажы нашай язычніцкай міфалогіі куды больш маральнейшыя за ягіпецкіх, індыйскіх ці старажытнагрэцкіх. У старабеларускім язычніцтве не знайшлося месца ані для наркаманаў, ані для лайдакоў... Нашыя язычніцкія багі не вызначаюцца прагай да помсты, нашыя апакрыфічныя героі не схільныя да бессэнсоўнага гвалту, нашыя цмокі сапраўды талерантныя і памяркоўныя. Беларускі іншасвет месцціца не ў абстрактным Космасе і не на далёкім Алімпе, а зусім побач з намі: у пушчах, каля крыніцаў, на ростанях. У ім мірна суіснуюць хрысціянская Параскева-Пятніца і паганскі Дажбог, рэальны Гедымін і міфалагічны Машэка, а таксама чэрці, мніхі, русалкі, ваяры, патанулыя кляштары і чароўныя акенцы. А фраза «ішлі неяк тры Багародзіцы» здольная давесці да інфаркту якога заўгодна рэлігійнага артадокса! Мы і хрысціяне, і язычнікі аднначасова, і не адчуваем у гэтым аніякага канфлікту...

...Пра кожную кніжку можна спытацца вельмі каротка: «А пра што яна?». Калі адказаць на такое пытанне адносна кнігі Ірыны Клімковіч «Калі адчыняюцца нябёсы» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 2012 г.), то адказ будзе кароткім: «Пра месца і час, у якіх існуюць нашыя традыцыйныя багі і героі». Пра Ярылу і Вялеса чулі ўсе — але хто можа дакладна апавесці пра іх іерархію ў іншасвеце? На сталічным Камароўскім рынку бываў ці не кожны беларус — але хто ведае, што той рынак названы ў гонар бажаволка Хведзькі Камара? Абразы святога Міколы стаяць ці не ў кожнай хаце, але ці ўсе ведаем, што ў Беларусі іх ажно два — «Мікола Зімовы» і «Мікола Веснавы»?

Безумоўная вартасць кнігі Ірыны Клімковіч — інтанацыя, пераканаўчая і даверная. Калі аўтарка піша пра скамянелых людзей, ёй сапраўды верыш. І міжволі задаешся пытаннем: а мо і не варта «ў дзень святы працаваць», каб не перакінуцца ў які валун, бы той араты Сцяпан з Вілейшчыны? А прачытаўшы пра шматлікія скарбы, каторыя і дагэтуль чакаюць свайго часу ў азёрных глыбінях і лясных нетрах, адразу прыгадваеш падобныя гісторыі, якія перад сном апавядала твая бабуля. І нават ловіш сябе на думцы: мауляў, а не пагана было б выправіцца на тую «святую гару» з металашукальнікам і рыдлёўкай...

Нават персанажы, на першы погляд, мала сімпатычныя, кшталту разнастайных ваўкалакаў і вядзьмарак, у кнізе Ірыны Клімковіч паўстаюць тоеснымі і па-свойму роднымі. Яны чымсьці нагадваюць схільных да выбрыкаў суседзяў, з якімі іншым разам сабачышся, але каторым усё адно прабачаеш усе іхнія заганы, бо яны — свае, не чужынскія. Дый жыццё без людзей з цалкам дараальнымі хібамі было б нудным і прэсным, рыхтык — халадзец без хрэну на велікодным стале.

Кожны, хто прачытае «Калі адчыняюцца нябёсы», напэўна задасць пытанне: адкуль у аўтаркі столькі эксклюзіву пра месца і час, у каторых існуе наш іншасвет? Не ўсе жыхары Валожына ведаюць пра чорта, які калісьці рамантаваў тамтэйшым людзям боты, а пра Камень-Кравец, што ляжыць у Чашніцкім раёне, можна прачытаць далёка не ў кожным спецыялізаваным даведніку! А ведае пра ўсё гэта Ірына Клімковіч выключна з першакрыніцы. Вось ужо не першы год яна разам з іншымі даследнікамі этнагістарычнага цэнтру «Явар» вандруе па Беларусі ў пошуках надзвычайнага. Так што калі аўтарка піша пра якую цікавостку — можна без сумневу сцвярджаць, што яна не толькі бачыла яе на ўласныя вочы, але і напэўна распытала пра яе.

Кожная кніга мае сваю мэтавую аўдыторыю. У анатацыі да «Калі адчыняюцца нябёсы» напісана: «Адрасуецца шырокаму колу чытачоў». Наконт «шырокага кола» сказаць не бяруся, але мая дзесяцігадовая дачка праглынула гэтую кнігу за два дні. І першае, пра што яна запыталася ў мяне — «А што яшчэ можна прачытаць пра ваўкалакаў і скарбы?».

Як па мне — гэта лепшы камплімент, які можа пачуць пісьменніца.

▸ АГЛЯД

# ШЛЯХ ДА РАМАНА: ПРОЗА ЛЯВОНА ВАЛАСЮКА

Уладзімір ЛЕБЕДЗЕЎ

**Ніхто, мусіць, з берасцейскіх літаратараў не працуе так інтэнсіўна, як Лявон Валасюк.**

Ён паспеў выдаць каля дзясятка паэтычных зборнікаў, сярод якіх такія змястоўныя, як «Леаніды» (2003), «Чырвоная вежа» (2004), «Познія сны» (2006). Кніга выбранай лірыкі «Знакі на валуне» (2010) пэўным чынам падсумавала творчыя пошукі і дасягненні Л. Валасюка-паэта.

Зборнік «Познія сны» цікавы яшчэ і тым, што ў ім побач з паэтычнымі змешчаны і празаічныя творы, а гэта абяцала і далейшыя сустрэчы з прозай пісьменніка. І сапраўды, у 2008 годзе з'явіліся «Сцежкі да сядзібы. Абразкі маленства», а ў 2012 годзе была выдадзена кніга «Вяртанне берасцейскай стралы. Раманы і аповесці, апавяданні і абразкі».

Л. Валасюк-празаік пачынаў менавіта з абразкоў. Гэта жанравая форма ўключае ў свае абсягі лірычныя і бытавыя замалёўкі, мініяцюры, гумарэскі і кароткія імпрэсіі, апавяданні. Заўважым, што абразкі вельмі пашыраны ў беларускай літаратуры, пачынаючы ўжо з канца XIX-пачатку XX стст., з творчасці Ф.Багушэвіча і Ядвігіна Ш., Я.Коласа і Зм.Бядулі.

Герой-апавядальнік «Сцежак да сядзібы» няўхільна спасцігае тыя маральна-этычныя нормы, якімі павінны кіравацца людзі. Ён успамінае пра забавы і свавольствы, не хавае і тыя моманты, за якія і пазней адчувае няёмкасць і прыкрасць («Дзядзькава вяселле», «Цукеркі»). А некаторыя эпізоды з дзяцінства ўжо суадносяцца з будучым лёсам персанажа — пісьменніка і мастака («Пахі дрэва», «Тры волаты», «Водар роднай мовы»). Да ліку лепшых лірычных замалёвак можна аднесці такія, як «Сядзіба», «Палотны плывуць, як ветразі», «Вішні», «Зімовы ўспамін», «Каляды» і іншыя.

Большасць абразкоў — гэта своеасаблівыя аповеды, у якіх у кароткай і сціслай форме пераказваюцца падзеі з больш суб'ектыўных пазіцый. Дарэчы, сам пісьменнік прыгадвае пра аповеды ў рамане «Не здабыўшыя зямлі абыходзяцца балотам...» як пра паданні мінулага і эпізоды з перажытага. У першых зборніках ужо ёсць творы, у якіх пісьменнік спрабуе выйсці за межы абразка, наблізіцца да жанравай формы апавядання. Вылучым такія творы, як «Буслы», «Дзень нараджэння» («Познія сны»), «Двое з адным лёсам», «Лыжка срэбраная, лыжка алавяная» («Сцежкі да сядзібы»). У апошніх творах назіраецца спроба пазначыць кароткімі эпізодамі хроніку сваёй сям'і. Так праз удала знойдзеную мастацкую дэталь («Лыжка сярэбраная, лыжка алавяная») прасочваецца працяглая гісторыя рода па мужчынскай лініі — салдат і абаронцаў радзімы яшчэ ад прапрапрадзеда Аксенція. Заўважым, што Л. Валасюк умее некалькімі выразнымі штрыхамі акрэсліць характар чалавека (як, напрыклад, у змястоўнай гумарыстычнай мізансцэне «Гультай»).




«Сцежкі да сядзібы» былі для пісьменніка першым подступам да больш складанай жанравай формы. Абразкі адначасова ўспрымаюцца як цэласны твор, як пашыраны ў літаратуры жанр аповесці пра дзяцінства, якая складаецца з асобных эцюдаў-фрагментаў. Герой-апавядальнік, як ужо гаварылася, прыгадвае пра тыя моманты, якія найбольш уплывалі на разуменне жыцця. Цяжка пераканаца ў паслядоўнасці развіцця падзей. Эпізоды ўспрымаюцца не як этапы жыцця персанажа, а як этапы станаўлення яго характару ў асяроддзі сваёй сям'і і прыязнай вясковай супольнасці.

У зборніку «Вяртанне берасцейскай стралы» пісьменнік поруч з абразкамі вылучыў у асобны раздзел і апавяданні. Запамінаецца «Комін», які ўжо друкаваўся ў адным з нумароў абласнога літаратурнага альманаха СБП «Жырандоля». Псіхалагічны канфлікт не набывае сваёй вастрыні, а выяўляецца ў гумарыстычным плане: гаспадар урэшце быў задаволены тым, што прысутнасць гора-будаўніка дазволіла яму самому зрабіць тую справу, дзеля якой ён і запрашаў майстра.

Пісьменнік звяртаецца і да сатыры, калі жыццёвая з'ява заслугоўвае асуджэння. Такія творы сустракаліся ў зборніку «Познія сны» («Кныр», «Вось так і жывеш») і ў «Вяртанні берасцейскай стралы» (у апавяданні «Валацугі»).

Вось як, напрыклад, праз аповеды сталай жанчыны перадаецца «клопат» дзяцей пра сваю маці-пенсіянерку: «Вой, ніяк не наскрабу! Усе грошы, мусіць, дачка з сынам пазабіралі. Як палучу пенсію, дык прыедуць, абяруць (абое жывуць у адным горадзе), нічога не застаецца,» — жалілася Ганна, выцірала ражком хусткі пад вачыма, шморгала тонкім носам.

А адна з жанчын трапнай мастацкай дэталлю ўдакладняе як жыве Ганна: «Што ў яе ўзяць цяпер? Быў адзіны канёк драўляны на страсе хаты, дык і той згніў і зваліўся ў гародчык... Вось так і жыве».

Тэма роднай зямлі — цэнтральная ў Л. Валасюка — праходзіць праз усе творы, якія склалі кнігу «Вяртанне берасцейскай стралы». Адначасова заўважаецца, што пісьменнік імкнецца знайсці і адпаведныя жанравыя формы для ўвасаблення складанага жыццёвага матэрыялу. «Студэнцкія канікулы» не толькі прыгодніцкая аповесць, але і своеасаблівы накід рамана «Не здабыўшыя зямлі абыходзяцца балотам...». А прыгодніцкі сюжэт ужо напаўняецца новым зместам — развагамі пра радзіму, пра таямніцы яе гісторыі, пра пераемнасць традыцый, пра змястоўнасць жыцця, надаючы тым самым творам інтэлектуальны пафас.

Акрэсліваецца і скразны тып галоўнага героя ў творах Л. Валасюка-празаіка. Жыццёвы лёс Алеся («Не здабыўшыя зямлі...») у нечым пераклікаецца з лёсам героя-апавядальніка «Сцежак да сядзібы», а паасобныя абразкі гэтага зборніка ўключаны ў раман, як скажам, «Могілкі». А характар мастака-рупліўца, які быў таксама заяўлены ў некаторых раздзелах таго ж зборніка, увасоблены ў рамане «Вяртанне берасцейскай стралы».

У аповесці «Студэнцкія канікулы» і ў рамане «Не здабыўшыя зямлі абыходзяцца балотам...» маладыя людзі шукаюць скарбы, якія калісьці былі схаваны ў ранейшыя гістарычныя эпохі. Вядома, больш складаным па сваёй будове і праблематыцы з'яўляецца раман. Ён ускладняецца праявамі дзівоснага прыгодніцтва і фантастыкі, калі падзеі як бы паралельна адбываюцца ў розныя часы.

Сваёй кульмінацыі дзеянне набывае тады, калі персанажы трапляюць у незразумелыя абставіны, знікаюць дзесьці пад вадой, натыкаюцца на нейкую нябачную Сцяну — і ім адкрываюцца эпізоды з мінулага жыцця. Алесь бачыць, як каваль з сынам пераховўвае французскае золата, а сын каваля адчувае, што за імі хтосьці назірае. І гэтая змена падзейна-часовых ракурсаў праходзіць праз увесь твор.

Сцяна, на якую натыкаюцца персанажы рамана, урэшце падаецца як тое, што дзяліць час. «Мы блізкія да разгадкі, — ціха вымавіў Алесь, трымаючы Алену за плячо. — Але Сцяна пакуль трымае нас у іншым вымярэнні часу. Разумееш, мы трапілі ў нейкую пастку Часу і Абставін, але пакуль Яна не зрабіла нам ніякай шкоды»... І маладыя людзі самі не могуць зразумець таго, было гэта з імі ці толькі яно прыснілася. Ды і сны часамі збываюцца, як здаецца Алене. «Нешта далёкае з даўніны заўжды нябачна прысутнічае побач...»

Калі ісці ад назвы твора, дык відавочна адкрываецца думка аб марнасці намаганняў разбагацець, здабыўшы чужое багацце. Гіне французскі афіцэр, гіне Пятрук. Пераасэнсоўваецца і сам пошук скарба. Гэта не пошук яго для асабістага ўзбагачэння, а пошук самога сябе як грамадзяніна і патрыёта, пошук таго, што звязвае цябе з радзімай. Адзіны сапраўдны скарб, якім валодае чалавек, — гэта родная зямля.

Творы Л. Валасюка адпавядаюць прынцыпам сучаснай прозы. І не толькі таму, што пісьменнік уводзіць такія распаўсюджаныя прыёмы, як прыгодніцтва, фантастыка, напружанасць дзеяння, спробы разгадкі таемных з'яў. Галоўнае, бясспрэчна, у тым, што канцэпцыя жыцця грунтуецца на трывалых народных уяўленнях пра яго. У першую чаргу гэта жаданне маладых людзей служыць роднай зямлі, спазнаваць яе таямніцы, бо навокал «столькі неразгаданага, столькі цікавага з гісторыі роднага краю, што не хопіць і аднаго жыцця, каб хоць у нечым паставіць кропку...».

Дарэчы, пісьменнік праз размовы галоўнага героя з сяброўкай абяцае працяг таемнай прыгоды. «А пра знойдзеную манетку я даведаўся шмат чаго цікавага. Пры хуткай сустрэчы ўсё вам з Тамараю раскажу...»

«Вяртанне берасцейскай стралы» — невялікі па свайму аб'ёму празаічны твор. Аднак аўтар вызначае яго жанравую адметнасць не як аповесць, а як раман. Мажліва, тым самым ён імкнецца падкрэсліць значнасць яго ідэйнага зместу.

Яшчэ ў 2009 годзе ў абласной газеце «Народная трыбуна» Л. Валасюк надрукаваў верш «Берасцейская страла», у якім, як уяўляецца, ужо пазначаны галоўны пафас будучага рамана:

*Бог стралу адпусціў...*
*З серабрыстым адлівам*
*Мільганула скрозь час*
*І асела на сцяг,*
*І асела на вежу...*

Выбар у якасці галоўнага героя Мастака, які працуе над вялікім палатном «Вяртанне берасцейскай стралы», выразна сведчыць пра інтэлектуальны змест твора. Усё ж аснову рамана складаюць не так узаемаадносіны Мастака і Дзяўчыны, як частыя развагі галоўнага героя, а затым і яго сяброўкі пра повязь часоў, пра пераемнасць гістарычных эпох, пра неабходнасць захавання спадчыны, пра непазбежнасць звароту да традыцый свайго народа.

Праваамерна, мусіць, зрабіць дапушчэнне, што падзеі і здарэнні, якія набываюць казачна-паэтычную, таемна-фантастычную афарбоўку, больш звязаны з мроямі і ўяўленнямі Мастака. Ён працаваў на раскопках старога Берасця, уяўляў абрысы таго горада, які быў калісьці размешчаны пры ўпадзенні Мухаўца ў Заходні Буг. Затым Мастак вывучаў шматлікія крыніцы па гісторыі горада, а таму і мог «ажыўляць» некаторыя падзеі мінулага...

Вобраз-сімвал Стралы выступае ў ролі захавальніцы традыцый. Яна прыходзіць на дапамогу тым, хто трапляе ў біду, хто хоча аднавіць спрадвечныя традыцыі, папярэджвае, а то і карае тых, хто знішчае памяць аб мінулым. Мастак хоча ў сваіх карцінах увасобіць тую стралу, якая ўрэшце стала б сімвалам, эмблемай, гербам Горада над Бугам. Мастак прадчувае непазбежнасць такога звароту. У гэтым пераконвае і сама страла, якая аднекуль прылятае ў яго пакой. «Страла якраз навісала над палатном, на якім Берасцейская Страла вярталася ў Горад. Яна была на той час нібыта ахоўніцай, вартаўніцай».

Зварот да Стралы — гэта зварот да духоўнай спадчыны народа, зварот да тых трывалых маральна-этычных норм, на якіх грунтуецца жыццё.

Першыя празаічныя зборнікі Л. Валасюка паказваюць, што ён ужо прайшоў першы этап творчага станаўлення. Пісьменнік паступова пераадольваў залежнасць ад пераказу падзей, імкнуўся вылучаць характары персанажаў, праз кароткія абразкі наблізіўся да апавядання і аповесці, а затым падступіў і да рамана. Выразная грамадзянская пазіцыя, арыентацыя на народныя этычныя прынцыпы, адкрытасць і шчырасць у стаўленні да чытачоў, пошук прыдатных жанравых форм і выяўленчых сродкаў — гэта тое, што ўжо праявілася ў першых зборніках празаіка і далей будзе развівацца і ўдасканальвацца...

ДРУК

# «МЫ РАСПРАНАЕМ СЛОВЫ, СЭНСЫ ГВАЛТУЕМ»: «ДЗЕЯСЛОЎ», № 62

ЛеГАЛ

**Вясна аніяк не ўціснецца ў зімна-застуджаны айчынны падворак. Але ж во-во, і наша зямля ўсё-ткі немінуча пачне адтайваць, а людзі развінацца целам і духам…**




Гаворачы ж пра свежы нумар «Дзеяслова», пойдзем — не парушаючы чарговасці публікацый. З добрай калегіяльнай зайздрасцю дзівішся творчай энергіі і адметным набыткам аднаго з нашых паэтаў старэйшага пакалення Генадзя Бураўкіна (о, як ляціць час, і як гэта нязвычна пісаць!), асабліва чытаючы яго радкі ў прысвячэнні свайму сябру Рыгору Барадуліну: «Карацее жыццё.// Карацеюць лірычныя вершы»… Але ящчэ, дай Бог, абодва па-ранейшаму пішуць і публікуюцца. Вось і гэтая нізка Г. Бураўкіна пакідае ў чытача, не зважаючы на адчувальны песімізм, спадзеў на працяг нацыянальнага духоўнага жыцця:

*Куды падзецца з думамі*
*І што рабіць мне з вершамі,*
*І тымі,*
*Што задуманы,*
*І з тымі,*
*Што завершаны?*
*І спадзяванні кволыя*
*Варушацца:*
*А ну калі*
*Яны прыдацца здолеюць,*
*Прылашчаныя ўнукамі?..*

Працягвае публікаваць раздзелы з будучай кнігі «У Вільні і больш нідзе» вядомы паэт і эсэіст Леанід Дранько-Майсюк. Гэтая яго частка, прысвечаная народнаму паэту Максіму Танку, чытэльная, роздумная, дзе-нідзе палемічная, але напісаная з пачуццёвай і дакументальнай дасведчанасцю.Асаблівa цікавымі падаюцца запісаныя расповеды перадсмяротна-хворага Яўгена Іванавіча. А яго лукішкінская падследна-астрожная архіўная хроніка (раней друкавалася ў «Літаратурнай Беларусі»), хоць і пунктуальна-дзённікавая, аднак важная ў вызначэнні нацыянальнай значнасці Максіма Танка як асобы, паэта і чалавека. Вось фрагмент «дзеяслоўнага» тэксту: «Праз усё сваё доўгае жыццё ён шчыра хацеў аб'яднаць беларускае і савецкае, народнае і камуністычнае. Паводле Уладзіміра Калесніка: ідэю палітычную паэт ператвараў у ідэю мастацкую! Так, ён быў шчырым камуністам, але песню сваю ў 1930 годзе (васямнаццацігадовы!) пачаў з услаўлення нацыянальных каштоўнасцяў:

*…Пад сцягам бел-чырвона-*
*белым*
*Чакае перамога нас.*
*Няхай жа меч пагоні ззяе!*

І завяршыў жыццёвую дарогу, трэба сказаць, на той жа ноце — вось ягоныя словы, прамоўленыя ў 1994 годзе: «…сённяшні XI з'езд пісьменнікаў сапраўды заслугоўвае званне гістарычнага, бо ўпершыню сабраўся ў свабоднай і суверэннай Беларусі, над якой горда рэе бел-чырвона-белы сцяг…».

Як заўсёды, метафарычна густыя і віртуозна закручаныя вершы гарадзенца Юркі Голуба, якія прыцягваюць чытацкую ўвагу як нечаканай лірычнай адстароненасцю, так і пераважнай злабадзённасцю грамадзянскай тэматыкі:

*Наверх заглядваў верхагляд*
*І ніца журыўся відушчы,*
*Калі лупіў у бубны лад,*
*Што неўзабаве стаў задушным.*

Макс Шчур публікуе часопісны варыянт аповесці «Газетчык». Раней, калі ў папярэдніх празаічных творах аўтар выпрацоўваў і даводзіў да філіграннасці свой літаратурны стыль, у яго тэкстах было зашмат розных наваротаў, алагічных таемстваў і моўных пераборaў. У гэтай аповесці стыль Шчура вельмі кампактны і чытэльны (можна нават сказаць зручны), аднак не высушаны і не кастрыраваны. Як мне здаецца, ён аптымальны для падобнага жанра мастацкай прозы. Я не аматар дэтэктыўных гісторый, але ў дадзеным выпадку крымінальныя падзеі ўдала дастасаваны да «дзённікавых» развагаў аўтара над сучасным жыццём — як уласным, так і грамадскім, г.зн. — глабальна-еўрапейскім. Гарманічна звёўшы іх на стыках і супрацьстаянні, пісьменнік прыцягвае і заахвочвае чытача да ўнутранага (віртуальнага) дыялогу з аўтарам і галоўным героем у адной асобе. Тут і развагі пра творчасць, і філасофскія пасылы, і высновы розуму і душы, пакладзеныя на шалі зямнога чалавечага часу. І ці не ёсць гэта ўдачай пісьменніка? Як па мне, дык адназначна так. Падаю адзін са знакавых фрагментаў аповесці: «Упэўнены, што такая з'ява, як постмадэрнізм, абавязаная сваім узнікненнем перадусім таму факту, што ў 1946 годзе былі зачыненыя парыжскія бардэлі — у гэтым сапраўдная прычына з'яўлення ўсіх гэтых субверсійных Бадрыяраў, Дэлёзаў, Дэрыдоў і астатніх. Лозунгам рэвалюцыі 1968 года павінна было быць не «Патрабуйце немагчымага», а — «Адчыніце бардэлі!». (Згода, пра опіумныя прытоны сціпла прамаўчы.) Нагадаю, што менавіта бардэль быў калісьці родным домам заходняй культуры і яе найвялікшых прадстаўнікоў.У ім чыстая несублімаваная жывёльнасць мела сваё трывалае, адведзенае ёй месца — сёння яна выйшла з-пад кантролю, і ў выніку ў бардэль, гэткі кірмаш, дзе гандлююць ці хутчэй абменьваюцца асалодай, ператварылася ўсё грамадства. Дакладней, не ў бардэль, а ў дыскатэку — нездарма з антыканцэпцыяй у 60-х так вырасла значнасць папсы. Балазе, праз якіх гадоў дваццаць мужчынская патрэба ў бардэлі была па-свойму задаволеная: з'явіўся інтэрнэт. Вялікі сімулякр пляцу Пігаль, лек душы, бальзам на раны сэрца, сябра ў найвялікшым горы — цэлібаце!»

Традыцыйна-патрыятычную нізку вершаў прапануе чытачам Васіль Жуковіч. Запомніліся радкі з верша пра Янку Купалу:

*Калі ў пазце Генія забілі,*
*У прорву цела скінуць*
*шмат працей.*

Ці не праўда, такая выснова даволі спрэчная і наўрад ці падпадае пад творчую характарыстыку нашага класіка, бо забіваюць фізічнае, а не духоўнае, а тут, тым больш, — дадзены Богам дар. Агулам жа вершы цікавыя, напісаныя ў розны час, але з нязменнай душэўнай чуласцю.

Творчасць адной з нашых старэйшых пісьменніц, Лідзіі Арабей, — натуральная прастата і першароднасць. Часам чытаеш яе абразкі і дзівішся: не таму, як напісана, а таму, як заўважана. Вось адна з карацелек, якая называецца «Знаёмыя»:

**Тут і развагі пра творчасць, і філасофскія пасылы, і высновы розуму і душы, пакладзеныя на шалі зямнога чалавечага часу. І ці не ёсць гэта ўдачай пісьменніка? Як па мне, дык адназначна так**

«Я выпісваю «ЛіМ», чытаю. Сярод аўтараў аніводнага знаёмага прозвішча. Знаёмыя прозвішчы толькі ў некралогах».

Вершы Наталлі Русецкай паслоўна-камерныя (слова — радок), з дзіўнай пунктуацыяй, адасланыя, але пакінутыя без пэўных адказаў (як скажам, «крыжы// раскрыленыя»)… Працытую адзін з лепшых вершаў, прабачаюся, у празаічным выглядзе: «лісты/ галодныімі/ птушкамі/ кормяцца/ з рук маіх/ крошывам/ думак,/ лятуць/ і нясуць/ у дзюбах/ мёртвыя/ словы –/ не наталіць ім/ нашае/ прагі/ размовы».

Апавяданне Уладзіміра Міхно «Валун» — павучальнае і трошкі маралізатарскае. Лірычнасць у ім ёсць, але няма навізны і значных адкрыццяў. Валун у апавяданні так і застаецца каменным, хоць і прагне мець чалавечае сэрца…

Свае вершы на суд чытачоў прапанаваў Віктар Слінка. Яны ў пераважнасці вельмі густаслоўныя і шырокадумныя, але як для мяне, не ўсе з іх дастаткова густоўныя ў сваім лірычным выяўленні. Паэт відочна прагне роздумнай глыбіні і філасофскай разважлівасці, нярэдка гублюючы пры гэтым метафарычную іскрамётнасць і рытмічную напружанасць, што расслабляе чытацкую ўвагу і засяроджанасць. Але ў таленавітага паэта досыць і файных вершаў, у адным з якіх выяўляецца ці не творчае крэда аўтара:

*Чытаю,*
*як быццам на памяць, верш,*
*які толькі прыйшоў, адразу,*
*не ведаючы з радка,*
*што падступае,*
*ні слова наперад.*

Не ведаю, ці гэта дэбют, бо асабіста да гэтага часу не сутыкаўся з мастацкай прозай Алега Аблажэя, але яго апавяданне «Русалачка» даволі ўдалае. Гэта твор пра стан і накірункі сучаснага мастацтва (нешта ад Моцарта і Сальеры), пра вялікую драму чалавечай творчасці, якая ўсё яшчэ працягваецца… Раю пачытаць.

«Канадскія» вершы Юрася Шамецкі цікавыя сваёй утрапёнасцю пошуку ўласнай паэтычнай асабовасці. Нельга не звярнуць увагу на такія радкі:

*І я пагаджуся… Бо гэта — праўда… Можа, і я з'ехаў далёка,*
*каб адчуць сваю мову на адлегласці… Нібыта ў моры,*
*пачуць яе, як сігнал SOS у неабмежаваным эфіры.*
*І спадзяюся, што ратаванне прыйдзе і будзе скорым…*

У перакладах з расійскай мовы (Уладзем Лянкевічам) друкуюцца тры апавяданні Паўла Анціпава. Першыя два падаліся мне надта спрошчанымі, можа, з той прычыны, што аўтар задумаў іранічна інтэрпрэтаваць пост-савецкі рэалізм, міжволі абапёршыся на яго цвёрдакаменнасць… А вось трэці апавед («Аднолькава шчаслівыя») даволі дабротны і ў меру арыгінальны, з адчуваннем прагі мастацкай самадастатковасці…

Вершы нашага чалавека (беларуса) з польскага Беластоку Андрэя Сцепанюка мяне закранулі: і праявамі аўтарскай экзістэнцыі, і неардынарным паэтычным стылем і стылем мыслення. Ёсць проста адмысловыя вершы.

Цікавая задума апавядання «Мой фотаальбом незалежнасці» беларускага амерыканца Віталя Воранава, але яго недастатковае мастацкае ўвасабленне, на жаль, твор спрашчае.

Найбольш таленавітыя, яркія і неардынарныя праявы паэзіі гэтага нумару ў публікацыі вядомай берасцейскай паэткі Ярыны Дашынай (назва гэтага агляду — цытата з яе верша). Арыгінальнасць, непадробная асабовасць і мастацкая вылучнасць вершаў Ярыны — відавочная. Шкада, што паэтка такога выбітнага дару зацэнена на акраіне Айчыны сваімі гучнаслэмнымі сталічнымі равеснікамі. Упэўнены, час гэтую недарэчнасць выправіць. Прачытайце хоць бы гэтыя радкі з верша «Кветка»:

*Мама!*
*Здаецца, тут бачыцца дно,*
*здаецца, што мы памерлі даўно*
*ў гэтым спляценні.*
*Здаецца,*
*мяне ў купальскім вянку*
*спусцілі, зламанай у пазванку,*
*уніз па цячэнні…*

У рубрыцы «Дэбют» з вершамі выступаюць Кацярына Сянкевіч з Гайнаўкі (Польшча) і Юля Сплюшка з Асвеі. Абедзьве (першая ў сваіх вершах занадта закрытая, а другая, наадварот, празрыстая) маюць безумоўныя творчыя перспектывы для літаратурнага плёну.

Увазе чытачоў прапануецца даволі важкі ў аб'ёме і ў мастацкім плане даробак сучасных украінскіх пісьменнікаў і паэтаў («Анталогія ўкраінскай літаратуры», у перакладах А. Хадановіча, А. Спрынчан, М. Скоблы, Э. Акуліна і В. Стралко падаюцца творы Н. Белацарківец, В. Герасым'юка, С. Жадана, Л. Кастэнкі, У. Даніленкі, Б. Жалдака, А. Жоўны, Я. Кананенкі, Л. Панамарэнкі, В. Парцяка ды В. Турбая).

Следам — нізка адмысловых вершаў польскага паэта Рышарда Крыніцкага ў перакладах А. Хадановіча.

Па-за літаратурна-мастацкай часткай часопіса — даволі шмат цікавых публікацый: падарожны артыкул «Боская зямля» У. Сіўчыкава, эсэ Паўла Ляхновіча «Двойчы дзесяць…», літаратуразнаўчы артыкул А. Каўкі «У палоне высокай тугі» (пра крывіцкае пакліканне У. Жылкі), гутарка С. Раманавай з мастачкай Л. Пятруль, а таксама калейдаскапічны рэцэнзійны спектр: А. Брадзіхіна піша пра сучасную інтымную лірыку, Л. Алейнік — пра кнігу А. Усені «Мой лістапад», Г. Янкута — пра кнігу «Шабаны» А. Бахарэвіча, М. Захаранка — пра зборнік «Дзінь-Дзілінь: Пара гуляць у казкі» С. Вітушкі, А. Лапіцкая — пра альманах «Беларус» (Нью-Ёрк, 2012), У. Сцебурака — пра кнігу «Мястэчка G… і ваколіцы…» В. Шалкевіча.

Завяршаецца часопіс рубрыкай «Дзеяпіс».

Добрага настрою вам для чытання і роздуму.

## ЛІТКАЛЕЙДАСКОП

### НЕВЯДОМЫЯ ВЕРШЫ КІПЛІНГА

У сакавіку 2013 года ўпершыню апублікавалі больш за 50 раней невядомых вершаў Рэдзьярда Кіплінга.

Каштоўную знаходку зрабіў амерыканскі вучоны, прафесар Каліфарнійскага ўніверсітэта Томас Піннэй (Thomas Pinney). Ён адшукаў рукапісы ў некалькіх месцах, напрыклад — сярод папераў колішняга кіраўніка брытанскай кампаніі трансатлантычных і круізных маршрутаў «Cunard Line».

«Вучоныя доўгі час ігнаравалі Кіплінга, магчыма, з палітычных прычынаў. Яго тэксты ніколі не былі вывучаны належным чынам, але цяпер усё зменіцца», — адзначыў Піннэй.

Невядомыя публіцы творы Кіплінга увайшлі ў трохтомны зборнік «The Cambridge Edition of the Poems of Rudyard Kipling» («Вершы Рэдзьярда Кіплінга, Кембрыджскае выданне»). Выданне стала найпоўным зборам вершаў Кіплінга. Трохтомнік складаецца з 1300 твораў.

Найвядомейшыя творы пісьменніка — «Кніга джунгляў» (The Jungle Book), «Кім» (Kim), а таксама многія вершы. У 1907 годзе Кіплінг стаў першым ангельцам, які атрымаў Нобелеўскую прэмію па літаратуры.

### ПОМНІК ШАЎЧЭНКУ

Мэрыя расійскага Новасібірска паведаміла пра тое, што на вуліцы, якая носіць імя Тараса Шаўчэнкі, будзе ўсталяваны бюст украінскаму мастаку і паэту. Ініцыятарам устаноўкі помніка выступіла гарадская нацыянальна-культурная аўтаномія ўкраінцаў, якая з адпаведным хадайніцтвам звярнулася ў гарадскую камісію, якая займаецца пытаннямі аб'ектаў манументальна-дэкаратыўнага мастацтва.

Дата адкрыцця помніка Тарасу Шаўчэнку не паведамляецца, як і імя скульптара, які будзе працаваць над яго стварэннем. Адзначаецца, што ў Новасібірску ўсталёўка бюстаў вялікіх людзей на вуліцах, якія носяць іх імёны, ужо стала добрай традыцыяй. У прыватнасці, у горадзе ўжо ёсць бюсты Крылову, Гогалю і Дастаеўскаму.

### СКВЕР АЙТМАТАВА

У Пецярбургу з'явіўся сквер імя Айтматава. Губернатар Пецярбурга Георгій Палтаўчанка падпісаў пастановы пра назвы сямі безназоўных сквераў, чатырох вуліц і адной шашы ў Пецярбургу. Двум скверам прысвоены імёны спевака Эдуарда Хіля і пісьменніка Чынгіза Айтматава.

У гонар Айтматава названы сквер на скрыжаванні вуліцаў Руставелі і Карпінскага.

### ТАЛСТОЙ НА ВВС

Тэлекампанія ВВС плануе зняць серыял па рамане «Вайна і мір» Льва Талстога.

На сённяшні дзень вядома не так ужо і шмат падрабязнасцяў аб тым. Нават імёны акцёраў пакуль не выдаюцца.

Брытанцы збіраюцца зняць 6 серый фільма, працягласць кожнай складзе каля гадзіны. Асноўная ідэя фільма — узаемаадносіны герояў, для філасофскіх разважанняў месца не будзе.

Аўтар сцэнарыя — Эндру Дэвіс, праславіўся тэлевізійнай экранізацыяй «Гонару і прадузятасці» Джэйн Осцін, а таксама экранізацыяй твораў Чарльза Дзікенса («Халодны дом»).

Эндру Дэвіс супакоіў публіку з нагоды скарачэння зыходнага тэксту. Ён паведаміў, што серыял без сумневаў прыцягне вялікую колькасць гледачоў, а таксама запэўніў, што экранная версія не будзе прымітыўнай, а, наадварот, стане цікавай і займальнай.

### ПЕДАГОГІКА АД ВАСЫЛЯ ШКЛЯРА

Вядомы ўкраінскі пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч Васыль Шкляр подзяліўся метадамі выхавання дзяцей.

У каментары тэлепраекту «Доброго ранку, Львове» ён зазначыў, што выхоўваць дзяцей патрэбна ўласным прыкладам. «У Кіеве ёсць праблема: дзеці трупца ў расійскім асяроддзі, — заявіў пісьменнік. — Я некалі сказаў сваёй дачушцы: «Пачую расійскае слова — заб'ю, як Тарас Бульба свайго сына».

### ПАМЁР ІМАНТ ЗІЕДОНІС

27 лютага спачыў у вечнасці вядомы латышскі паэт Імант Зіедоніс. Яму было 79 гадоў.

Імант Зіедоніс — адзін з найвядомейшых пісьменнікаў Латвіі. У савецкія часы ён быў ўганараваны Дзяржаўнай прэміяй Латвійскай ССР і званнем народнага паэта. У 1995 годзе Зіедоніс атрымаў ордэн Трох зорак.

Зіедоніс таксама вядомы як аўтар кароткіх празаічных твораў (эпіфаній), сцэнарыст, перакладчык і палітычны дзеяч.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў lenta.ru, Deutsche Welle, РИА Новости, gazeta.ua, Газета.Ru, vsiknygy.net.ua і LETA**

ПРЭМІІ

## ПРЭМІЯ САЛЖАНІЦЫНА

**У 2013 годзе прэміяй Аляксандра Салжаніцына ўзнагароджаны расійскі паэт Максім Амелін. Пра гэта на сваёй старонцы ў Facebook паведаміў літаратуразнаўца і пісьменнік Аляксандр Архангельскі.**



Узнагароду Амеліну прысудзілі з фармулёўкай «за наватарскія эксперыменты, якія рассоўваюць межы і магчымасці лірычнай паэзіі, за развіццё разнастайных традыцый рускага верша і за шырокую асветніцкую дзейнасць на карысць прыгожага пісьменства». Пераможца атрымае 25 тысячаў даляраў ЗША.

Максіму Амеліну 43 гады. Ён аўтар кніг вершаў «Dubia», «Халодныя оды», «Конь Гаргоны», «Гнутая гаворка». Таксама ён вядомы як перакладчык з лаціны і старагрэцкай.

Прэмія Аляксандра Салжаніцына ўручаецца з 1998 года. Узнагарода прысуджаецца пісьменнікам, якія жывуць у Расіі і пішуць на рускай мове. У склад журы прэміі ўваходзяць Мікіта Струве, Валянцін Няпомняшчы, Людміла Сараскіна, Павел Басінскі і іншыя. Да сваёй смерці ў склад журы ўваходзіў і сам Аляксандр Салжаніцын.

Лаўрэатамі прэміі Салжаніцына былі Алег Паўлаў, Алена Чукоўская, Іна Ліснянская і іншыя. Двойчы прэмія ў якасці выключэння прысуджалася пасмяротна: Канстанціну Вараб'ёву і Віктару Астаф'еву.



## ПРЭМІЯ ШАМІССО

**Пісьменніца ўкраінскага паходжання Мар'яна Гапоненка ў лютым 2013-га атрымала прэмію Адэльберта фон Шаміссо ад Фонда Роберта Боша.**

«Раманам «Хто такая Марта?» Мар'яна Гапоненка стварыла новую танальнасць у сучаснай нямецкамоўнай прозе», — адзначыла журы Фонда Роберта Боша, прысуджаючы прэмію Шаміссо. Узнагарода прызначаецца з 1985 года за апублікаваныя нямецкамоўныя творы аўтарам ненямецкага паходжання.

Журы прэміі пераканана, што 31-гадовай пісьменніцы ўдалося паказаць кунежную і ўадначас камічную красу жыцця чалавека.

Прэмію ў памеры 15 тысячаў еўра Мар'яне Гапоненка ўручылі ў Мюнхене. Узнагародай Фонда Роберта Боша ганаруюцца ўнёскі ў нямецкамоўную літаратуру аўтараў, чые творы спрыяюць міжкультурнаму абмену.

У рамане М. Гапоненка распавядае гісторыю 96-гадовага ўкраінскага прафесара-арнітолага Лукі Левадскага. Апошнія тыдні жыцця ён праводзіць у віддзенскім «Грандгатэлі», дзе думкамі вяртаецца ў маладосць...

«Раман дзівосны! — захапляецца кнігай «Der Spiegel». — Гэта свята жыцця, якое застаецца святам і тады, калі размова ідзе пра смерць». «Гэта раман-насалода!» — пацвярджае «Tageszeitung», а рэцэнзент «Neue Züricher Zeitung» асабліва адзначыў «уражліва смелую мову аўтаркі, якая не спалохалася патэтычнасці». У іншых рэцэнзіях згадваюць пра «паэтычнасць», «арыгінальнасць», «свежасць» расповеду.

Нямецкая мова для Мар'яны Гапоненка — не родная. Яна нарадзілася ў Адэсе ў 1981 годзе (яе мама — расіянка, а бацька — грузін). У Нямеччыну Гапоненка пераехала ў 19-цігадовым узросце. Тады за апублікаванныя ў нямецкіх часопісах вершы Мар'яна атрымала нямецкую літаратурную стыпендыю.

«Пісаць па-нямецку я пачала гадоў у пятнаццаць. Мне спадабалася сур'ёзнасць той мовы, я зацікавілася яе вытокамі, людзьмі, якія гавораць на ёй», — распавяла Мар'яна ў інтэрв'ю «Deutsche Welle». Нямецкую яна вучыла ў школе...

## ПРЭМІЯ ВАЗНЯСЕНСКАГА

**Да 80-гадовага юбілею паэта Андрэя Вазнясенскага, які будзе адзначацца ў траўні 2013 года, заснаваны Фонд яго імя і прэмія «Парабала».**



7 сакавіка адбылося першае арганізацыйнае пасяджэнне журы гэтай новай расійскай прэміі, у якое ўвайшлі актрыса Ала Дзямідава, пісьменнікі Яўген Грышкавец і Дмітрый Быкаў, паэт Юры Кубланоўскі, літаратуразнаўца Алена Пастарнак, кампазітар Аляксей Рыбнікаў, мастацкі кіраўнік МХТ імя Чэхава, акцёр Алег Табакоў і пісьменніца, крытык Зоя Багуслаўская (старшыня Фонда).

Прэмія «Парабала» будзе ўручацца ў чатырох намінацыях: аўтару паэтычнага твора, аўтару прозы, пастаноўшчыку спектакля, кінастужкі, тэлестужкі і кінасцэнара, а таксама адмысловая прэмія — аўтару твора, заснаванага на творчасці Андрэя Вазнясенскага. Спашукальнікаў на прэмію прапаноўваюць члены журы за некалькі месяцаў да прысуджэння, прычым вылучэнне будзе таемным. Па правілах прэміі, твор, які намінуецца, павінен быць апублікаваны цягам апошніх трох гадоў (паэзія) ці пяці (проза). Са спектакляў на прэмію могуць прэтэндаваць пастаноўкі апошніх пяці гадоў.

Упершыню ўзнагароджванне лаўрэатаў прэміі пройдзе 17 траўня 2013 года. Лаўрэаты прэміі атрымаюць медалі, дыпломы, а таксама грашовыя ўзнагароды.

Прэмія «Парабала» будзе ўручацца штогод у траўні.

Заснавальнікам Фонда імя Вазнясенскага сталі Зоя Багуслаўская, удава паэта, разам з сынам Леанідам Багуслаўскім. Мэта Фонда і прэміі заключаецца ў захаванні і вывучэнні творчай спадчыны паэта-шасцідзясятніка.

З. Багуслаўская з 1991 года была заснавальніцай і мастацкім каардынатарам расійскай прэміі ў галіне вышэйшых дасягненняў літаратуры і мастацтвы «Трыумф». Аднак пасля 2010 года з-за цяжкасцяў з фінансаваннем прэмія перастала ўручацца.

У чэрвені 2012 года прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін даручыў заснаваць стыпендыю імя Вазнясенскага, якую студэнты, што вывучаюць журналістыку і літаратуру, атрымліваюць з 2013 года. Кіраўнік расійскай дзяржавы таксама прапанаваў назваць у гонар паэта, які памёр у 2010 годзе, бібліятэку і стварыць у Маскве музейна-культурны цэнтр імя Андрэя Вазнясенскага.

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 7 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.20** Гераічная камедыя «Нябесны ціхаход» (СССР).
**08.50** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.50** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія). Заключная серыя.
**10.55** Медычныя таямніцы.
**11.25** Кулінарная дыпламатыя.
**12.15** Камедыя «Заяц над безданню» (Расія).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Заўтра - гэта мы!
**16.05** Культурныя людзі +.
**16.40** «Месца сустрэчы». Музычна-забаўляльная праграма.
**17.40** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.45** Трылер «Грошы на дваіх» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Крымінальная драма «Законапаслухмяны грамадзянін» (ЗША).
**00.20** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія). Заключная серыя.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** Фазэнда.
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.30** Зваротны адлік.
**13.05** Фільм «Няскончаная аповесць».
**15.00** Прэм'ера. «Эліна Быстрыцкая. Зорка эпохі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Асяроддзе пасялення.
**17.20** Прэм'ера. «Форт Баярд».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Адмысловы выпуск.
**22.40** Фільм «Спадар Ніхто».

### СТВ

**06.35** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**08.20** Фільм «Жанчына дня». СССР, 1989 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Нізамі». Азербайджанфільм, 1982 г.
**15.05** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Прэм'ера. Фільм «Ананімныя рамантыкі». Францыя-Бельгія, 2010 г.
**22.15** Прэм'ера. «Пякельная кухня - 2».
**23.40** Фільм «Гэта здарылася ў даліне». ЗША, 2005 г.
**01.30** «Дурні, дарогі, грошы».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.15** Мультфільмы.
**07.30** Фільм-дзецям. «Вялікая прыгода» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**10.10** Пазакласная гадзіна.
**10.30** Тэлебарометр.
**10.35** Пра мастацтва.
**11.05** Камедыя «Беражыся аўтамабіля» (СССР).
**12.55** Рамантычная камедыя «Закахацца ў нявесту брата» (ЗША).
**14.55** Гандбол. Мужчыны. Беларусь - Румынія. Прамая трансляцыя.
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Чэлсі - Сандэрленд. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэніс. Жанчыны. Фінал. Прамая трансляцыя. У перапынку. 21.00 Спортлато 5 з 36, КЕНО.
**22.00** Навіны надвор'я.
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**23.05** Спорт-кадр.
**23.45** Вострасюжэтная меладрама «Адночы ў правінцыі» (Расія).

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** Фільм «Генеральская нявестка» (2013 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** «Ха». Маленькія камедыі.
**12.35** Фільм «Вусаты нянь».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.05** «Тытанік. Апошняя таямніца».
**16.00** Тэлесерыял «Байкі Міцяя».
**18.00** Прэм'ера. «І гэта ўсё яна». Юбілейная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Прэм'ера. «Фактар А».
**23.20** «Нядзельны вечар».

### НТВ

**06.25** Серыял «Алібі» на дваіх».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Порах і дроб».
**16.55** Выратавальнікі.
**17.30** «Вочная стаўка».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.40** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.35** Вострасюжэтны серыял «Марскія д'яблы».
**23.15** «Жалезныя лэдзі».
**00.05** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

### МИР

**05.00** Дакументальны фільм «Дзяржаўны Эрмітаж №1».
**05.35** Мультфільмы.
**07.35** Праграма «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** Мультсерыял «Смешарыкі».
**08.05** Праграма «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Дакументальны фільм «Другая вясна».
**09.35** Праграма «Ежа».
**10.05** Праграма «Незорнае дзяцінства».
**10.30** Мастацкі фільм «Прыгажуня Лакнау».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Тэлесерыял «Суд».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Суд».
**21.50** Мастацкі фільм «Кантроль зямлі».
**23.30** Мастацкі фільм «Прыгажуня Лакнау».
**03.20** Мастацкі фільм «Свінарка і пастух».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 14 серыя.
**08.10** Беларусы ў Польшчы.
**08.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.55** Еўропа сёння.
**09.25** Навігатар.
**09.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**10.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.05** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.25** Вагон.
**11.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.45** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**12.15** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 14 серыя.
**12.45** «Час гонару», серыял: 20 серыя.
**13.35** «Ночы і дні», серыял: 7 серыя.
**14.30** «Па Транссібе», дак. фільм, 2007 г., Германія.
**15.15** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.25** «Два месяцы», маст. фільм, 1993 г., Польшча.
**17.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.10** Невядомая Беларусь: «Уладзімір Караткевіч. Душа застанецца», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.00** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Валенбэрг».
**19.55** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**20.25** Дакументальная гадзіна: «Крама – «Ц. Адольф» у Берліне», дак. фільм, 2006 г., Германія.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**22.00** Форум (ток-шоу), з архіву праграмы.
**22.45** Фільматэка майстроў: «Хор», маст. фільм, 2004 г., Францыя–Швейцарыя.
**00.20** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 25.
**00.45** Два на два (тэледыскусія).
**01.15** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанк», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 930 79 22, Міхась
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 029) 364 42 60, Зінаіда
Гомель (8 029) 697 82 75 Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ____________
Кассир Всего ____________

ПАРТЫІ

# ГІТЛЕР НЕ ЛЮБІЎ ЕЎРА?

Алег НОВІКАЎ

**Стварэнне ў Германіі партыі еўраскептыкаў выклікала незвычайную дыскусію.**

Лепшы час для выхаду на палітычную арэну цяжка было знайсці. Першая прэс-канферэнцыя аргкамітэту партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD) храналагічна супала з навінамі з Кіпру, дзе сусветны крызіс накрыў мясцовую банкаўскую сістэму. У ФРГ адразу ўзнавіліся дэбаты наконт магчымага краху Еўразоны і вяртання да нямецкай маркі — галоўнага праграмнага патрабавання AfD.

Гэта ў выніку прынесла праекту Бернда Люке — лідара AfD — каласальны медыйны эфект. Некаторыя палітычныя аракулы не выключаюць, што на восеньскіх выбарах у Бундэстаг партыя еўраспектыкаў як мінімум складзе канкурэнцыю старым партструктурам. На карысць такога сцэнару выказаліся і сацыёлагі. Адпаведна нядаўнім апытанням агенцтва «Infratest Dimap», 34 працэнты грамадзян ФРГ настальгуюць па сваёй нямецкай марцы.



Бернд Люке



Фраўке Петры

Таму зусім не дзіўна, што вядучыя партыі ФРГ дружна асудзілі стварэнне AfD. Далей за ўсіх пайшла генеральны сакратар Партыі сацыял-дэмакратаў (SPD) Андрэа Нахлес. Яна сумняваецца, што Люке і яго атачэнне ўвогуле немцы, паколькі немцы не могуць, па яе словах, верыць у такое папуліцкае трызненне, як добраахвотны выхад ФРГ з Еўразоны.

Адзін з самых папулярных тэзісаў еўракрытыкаў — тэорыя пра тое, што «Альтэрнатыва для Германіі» — своеасаблівы рымейк партыі нацыстаў. «Гэта партыя («Альтэрнатыва для Германіі») уяўляе пагрозу будучыні нашых інстытутаў», — кажа адзін з лідараў парламенцкай фракцыі Саюзу хрысціянскіх дэмакратаў (CDU).

Ставіць пытанне так катэгарычна дазваляе той факт, што практычна кожная правая радыкальная партыя, як у Германіі, так і ў суседніх краінах («Нацыянальны фронт» або Брытанская нацыянальная партыя), выступаюць супраць Еўразоны. «Нацыяналістычныя заклікі супраць адзінай валюты і фальшывыя ацэнкі вынікаў увядзення еўра для нямецкай эканомікі характэрныя для ўсіх правых папуліцкіх партый», — сказаў адзін з палітолагаў у папулярнай тэлепраграме «Tagesschau». Ён таксама дадаў, што «існуючыя асцярогі эканамічнага калапсу і скептыцызм адносна палітыкі ЕС сталі інструментамі для распальвання пратэсту дробных буржуа». Той жа самы канал прагназуе, што AfD абавязкова скоціцца да ісламафобіі, гамафобіі — абавязковых фішак ультраправых.

Праўда, такі падыход да феномену AfD не ўніверсальны. Некаторыя ліберальныя выданні адзначаюць, што відавочных карычневых адценняў у праекта Люке няма. Пачаць можна з аналізу тэксту «Майн Кампф», дзе няма ніводнага слова супраць адзінай еўрапейскай валюты. Сам Бернд Люке кепска пасуе катэгорыі палітыкаў, да якой належаў Гітлер. У Люке няма ніякай харызмы, а яго прамовы настолькі перагружаныя статыстыкай і акадэмічнай лексікай, што, па словах журналістаў, часам выклікаюць сон.

У прынцыпе, тут няма нічога дзіўнага. Бернд (нарадзіўся ў 1962 годзе) усё жыццё быў кабінетным вучоным-эканамістам у Гамбургу. Па сутнасці, старт яго палітычнай кар'еры быў дадзены ў мінулым годзе, калі ён выйшаў з шэрагаў CDU у знак нязгоды з курсам Ангелы Меркель на падтрымку і захаванне еўра. Спачатку раскольнік заснаваў арганізацыю «Выбарчая альтэрнатыва–2013», а пазней пачаў думаць пра партыю. Вядучы нямецкі эканамічны штотыднёвік «WirtschaftsWoche» называе ідэі AfD «камфортнымі да канстытуцыі» і мяркуе, што ў дакрысісны час Люке добра ўпісаўся б у Партыю свабодных дэмакратаў (FDP), дзе традыцыйна існуе фракцыя нацыяналістаў.

Увогуле, як лічаць некаторыя палітолагі, такая катэгарычная пастаноўка праблемы: быць супраць еўра — значыць быць нацыстам, ставіць крыж на мадэлі нямецкай дэмакратыі. Атрымліваецца, што кожны трэці бюргер (прыкладна столькі грамадзян ФРГ не давяраюць еўра) — патэнцыйны аматар дыктатуры. На думку аналітыкаў, фармулёўка «правы папулізм», якая ўжываецца ў дачыненні да AfD, не вельмі карэктная і патрабуе ўдакладнення.

Магчыма, з пункту гледжання артадаксальнай паліталогіі так яно і ёсць, калі б не эйфарыя, якая ахапіла праварадыкальны фланг ад навіны пра нараджэнне AfD. Так, вядучая правая нямецкая газета «Junge Freiheit» у перадавіцы пад назвай «Паляванне пачалося» спачувае Бернду, які стаў ахвярай «інфармацыйнай масакры» з боку палітістэблішменту і СМІ.

**Кіраўніцтва «Альтэрнатывы для Германіі» амаўляецца ад правага іміджу. «Нам не трэба лавіць рыбу на левым ці на правым флангах, — кажа Фраўке Петры. — Сваёй крытыкай сістэмы еўра мы агучваем незадавальненне шырокіх мас»**

Іншы правыя сайты захапляюцца мужнымі эканамістамі, якія парушылі табу на праўду. Нават параўноўваюць кампанію супраць AfD з пераследам апазіцыі ў часы Трэцяга Рэйху.

Сімпатыі да Люке, хутчэй, звязаныя з тактычнымі задачамі праварадыкальнага лагеру, які зацікаўлены ў новай рэдакцыі партыйнай сістэмы ФРГ. Пры цяперашняй мадэлі правы электарат з'яўляецца манаполіяй хрысціянскіх дэмакратаў. Калі AfD здолее перацягнуць да сябе частку правых і прарваца ў Бундэстаг, будзе парушаны адзін з фундаментальных прынцыпаў пасляваеннай нямецкай палітыкі. «Гэта (крытыку на адрас з боку CDU) можна растлумачыць толькі адным. Эліты адчуваюць жах. Яны інстынктыўна разумеюць, што іх час падыходзіць да канца. Яны чапляюцца за сістэму, якая іх корміць і якая на самай справе ўжо інфікаваная смяротным вірусам», — піша ўсё тая ж газета «Junge Freiheit».

Між тым, кіраўніцтва «Альтэрнатывы для Германіі» ўпарта намагаецца «не даць загнаць сябе ў правы кут». «Нам не трэба лавіць рыбу на левым ці на правым флангах, — кажа адзін з лідараў AfD Фраўке Петры. — Сваёй крытыкай сістэмы еўра мы агучваем незадавальненне шырокіх мас. Адказнае іншадумства — не экстрэмізм». Кіраўніцтва «Альтэрнатывы для Германіі» таксама заявіла, што будзе прымаць у партыю толькі пасля праверкі палітычнай біяграфіі кандыдатаў. Аднак у эфектыўнасць такога фільтру верыцца слаба. Ужо зараз шматлікія правыя секты ў ФРГ успрынялі з'яўленне AfD як сродак узняць свой статус. Грамадзянская арганізацыя, якія займаюцца маніторынгам дзейнасці правых радыкалаў, заўважылі на прэс-канферэнцыі Люке цэлую плеяду прадстаўнікоў мікраскапічных правых тусовак, накшталт «Нямецкай кансерватыўнай партыі» або рэспубліканцаў. У кулуарах мерапрыемства можна было натыкнуцца на палітыкаў, якіх у свой час выгналі з той жа CDU або з FDP за расісцкія забабоны.

Што атрымаецца ў «Альтэрнатывы для Германіі» і якой будзе яе ідэалагічны профіль, стане больш зразумела пасля ўстаноўчага сходу новай партыі, які прызначаны на 14 красавіка.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Мінску тэрмінова патрэбна валюта, але так, каб пра гэта ніхто не здагадаўся. З гэтай пазіцыі варта ацэньваць актывізацыю кантактаў вышэйшых беларускіх чыноўнікаў з кіраўніцтвам далёкіх краін, дзе эканамічная сітуацыя ў Беларусі пакуль не вядомая. Галоўнай мэтай вяжу кіраўнікоў некалькіх міністэрстваў і прэзідэнта з Мінска ў Сінгапур і Інданезію быў выключна «перахоп да палучкі» 600 мільёнаў долараў пад заклад размяшчэння аблігацый на фінансавым азіяцкім рынку. Усё астатняе — і заявы аб новых вектарах узаемадзеяння, і дэкларацыі аб намерах павялічыць пастаўкі аўтапакрышак і калію на паўднёваазіяцкія рынкі, і заклікі ўкласціся ў беларускі парк высокіх тэхналогій — не больш чым аперацыя прыкрыцця для тэрміновых запазычанняў.

**Deutsche Welle (Германія)**

Трывожныя тэндэнцыі ў беларускай эканоміцы адзначаюць не толькі палітычныя апаненты Лукашэнкі, але і прадстаўнікі беларускага бізнэсу. Асцярогі прадпрымальнікаў звязаныя ў першую чаргу з тым, што Лукашэнка зноў, як і напярэдадні мінулага валютнага крызісу, аддаў указанне зрабіць грошы больш таннымі, і тым самым стымуляваць прадпрыемствы да мадэрнізацыі. Але і самі прадстаўнікі ўлады не вельмі хаваюць, што грошы патрэбныя для латання дзірак.

**«Независимая Газета» (Расія)**

Карэнная праблема беларускага аўтарытарызму заключаецца ў тым, што палітычная сістэма рэспублікі непасрэдна звязаная з адсталай сацыяльна-эканамічнай сістэмай Беларусі. Яны жывуць як сіямскія двайняты. Знаходзячыся ў пастаянным пошуку рэсурсаў для існавання беларускай эканамічнай мадэлі, А. Лукашэнка ўскосна вырашае праблему выжывання сваёй аўтарытарнай улады. Разарваць гэтую сувязь якімі-небудзь вонкавымі намаганнямі вельмі складана, не прыносячы ў ахвяру не толькі ўзровень жыцця грамадзян Беларусі, але і не падвяргаючы небяспецы існаванне самой рэспублікі. Захаванне працэсу пастаяннай падтрымкі беларускай нацыянальнай эканамічнай мадэлі — найважнейшая функцыя кіраўніка дзяржавы.

**«Politoboz.com» (Расія)**

З-за выяўлення шэрагу эканамічных і палітычных супярэчнасцяў, у прыватнасці, «малочнай вайны», працэс інтэграцыі дзвюх рэспублік (Расіі і Беларусі) ідзе няроўна. Акрамя таго, стаўленне да саюза ў Беларусі, магчыма, змяняецца ў горшы бок. Да 2011 года праект ціха «паміраў» з-за адрознення стратэгічных інтарэсаў абедзвюх краін. Аднак прыкметнае пацяпленне адносін паміж краінамі ў 2011 годзе паступова вяртае ідэю саюза на ранейшы ўзровень. Аднак ёсць меркаванне, што Беларусь наладжвае праект у асноўным з-за цяжкага эканамічнага становішча.

**«Республика» (Казахстан)**

Абкладзеная санкцыямі ЕС Беларусь выйшла на першае месца ў свеце па колькасці выдадзеных шэнгенскіх віз на душу насельніцтва. Гэта не парадокс, а вынік мэтанакіраванай палітыкі Еўрасаюза, які разлічвае, што, рэгулярна бываючы ў Еўропе, беларусы не будуць галасаваць за Бацьку. Няўзброеным вокам бачна, у беларускім памежжы стаўленне да ўласнай улады мяняецца. І не ў лепшы бок. Будучы ў Польшчы, карэспандэнт «Росбалта» апытаў дзесяць берасцейцаў, якія рэгулярна ездзяць у Польшчу, на прадмет таго, ці збіраюцца яны на бліжэйшых выбарах галасаваць за Лукашэнку. Усе як адзін заявілі, што ў Еўропе людзі жывуць лепш, а ў Беларусі прэзідэнта час мяняць.

**«Росбалт» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. БАНДЭРА ДАПАМАГАЕ ЗМАГАЦЦА З ЦЫКЛОНАМ

Народны дэпутат ад украінскай нацыяналістычнай партыі «Свобода» Ігар Мірашнічэнка стаў ахвярай жартаўнікоў. У суботу падчас снежнага апакаліпсісу ў Кіеве ананімныя аматара жартаў закінулі ў інтэрнэт ад яго імя інфармацыю пра тое, што «свабодаўцы» пад кіраўніцтва Мірашнічэнкі распрацавалі ўнікальны метад барацьбы з сумётамі. Сутнасць яго ў наступным: «Калі стаць каля вялізнай гурбы і тройчы паўтарыць стары бандэраўскі лозунг: «Слава нацыі! Смерць ворагам!», то на працягу максімум паўгадзіны сумёт знікае». Яшчэ больш эфектыўны метад — каля масіву снегу паставіць плакат з выявай Сцяпана Бандэры. Нарэшце, калі верыць тэксту прэс-рэліза, Мірашнічэнка заклікаў адмовіцца ад лапатаў — «камуністычных метадаў барацьбы са снегам». Нягледзячы на поўную бязглуздзіцу, гэту інфармацыю размясцілі шматлікія сур'ёзныя сайты. Іх рэдактары, здаецца, думаюць, што ад Мірашнічэнкі можна чакаць чаго заўгодна.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. ЧАВЕС БЫЎ ЭТНІЧНЫМ РУСКІМ



Аляксандр Шумскі

З такой арыгінальнай ідэяй выступіў на старонках расійскай прэсы Аляксандр Шумскі — святар Рускай праваслаўнай царквы, сябра Саюзу пісьменнікаў Расіі. Па яго словах, у крыві нябожчыка Уга абавязкова павінна цячы руская кроў, паколькі ён меў асаблівую рысу рускага характару. Гэтай рысай, якой манапольна валодаюць рускія, па словах Шумскага, з'яўляецца дабрыня, спагадлівасць. У якасці доказу ён прыводзіць просьбы вернікаў яго прыходу памаліцца за былога венесуэльскага прэзідэнта. Шмат хто з іх казаў Аляксандру, што ўспрымае Чавеса як рускага чалавека, паколькі ён дапамагаў бедным і добра ставіўся да Расіі. Публікацыя опусу Шумскага выклікала цікавую рэакцыю на расійскіх нацыяналістычных сайтах. Некаторыя адразу ўзгадалі, што Энрыке Капрылес — кандыдат венесуэльскай апазіцыі на пасаду прэзідэнта — паходзіць з габрэйскай сям'і. Такім чынам, супрацьстаянне «Чавес — апазіцыя» можна, на іх думку, разглядаць як фрагмент вечнай вайны сапраўдных рускіх людзей у асобе Чавеса з габрэямі і масонамі. Вось такая вар'яцкая канцэпцыя. Застаецца толькі здагадвацца, што б сказаў пра ідэю Шумскага сам Чавес, які пры жыцці быў фанатычным каталіком.

**Паводле расійскай прэсы**

### КНДР. УСЕ ПАЎНОЧНАКАРЭЙСКІЯ САЙТЫ ЗАБЛАКАВАНЫЯ

На сайтах прыхільнікаў ідэй Чучхэ з'явілася жудасная навіна. Пачынаючы прыкладна з 15 сакавіка ў заходніх краінах ніводны з сайтаў з даменам kp (сайты КНДР) не адчыняецца. Праблемы з доступам на паўночнакарэйскія старонкі зафіксаваныя ў Расіі і Украіне (у Беларусі веб-рэсурсы КНДР працуюць, аднак з перабоямі). Адсюль чучхэісты робяць глабальную выснову: «Відавочна, што мы маем справу з прымітыўнай інфармацыйнай блакадай КНДР з боку так званага «свабоднага свету». «Свабодны свет» нястомна насміхаецца з так званай «прымітыўнай паўночнакарэйскай прапаганды». «Калі гэта сапраўды толькі прапаганда, і калі яна так прымітыўная, тады адкуль у вас такі жывёльны, такі панічны страх перад ёй, спадары?», — кажуць прыхільнікі Чучхэ. У сувязі з вышэй апісаным прагназуецца забарона на Захадзе ўсіх матэрыялаў з Паўночнай Карэі, за распаўсюд якіх, быццам, будуць нават саджаць у турму. Як выйсце прапануецца стварэнне так званых інтэрнэт-шлюзаў, праз якія можна абыходзіць інтэрнэт-блакаду і даведвацца праўду. Не зразумела толькі адно: нашто заходнім урадам хаваць ад сваіх грамадзян навіны з КНДР? Так, за 15 сакавіка галоўнай навіной на адным з афіцыйных сайтаў КНДР быў рэпартаж пра наведванне правадыром Кім Чэн Ынам рыбнай фермы, падчас якога лідар даў мудрыя інструкцыі наконт уладкавання чырвонага кутка.

**Паводле замежнай прэсы**

### ВЕНГРЫЯ. УСЕ ПАВІННЫ КАРЫСТАЦЦА РУНАМІ

Венгерская ўльтраправая партыя «Jobbik» запусціла шырокую кампанію за вывучэнне насельніцтвам старажытных рунаў, на якіх пісалі старадаўнія венгры да таго, як прынялі хрысціянства і перайшлі на лацінку. Правапіс рунамі цяпер таксама адаптаваны да сістэм Windows і Linux. На думку нацыяналістаў, руны неабходна ведаць кожнаму венгру, каб лепш разумець сваю ўласную гісторыю. Праўда, пакуль праграма фанатаў рунаў сціплая. Яны мараць, каб кожны населены пункт Венгрыі атрымаў таблічку з руніцкімі надпісамі. З улікам таго, што тапаграфічная рэвалюцыя пачалася не так даўно, у «Jobbik» някепскія вынікі: каля сотні венгерскіх камун ужо перайшлі на руны. Акрамя таго, такая таблічка знаходзіцца на ўездзе ва ўкраінскі горад Берагова, дзе пражывае вялікая грамада венграў. Дарэчы, самі руны могуць чытацца як злева направа, так і справа налева.

**Паводле венгерскай прэсы**

ЦІКАВА

# БУДЗЕМ МЕРАЦЦА СЦЯГАМІ

*Алег НОВІКАЎ*

**На днях пачалася рэканструкцыя сталічнага комплексу «Белэкспа», пляцоўку перад якім плануецца ператварыць у Плошчу дзяржаўнага сцяга. Падобныя плошчы ўжо ёсць у Туркменістане, Азербайджане і Таджыкістане.**




Часта ў прэсе можна сустрэць інфармацыю пра тое, што ідэю будаваць гіганцкія сцягштокі — асноўны элемент архітэктурнай прасторы Плошчы дзяржаўнага сцяга — прыдумаў нябожчык Туркменбашы, Сапармурат Ніязаў.

На самай справе, такія аб'екты існавалі і раней. Вялізарныя сцягштокі з нацыянальнымі сцягамі да развалу СССР былі ў Бразіліі, Малайзіі. А на мяжы Паўднёвай Карэі і КНДР такіх вялізарных сцягштокаў аж два. У сярэдзіне нулявых у Паўднёвай Карэі пабудавалі сцягшток вышынёй каля 100 метраў, які можна было пабачыць з таго боку 38-й паралелі, што падзяляе карэйскі паўвостраў. У адказ Кім Ір Сэн загадаў пабудаваць сцягшток, вышэйшы за паўднёвакарэйскі. Так пачалася незвычайная «вайна сцягштокаў», якая заключалася ў тым, што кожны бок па чарзе нарошчваў вышыню сваёй канструкцыі. Перамаглі прыхільнікі ідэй Чучхэ, якія пабудавалі слуп у 160 метраў (нейкі час ён быў самым высокім сцягштокам у свеце). У дождж сцяг даводзіцца тэрмінова спускаць, паколькі вялізарнае мокрае палотнішча можа абрынуць усю канструкцыю. Каб узняць сцяг, патрэбна каманда ў 50 чалавек.

Паколькі Ніязаў быў аматарам мегапраектаў (нават марыў пра велізарны лядовы палац у цэнтры пустыні Каракумы), ён захапіўся ідэяй Плошчы дзяржаўнага сцяга. У адрозненні ад лядовага палацу, Плошчу сцяга ён паспеў пабачыць пры жыцці. Плошча дзяржаўнага сцяга ў Ашхабадзе была адчынена ў чэрвені 2008 года. Вышыня сцягштоку складае 133 метры. Затое памеры сцяга былі самымі вялікімі ў свеце — 52 на 35 метраў. Важыць такі сцяжок усяго 400 кілаграмаў.

Панарама гіганцкага сцяга выклікала рэўнасць у суседніх дыктатараў, якія таксама захацелі сабе такую ж цацку. Гэта стала залатой жылай для амерыканскай кампаніі «Trident Support», якая праектуе падобныя сцягштокі, беручы за кожную замову ў сярэднім калі 3 мільёнаў долараў.

Першым загарэўся мець гіганцкі сцягшток Ільхам Аліеў. 17 лістапада 2007 года прэзідэнтам Азербайджана быў падпісаны ўказ аб стварэнні ў Баку Плошчы дзяржаўнага сцяга, будаўніцтва якой ацанілі ў 32 мільёны долараў. 1 верасня 2010 у Баку адбылося ўрачыстае адкрыццё Плошчы дзяржаўнага сцяга. Сцягшток вышынёй 162 метра адразу трапіў у кнігу рэкордаў Гінеса як самы вялікі сцягшток у свеце. Аднак Аліеў не доўга задзіраў нос. У 2011 годзе Таджыкістан, які святкаваў 20-ю гадавіну незалежнасці, вырашыў пераплюнуць азербайджанцаў. 24 мая 2011 года гіганцкі афіцыйны таджыкскі штандар быў узняты на вышыню 165 метраў.

Натуральна, трэба задацца пытаннем, ці сапраўды тыя плошчы і пейзажы з велізарным сцягам выклікаюць у людзей прыступ патрыятызму? Пытанне дыскусійнае, калі паглядзець, што пішуць на інтэрнэт-форумах тамтэйшыя жыхары. Вось, напрыклад, як рэагавалі таджыкскія юзеры на навіну пра тое, што ўлады Туркменістану павялічылі плошчу сцяга ў Ашхабадзе, каб яна была большай за сцяг у Душанбэ: «Прапаную па даўжыні сцягу і з абодвух бакоў прышыць палоскі па 1,20 метры шырынёй і абыйсці туркменаў». «Аказваецца, ёсць яшчэ ў свеце дурнейшы за наш урад». «Трэба тэрмінова сабраць экстранае пасяджэнне ўрада, распрацаваць стратэгічны план па стварэнне новага сцягштоку, мабілізаваць усе рэсурсы краіны для дасягнення гэтай мэты. Калі не хопіць унутраных рэсурсаў, трэба ўзяць крэдыт у замежных дзяржаў, праводзіць агітацыю ва ўсіх СМІ з прыцягненнем дзяцей, школьнікаў і студэнтаў, каб вызначыць памер сцяга такім чынам, што ён пакрываў сваім ценем усю тэрыторыю Цэнтральнай Азіі. Таджыкскі народ не дазволіць сябе крыўдзіць. Сцяг для нас — сэнс жыцця. Нам не патрэбна ні свабода, ні праца, ні адукацыя, і тым больш годнае жыццё. Нам патрэбны СЦЯГ, а ўсё астатняе — глупства. Нашы нашчадкі годна ацэняць наш унёсак у гісторыю і будуць ганарыцца гэтым». «Трэба нешта новае цяпер прыдумаць, каб у кнігу Гінеса патрапіць. Напрыклад, самы доўгі гімн, або адключыць электрычнасць на 25 гадоў». «Так, спадары, супакойцеся!!! Ствараем акцыянернае таварыства, усе дружна добраахвотна-прымусова купляем акцыі «Сцяг Тадж» і пашыраем наш сцяг, які і без таго вісіць як трусы».

Акрамя таго, што сцяг часта вісіць «як трусы», не выклікаючы адназначна ніякага патрыятычнага ўздыму, ён становіцца ахвярай прыроднай стыхіі. Стыхіі, якой ніводны, нават самы-самы вялікі дыктатар не здольны даваць дырэктывы. Часам гэта прыводзіць да камедыйных сітуацый. Адна з іх здарылася падчас візіту ў Баку Дзмітрыя Мядзведзева ўвосень 2010 года, які на той час быў прэзідэнтам Расіі. Вось што пісаў на сваім блогу нейкі бакінец — сведка тых падзей.

«Эфект» падкраўся непрыкметна. Напярэдадні ноччу «нацыянальны набытак, плоць і сэрца Азербайджана» — велізарнае палотнішча сцяга — апынулася разадрана на анучы. Злодзей — гарэзны вецер з Каспія. І вось тут Аліеў і прадэманстраваў цуд апаратыўнага адміністравання: ён нават не стаў губляць часу на арышт вінаватых. Загадаўшы тэрмінова падняць новы сцяг, прэзідэнт Азербайджана адправіўся на сняданак з госцем. Але ўжо ў час сняданку Аліеў атрымаў яшчэ адзін аперкот: свежы сцяг падняўся толькі на 74 метры, пасля чаго ад яго адарвалася 20% плошчы. Давялося Аліеву ўзгадняць з госцем новую праграму яго знаходжання ў Азербайджане, а таксама прыдумляць маршруты, старанна аб'язджаючы пампезную Плошчу сцяга».

Акрамя таго, Плошча дзяржаўнага сцяга — тэрыторыя, вельмі небяспечна для яго суседзяў. Так, уначы 2 лютага 2011 года пры моцным ветры бакінскі сцягшток пачаў моцна раскачвацца. Паводле звестак МНС Азербайджана, былі прынятыя неабходныя і неадкладныя меры па бяспецы — на некаторы час сцяг быў спушчаны, а жыхары суседняга 9-павярховага дома эвакуяваныя з-за пагрозы таго, што 220-тонны сцягшток можа зваліцца на дах іх будынку. У прынцыпе, тым жыхарам яшчэ пашанцавала. Падчас будаўніцтва Плошчы сцяга шэраг дамоў па суседству з будпляцоўкай проста давялося высяліць з-за небяспекі.

Застаецца пачакаць, каб даведацца, ці пойдзе Мінск на рэкорд — захоча пабудаваць большы сцягшток, чым у Душанбэ? Аднак доўга ў кнізе Гінеса наша плошча дзяржаўнага сцягу ў любым выпадку не пратрымаецца. У Маскве таксама думаюць пра падобную плошчу. І, хутчэй за ўсё, за коштам там не пастаяць. Напрыклад, агучваецца ідэя ўзняць расійскі трыкалор над Астанкінскай тэлевежай.

ВЕРСІІ

# СМЕРЦЬ БЕРАЗОЎСКАГА — ІНСЦЭНІРОЎКА

Алег НОВІКАЎ

**Агенты ФСБ, супрацоўнікі казахскіх спецслужбаў, людзі Скотленд-Ярда, чачэнскія мафіёзі, суцянёры… Вось далёка не поўны спіс асобаў, якіх прэса падазрае ў дачыненні да смерці Барыса Беразоўскага.**



Натуральна, першай адгукнулася на паведамленне пра смерць БАБ жоўтая прэса, якая адчула прысмак сенсацыі. Яшчэ не забылася жудасная гісторыя былога афіцэра ФСБ, перабежчыка Літвіненкі, якога калегі, быццам, знішчылі з дапамогай радыёактыўнага палонію. Правесці сувязь паміж абодвума выпадкамі паспрабавала, напрыклад, «ABCNews». «Не выключана, што з Беразоўскім абышліся гэтак жа, як з Аляксандрам Літвіненкам у 2006 годзе, — ён быў забіты», — адзначае выданне.

Матывы Крамля прыбраць Абрамавіча відавочныя. «Барыс баяўся за сваю бяспеку і разумеў, што Крэмль мае намер знішчыць яго ў якасці прыкладу для ўсіх тых, хто паспрабуе стаць на дарозе. Ён разумеў логіку Крамля лепш, чым хто», — піша брытанская газета «The Daily Mail». На карысць прыхільнікаў гэтай версіі — цікавае супадзенне. Цела Бярозаўскага было знойдзена роўна праз 5 гадоў пасля таго, як па не зразумелай дасюль прычыне загінуў яшчэ адзін мільярдэр, які таксама, як і БАБ, спачатку дапамагаў Пуціну прыйсці да ўлады, а пазней трапіў у няміласць. Гаворка пра бізнэсмэна і палітыка Бадры Патаркацышвілі, якога ў 2008 годзе таксама знайшлі мёртвым у яго англійскім асабняку.

Чаму з Беразоўскім расправіліся менавіта зараз? Адказ прапануе шведская прэса. Там з'явілася інфармацыя, што алігарх не так даўно, быццам, адправіў асабістыя запіскі ў шведскі парламент, у якіх, нібыта, часта згадваецца імя Уладзіміра Пуціна. Такія дакументы, па законах каралеўства, абавязаны быць апублікаванымі. 26 сакавіка паведамлялася, што прэс-сакратар шведскага парламента запэўніла журналістаў, што, нібыта, дакументы будуць вывучаныя і апублікаваныя, бо прадстаўляюць грамадскі інтарэс. Аднак пасля тая ж прэс-сакратарка заявіла, што ўпершыню чуе пра пасылку з Лондана...

Паралельна актыўна абмяркоўваецца версія пра самагубства Барыса Беразоўскага. Заходнія СМІ звяртаюць увагу, што гэтую ідэю актыўна прасоўваюць расійскія СМІ. Галоўным доказам служаць успаміны журналіста рускага выдання «Forbes», які не так даўно браў інтэрв'ю ў нябожчыка і, быццам, быў уражаны дэпрэсіўным станам суразмоўцы, звязаным у тым ліку з фінансавымі праблемамі. Акрамя таго, у студзені 2013 года Беразоўскі расстаўся са сваёй грамадзянскай жонкай Аленай Гарбуновай, якая ў дадатак падала іск супраць бізнэсмэна на некалькі мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. Прэс-сакратар прэзідэнта Расіі Дзмітрый Пяскоў нават заявіў, што пару месяцаў таму Беразоўскі пісаў расійскаму лідару Уладзіміру Пуціну ліст, прасіў прабачэння і дазволу вярнуцца на радзіму. У гэта, канечне, цяжка верыцца. Калі б такі ліст існаваў, яго б, хутчэй за ўсё, адразу апублікавалі ў прапагандысцкіх мэтах.

Настойлівасць Масквы выставіць смерць алігарха як акт суіцыду звязваюць у тым ліку з той роляй, якую Беразоўскі займае ў афіцыйнай прапагандзе Расіі. Там фігура беглага бізнэсмэна вельмі міфалагізаваная, з яго зрабілі нейкага «Доктара Зло», з дапамогай якога можна было маскіраваць прамашкі ва ўнутранай палітыцы. Страціўшы моцны козыр у асобе апальнага алігарха, Крэмль намагаецца выжаць з факту яго смерці апошнія сокі — прадставіць суіцыд як лагічны фінал жыцця кожнага апанента Пуціна. У гэтым плане далей за ўсіх зайшлі дзяржаўныя каналы тэлевізіі. Яны лічаць, што на адчайны крок Барыса Абрамавіча падштурхнула поўнае расчараванне ў існуючай на Захадзе дэмакратычнай мадэлі.

Увогуле, сыход у лепшы свет «Доктара Зло» вымушае Крэмль пачаць кастынг на новага «монстра». Цікавая думка на гэты конт прагучала на адным з казахскіх форумаў. Аўтар посту лічыць, што місія Пуціна палягала ў тым, каб знішчыць Беразоўскага. Быццам, дзеля гэтага вакол яго і аб'ядналася частка эліты, асабістыя ворагі БАБ. Цяпер, пасля некралогаў пра Беразоўскага, Пуцін ім не патрэбны. «Пуцін зрабіў сваю справу, Пуцін можа сыходзіць», — рэзюмуе блогер.

Ёсць версіі, якія не тычацца Лубянкі. Так, жоўтыя швейцарская «Blick» і брытанская «Daily Mail» капаюць сувязі Беразоўскага з сэксмафіяй, якая пастаўляла яму дзяўчынак-тынейджараў з Усходняй Еўропы. Магчыма, нехта спрабаваў шантажаваць алігарха, што закончылася трагедыяй.

Варта таксама ўзгадаць нататку ў нямецкай «Die Zeit». Выданне звяртае ўвагу на тое, што фігура Беразоўскага вельмі шкодзіла брытанска-расійскім адносінам. Пра дачыненне спецслужбаў Яе Вялікасці да апошніх падзей кажа і Ханс-Хёнінг Шродар, прафесар берлінскага Фонду навукі і палітыкі. Ён таксама лічыць, што следства павінна адпрацаваць чачэнскую версію. Як вядома, Беразоўскі меў кантакты з чачэнскай палітычнай эміграцыяй, а праз яе — з мафіяй.

Амаль фантастычную версію прапануюць казахскія СМІ. На іх думку, забойства Беразоўскага — гэта прэвентыўны ўдар у сэрца антыназарбаеўскай канспірацыі. Яшчэ год таму казахская прэса пісала, што Барыс Беразоўскі, быццам, актыўна шукае новых саюзнікаў для рэалізацыі больш маштабных задач, чым «цюльпанавая рэвалюцыя ў маленькай сярэднеазіяцкай краіне». Як адзначаў «Маскоўскі Камсамолец», «можна выказаць здагадку, што на гэты раз гаворка ідзе пра размыванне падмурку пад Мытным саюзам, а саюзнікам Бярозаўскага гатовы стаць былы кіраўнік БТА-Банка Мухтар Аблязаў (казахскі апальны алігарх, які пасварыўся з Астаной і хаваецца на Захадзе). Такім чынам, атрымліваецца, што за кошт "нейтралізацыі" БАБ казахскія спецагенты прэвентыўна знішчылі пагрозу замаху на назарбаеўскі рэжым і, як следства, на Мытны саюз.

Ёсць і яшчэ адна версія, якая агучваецца расійскімі журналістамі. Смерць Бярозаўскага магла быць інсцэніраваная, а псеўда-нябожчык цяпер можа сядзіць у якім-небудзь заморскім раі пад іншым прозвішчам і ціха пасміхацца з усіх. Гэта ў яго стылі. І, быццам, дапамагчы правесці такую аперацыю БАБ мог... Пуцін. Справа ў тым, што апошнія ўчынкі Беразоўскага былі хутчэй на руку Крамлю. Такое падазрэнне ўзнікла шмат у каго падчас справы «Pussy Riot», да фінансавання якой датычны БАБ. Справа мабілізавала праваслаўны электарат, які пачаў бачыць у Пуціне абаронцу сімвалаў веры. Істэрычныя заклікі алігарха пра арышт Пуціна напярэдадні яго апошняй прэзідэнцкай інагурацыі таксама пайшлі ў палітычную капілку Крамля. У расійскай прэсе не выключаюць, што Масква супрацоўнічала з БАБ і дапамагала яму «памерці», калі яго закідалі іскамі ў суд і фінансавымі прэтэнзіямі.

Напэўна, следства рана ці позна паставіць кропку ў загадкавай смерці Беразоўскага. Аднак прэса, відавочна, супакоіцца не хутка. Занадта ўжо каларытнай і глабальнай фігурай быў Барыс Абрамавіч. Некаторыя нават пабачылі ў яго асобе новага Распуціна. Нямецкая прэса піша, што шэраг буйных выдавецтваў ужо ўключыў у свае бліжэйшыя планы публікацыю крымінальнага рамана, сюжэт якога круціцца вакол жыцця і смерці Барыса Беразоўскага.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### ПЭН ЛІЮАНЬ

Першая лэдзі КНР, жонка старшыні Сі Цзыньпіна, упершыню выйшла ў людзі — разам з мужам наведала Маскву і выклікала сапраўдны сусветны фурор. Па-першае, інстытут першай лэдзі не вельмі развіты ў кітайскай палітычнай культуры. Пра былых першых лэдзі практычна нічога не вядома. Калі, натуральна, не лічыць Цзян Цын — жонку Маа, якую пасля смерці мужа абвінавацілі ў злачынствах культурнай рэвалюцыі, што прымусіла яе паканчаць жыццё самагубствам. Пэн Ліюань не толькі парушыла традыцыю, аднак і прадэманстравала выключнае пачуццё густу. Яе фотаздымкі апублікавалі шматлікія СМІ. Мадэльеры, аналізуючы фасон яе адзення, пішуць, што кітаянка не менш гламурная за Карлу Бруні або Мішэль Абама. Дарэчы, з улікам таго, што першая кітайская лэдзі была прафесійнай эстраднай спявачкай, напэўна, гэта не дзіўна. Між тым, сур'ёзныя аналітыкі кажуць, што новы прэзідэнт пачаў цягаць жонку па замежжы не проста так. На думку кітайскіх піяршчыкаў, КНР, дзякуючы стыльнай Пэн, павінна выглядаць як сіла, аднак сіла мяккая. Застаецца сказаць, што плашч Пэн зроблены на кітайскіх прадпрыемствах, што дало нагоду камуністычнай прэсе КНР запусціць кампанію: «Набывайце кітайскае».



### АРСЕНІЙ ЯЦЭНЮК

Лідар аранжавай апазіцыі прыкладна два тыдні таму абвясціў пачатак акцыі «Народнае паўстанне». На самай справе, «Народнае паўстанне» прадстаўляе сабой маніфестацыі апазіцыі ў рэгіёнах. Перад пачаткам мітынгу ў Вінніцы тэлевядоўца цэнтральнага ўкраінскага тэлеканала «Тэт» Аляксей Дурноў уручыў Арсенію моркву як сімвал «прэзідэнцкай улады». У адказ на гэта Яцэнюк нахіліў да сябе Аляксея Дурнова і сказаў на вуха: «Глядзі, каб я табе яе ў ж…у не засунуў». Словы Яцэнюка зафіксаваў мікрафон камеры. Інцыдэнт выклікаў вялікі скандал. Дурноў ужо заявіў, што падае ў суд на палітыка за «сэксуальнае дамаганне і пагрозу сэксуальнага гвалту», а прэса гадае, як гэта гісторыя можа адлюстравацца на шансах Яцэнюка стаць адзіным кандыдатам ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года. Справа ў тым, што гісторыя трошкі падобная на інцыдэнт з Віктарам Януковічам, у якога ў 2004 годзе, падчас яго выбарчай кампаніі, кінулі яйкам. У дадатак, цяпер на кожным мітынгу Яцэнюку пачалі дарыць моркву, што выглядае сапраўды смешна. З улікам таго, што ўся «маркоўная гісторыя» актыўна раскручваецца СМІ, блізкімі да Партыі рэгіёнаў, ясна, што тэма морквы яшчэ доўга не знікне. Праўда, калі з-за той жа морквы Яцэнюка не абяруць кандыдатам ад апазіцыі, такім чалавекам, хутчэй за ўсё, стане былы баксёр, лідар партыі «Удар» Уладзімір Клічко. Наўрад ці нехта наважыцца падараваць яму моркву.

### МАРЦІН ХАРАЛА



Дэпутат Гданьскага савету ад кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) стаў добра вядомы ў Польшчы, бо выступіў з ініцыятывай абавязаць усе школы пачынаць тыдзень з калектыўных спеваў нацыянальнага польскага гімну. Дзякуючы гэтаму можна будзе вырашыць шмат праблем: навучыць дзяцей тэксту гімну, садзейнічаць росту нацыянальнай свядомасці. Пры гэтым аўтар ідэі спасылаецца на вопыт ЗША, дзе існуе падобная практыка, прычым гімн за акіянам школьнікі спяваюць штодня. Ідэя адразу падзяліла бацькоў і грамадства на два лагеры. Адны пагаджаюцца з дэпутатам, а другія адзначаюць, што абавязковае выкананне гімну, хутчэй за ўсё, выкліча ў дзяцей нелюбоў да гэтага атрыбута польскай дзяржаўнасці. Не ў захапленні ад ідэі і дзіцячыя псіхолагі, якія кажуць, што ў польскіх школах ёсць значна большыя праблемы, чым кепскае веданне тэксту гімну. У якасці кампрамісу яны прапануюць проста ўвесці дадатковы ўрок для вывучэння дзяржаўнай сімволікі. Нарэшце, некаторыя прапануюць Марціну пачаць з сябе і для пачатку дабіцца, каб кожны працоўны тыдзень дэпутаты Гданьскай ратушы пачыналі з выканання гімну. А польскія левыя ўвогуле скарысталіся ідэяй дэпутата, каб патрабаваць перагляду тэксту гімну. Ім не падабаецца, што ў тэксце добрым словам згадваецца Напалеон, які, як вядома, даслаў польскі корпус на верную смерць — падаўляць паўстанне рабоў на востраве Гаіці.

ГАДАВІНА

# ЯНЫ НЕ ЗАХАЦЕЛІ БЫЦЬ ПАСЛУХМЯНЫМІ РАБАМІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У красавіку спаўняецца 70 гадоў Паўстанню ў Варшаўскім гета. Гэта падзея амаль не даследавалася ў айчыннай гістарыяграфіі, а наша грамадства, мабыць, упершыню даведалася пра тую трагедыю толькі паглядзеўшы выдатны галівудскі фільм Рамана Паланскага «Піяніст». А між тым, гэта тэма патрабуе больш глыбокага даследавання і асэнсавання.**


Паўстанец у руінах


Варшаўскае гета


Калабарацыяністы забіваюць габрэяў у Варшаўскім гета


Падчас знішчэння Варшаўскага гета

## Габрэйскі раён

Да пачатку Другой сусветнай вайны габрэйскае насельніцтва Варшавы складала, па розных падліках, каля 400 тысяч чалавек, прычым большая частка, каля 300 тысяч, жыла ў так званым габрэйскім квартале. У тым жа раёне Варшавы жылі і каля 80 тысяч палякаў. Прадстаўнікі габрэйскай інтэлігенцыі жылі ў іншых раёнах польскай сталіцы. Неўзабаве пасля акупацыі Польшчы па загаду губернатара Ханса Франка палякі, якія пражывалі на тэрыторыі будучага гета, былі адселеныя, а іх месца занялі габрэі з іншых раёнаў Варшавы.

У студзені 1940 года пачалося будаўніцтва муроў, якія аддзялялі гета ад горада. Мяжа габрэйскага квартала праходзіла па вуліцах Велькай, Багно, Плац Гжыбоўскі, Зімна, Плац Банковы, Огруд Красіньскіх, Конвікторска, Стаўкі і г.д. Больш за 400 тысяч чалавек аказаліся адрэзанымі ад знешняга свету. Тэрыторыя гета была падзеленая на тры часткі: першая — рамесная, у другой знаходзілася вялікая фабрыка, што вырабляла шчоткі і пэндзлі, а ў трэцяй знаходзіліся прамысловыя прадпрыемствы і адміністрацыя.

У гета быў створаны «Юдэнрат» (Габрэйскі савет), які складаўся з 24 сябраў, прызначаных нацысцкімі ўладамі з ліку багатых і вядомых варшаўскіх габрэяў. Сядзіба гэтай арганізацыі знаходзілася на вуліцы Гжыбоўскай 26/28, там, дзе да вайны была Управа габрэйскай гміны. У функцыі «Юдэнрата» ўваходзіла камплектаванне «працоўных батальёнаў» і арганізацыя адпраўкі габрэяў у Трэблінку — бліжэйшы да Варшавы лагер масавага знішчэння. Была яшчэ адна рэч, якую сябры «Юдэнрата» рабілі ўжо выключна па ўласнай ініцыятыве: гета літаральна кішэла правакатарамі, ад якіх гестапа атрымлівала інфармацыю аб узнікненні падпольных арганізацый, закупцы зброі і месцах яе захоўвання, аб таемных месцах выхаду з гета ў горад.

Германская ваенная прамысловасць, што набірала ўсё большы размах, вельмі хутка адчула недахоп у кваліфікаванай рабочай сіле. У той жа час, згодна з рапартамі гестапа, «40 працэнтаў з паўмільёна габрэяў, што знаходзіліся ў гета, — былі рамеснікамі высокай кваліфікацыі». Гаворка ішла пра краўцоў, цесляроў і г.д. Немцы выкарыстоўвалі гэтую бясплатную працоўную сілу.

Гета было перанаселене. На адзін квадратны кіламетр прыходзілася каля 150 жыхароў. З пачатку існавання гета і да лета 1942 года ад голаду і хвароб там памерлі каля 100 тысяч чалавек. У кастрычніку 1941 года Ханс Франк выдаў загад расстрэльваць на месцы кожнага габрэя, які трапіць у рукі нямецкіх уладаў па-за межамі гета. А таксама кожнага паляка, які будзе ратаваць ці хаваць габрэя.

Неўзабаве рэйхсфюрэр Гімлер аддаў загад «ачысціць Варшаўскае гета». Першая дэпартацыя ў Трэблінку адбылася ў ліпені 1942 года. Каб падмануць габрэяў, нацысты развешвалі на тэрыторыі гета ўлёткі, у якіх інфармавалі, што вываз людзей ажыццяўляецца дзеля таго, каб палепшыць іх жыллёвы стан. Спачатку вывозілі старых і дзяцей, а потым узяліся і за іншых. Да сакавіка 1943 года ў гета засталося каля 55 тысяч чалавек.

## Падрыхтоўка да паўстання

Жыхары гета хутка зразумелі, што нацысты адпраўляюць габрэйскае насельніцтва на смерць, таму сярод прадстаўнікоў розных падпольных арганізацый, якія дзейнічалі на тэрыторыі гета, стаў выспяваць план узброенага выступу супраць нацыстаў. Большасць сучасных еўрапейскіх гісторыкаў падкрэслівае, што, у адрозненні ад палякаў, якія ўзнялі ў 1944 годзе Варшаўскае паўстанне і якія пры акрэсленых абставінах мелі шансы на перамогу, габрэйскае ўзброенае выступленне было асуджана на правал. Аднак сэнс паўстання ў гета заключаўся ў дэманстрацыі мужнасці людзей, якія кінулі выклік смерці.

Дарэчы, спробы ўзброенага выступу супраць нацыстаў рыхтаваліся і ў гета, размешчаных на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Напрыклад, лідары маладзевых сіяніцкіх падпольных арганізацый Віленскага гета ў 1942 годзе звярнуліся да габрэяў з заклікам, у якім былі словы: «Гітлер плануе знішчыць усіх еўрапейскіх габрэяў. Мы не будзем ісці, як авечкі на бойню. Трэба змагацца. Лепей загінуць у баі». Тое ж самае адбывалася і ў Беластоцкім гета. І калі ў Вільні ўзброенага выступу так і не адбылося, то ў Беластоку ў лютым 1943 года габрэі ажыццявілі напад на аддзелы СС. Некаторым паўстанцам удалося прабіцца ў лясы і далучыцца да польскіх партызан. Узброеныя выступленні габрэяў адбываліся таксама ў гета ў Брэсце, Браславе, Нясвіжы і Кобрыне.

Што ж тычыцца Варшаўскага гета, то галоўную ролю ў падрыхтоўцы паўстання там адыграў «Габрэйскі вайсковы саюз» (ГВС). Варта падкрэсліць, што рыхтаваліся да паўстання і пракамуністычныя падпольныя групы, але ў 1942 годзе большасць з іх была ліквідавана гестапа. У сваю чаргу, ГВС перад пачаткам паўстання ў красавіку 1943 года меў на тэрыторыі гета каля пяцісот падрыхтаваных і ўзброеных байцоў. Армія Краёва накіравала ў гета 4 ручныя кулямёты, 15 аўтаматаў, 50 пісталетаў, 300 гранат. Акрамя гэтага, жыхары гета куплялі зброю ў варшавян. На тэрыторыі гета дзейнічала і іншая падпольная структура — «Габрэйская баявая арганізацыя» (ГБА), у складзе якой было таксама каля 500 сяброў. ГВС передало ГБА частку зброі і амуніцыі. Тэрыторыя гета была падзелена на дзве баявыя акругі.

## Бой за гонар народа

19 красавіка 1943 года нямецкія часткі пры падтрымцы бронетэхнікі, а таксама дапаможных украінскіх і латышскіх падраздзяленняў накіраваліся ў Варшаўскае гета. На гэты дзень была прызначана канчатковая ліквідацыя гета і вываз яго насельніцтва ў лагеры смерці. Але як толькі першыя часткі СС увайшлі на тэрыторыю габрэйскага раёна, на іх пасыпаўся град куль. Вось як тыя падзеі апісваў брыгадэфюрэр СС Юрген Штроп: «З усіх вокнаў і падвалаў стралялі так моцна, што цяжка было падняць галаву, каб заўважыць, адкуль вядзецца стральба. Узарваўся бранявік. Гранаты і бутэлькі з запальнай сумессю затрымлівалі рух. У некаторых месцах мы былі вымушаны ўжываць зенітную гармату. [...] Сярод паўстанцаў былі не толькі мужчыны, але і жанчыны».

Хутка на адным з дамоў на вуліцы Мураноўскай былі вывешаны бела-блакітны і бела-чырвоны сцягі. Габрэйскія паўстанцаў падтрымалі байцы Арміі Краёвай пад камандаваннем маёра Хенрыка Іваньскага. Але што маглі зрабіць слаба ўзброеныя жыхары гета супраць рэгулярнага войска...

8 мая 1943 года немцы захапілі штаб-кватэру ГБА. У ноч з 13 на 14 мая ў небе над Варшавай паказаліся савецкія бамбардзіроўшчыкі, якія скінулі бомбы на казармы войск СС. Падчас бамбардзіроўкі частка паўстанцаў прарвалася з гета. 16 мая нацысты афіцыйна абвясцілі аб заканчэнні акцыі па знішчэнню Варшаўскага гета. Аднак малыя атрады паўстанцаў змагаліся ў развалінах да ліпеня. Усяго ў баявых дзеяннях загінула каля тысячы абаронцаў гета. Яшчэ 5 тысяч згарэлі ў агні. Немцы, па розных падліках, страцілі некалькі дзясяткаў забітымі і параненымі.

Паўстанне ў Варшаўскім гета было адным з найбольш моцных узброеных выступаў цывільных грамадзян супраць нацысцкіх акупантаў падчас Другой сусветнай вайны. Даведзеныя да адчаю людзі замест таго, каб паслухмяна ісці на бойню, выбралі загінуць як сапраўдныя салдаты са зброяй у руках. Адзін з удзельнікаў паўстання Арыя Вільнэр пісаў: «Мы не збіраемся ратаваць сябе. З нас ніхто не выжыве. Мы хочам уратаваць гонар народа». Да гэтага цяжка нешта дадаць. Памяць пра тыя падзеі павінна жыць у стагоддзях.

СПАДЧЫНА

# УШАНАВАНЫ Ў ЛІТВЕ, ЗАБЫТЫ Ў БЕЛАРУСІ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Сёлета ў лютым споўнілася 50 гадоў, як не стала Канстанціна Галкоўскага (1875–1963) — беларускага і літоўскага кампазітара, дырыжора, педагога, народнага артыста Літвы. Літвы, а не Беларусі, хаця для беларускай культуры ён зрабіў значна больш, чым для літоўскай.**


Сяргей ЧЫГРЫН

Лявон Луцкевіч і Галіна Войцік некалі выдавалі ў Вільні серыю кніжачак «Партрэты віленчукоў». У 2001 годзе яны выпусцілі і кніжачку, прысвечаную Канстанціну Галкоўскаму. У ёй аўтары напісалі: «Канстанцін Галкоўскі — карэнны віленчук і беларус паводле паходжання, залічаны ў Літве ў плеяду лепшых нацыянальных кампазітараў. Між тым, не меншыя, калі не большыя, заслугі ў К. Галкоўскага ёсць і перад беларускім музычным мастацтвам. Але ў Беларусі ён — забыты кампазітар…»

Вядома, 50 гадоў з дня смерці — гэта сумны юбілей. Хаця сам Канстанцін Галкоўскі пражыў 88 гадоў. Ён шмат ведаў, бачыў, ён любіў Беларусь, беларускі народ, беларускую паэзію, з ім сябравала ўся беларуская Вільня XX стагоддзя. У гэтым я пераканаўся, вывучаючы беларускія віленскія выданні 1920–1930-х гадоў. Давайце іх разам пагартаем, пачытаем.

Напрыклад, часопіс «Беларускі летапіс» (№6–7 за 1937 год) паведамляў: «Кампазітар К. Галкоўскі апрацаваў шэсць народных беларускіх песень для аднаго голасу для фартэпіяна. Мелодыі і тэксты песень узятыя з рукапісаў Рыгора Шырмы і запісаныя: дзве ў вёсцы Кацёлкі Пружанскага павета («Ой, дождж дждык ідзе, раса нападзе» (асенняя) і «Ой, у полі дзве пташачкі, обе рабакрылы» (рэкруцкая), адна запісана ў мястэчку Мядзел Пастаўскага павета («Кукавала зязюлька, што лес мал» (вясёлая, жартаўлівая), адна — у вёсцы Нізяны Ваўкавыскага павета («На гарэ камары, а ў даліні гусі…» (гумарыстычная), адна — у вёсцы Навасёлкі Пастаўскага павета («Купалялё») і прыпеўкі «Чэраз сад-вінаград па ваду хадзіла» з Наваградскага павета. Гэтыя новыя працы слаўнага кампазітара з'яўляюцца вельмі цэнным укладам у беларускую вакальную літаратуру, асабліва сольную. Распрацаваны з незвычайным майстэрствам вялікага мастака, з поўным разуменнем народнага духу і з захаваннем народнага стылю і характару, прычым адна з гэтых песень пакладзена таксама для віяланчэлі і раяля».

У 1930-х гадах у Вільні адбывалася шмат беларускіх канцэртаў, літаратурна-музычных вечарын, сустрэч. Але ніводны канцэрт не праходзіў без Канстанціна Галкоўскага. 13 снежня 1936 года ў Вільні адбыўся Дзень беларускай культуры. У ім актыўны ўдзел прымалі хор Рыгора Шырмы і спявак Міхась Забэйда-Суміцкі. Часопіс «Калоссе» (№1 за 1937 год) паведамляў: «Пад кіраўніцтвам слаўнага рэгента і няўтомнага беларускага культурнага дзеяча грам. Р. Шырмы ведамы ягоны Беларускі хор выканаў першыя дзве часткі: у першай кантату К. Галкоўскага на словы М. Танка, народныя песні: «А мне труднненька», «Па саду хаджу» — К. Галкоўскага і песню «Вясна», музыка К. Галкоўскага, словы М. Васілька, а ў другой частцы — цудоўную сюіту «Каханне» (дзесяць народных песняў) праф. К. Галкоўскага. Беларуская песня, дзякуючы артыстычнаму выкананню хору, пры дасканальным акампаніраванні праф. К. Галкоўскага, дасягнула вышыні характва. Запоўненая слухачамі (больш паўтысячы) аўдыторыя была зачараваная і свой энтузіязм і задавальненне з перажываных эстэтычных эмоцыяў выказвала бурнымі воплескамі ў гонар выканаўцаў…»

Калі спяваў Міхась Забэйда-Суміцкі, Канстанцін Галкоўскі акампаніраваў яму. А спявак выконваў і песні кампазітара — народную «Абнімі ты мяне», «Ці грэх цябе любіць» на словы Ясакара (З. Бядулі) і многія іншыя. Галіна Войцік і Лявон Луцкевіч прыгадваюць, што Канстанцін Галкоўскі быў акампаніятарам Міхася Забэйды-Суміцкага ў 1936–1938 гадах. Ён заўсёды заходзіў на сцэну ўпэўненым крокам, кланяўся, сядаў каля раяля. Быў Канстанцін Галкоўскі невысокага росту, лысы, як калена, але ягоны твар з правільнымі рысамі быў прывабны. А тэмперамент Галкоўскага праяўляўся тады, калі ён іграў вясёлую музыку.

Апошні раз Канстанцін Галкоўскі і Міхась Забэйда-Суміцкі сустрэліся ў Вільні вясной 1944 года, калі Віленская беларуская гімназія адзначала сваё 25-годдзе. Сюды з Прагі прыехаў і спявак. Іх апошні сумесны канцэрт адбыўся ў Вільні ў тэатры на Вялікай Пагулянцы. Больш Галкоўскі з Забэйдам-Суміцкім ніколі ў жыцці не сустрэліся…

Нарадзіўся Канстанцін Галкоўскі ў Вільні 16 чэрвеня 1875 года. Бацька яго паходзіў з Магілёўшчыны, а маці — з Міншчыны. Бацькі з маленства прывівалі Кастусю любоў да музыкі. Таму пасля школы ён паступіў у Пецярбургскую кансерваторыю па класу кампазіцыі і опернай аркестроўкі пад кіраўніцтвам М. Рымскага-Корсакава і А. Глазунова. Яго дыпломнай працай была трохактовая опера «Цыганы» па паэме А. Пушкіна. За гэтую дыпломную працу, як прыгадваў Рыгор Шырма, Канстанціну Галкоўскаму педагагічная рада кансерваторыі ў 1908 годзе прысудзіла залаты медаль. Гэта быў адзіны выпадак за 50 гадоў існавання кансерваторыі.

У 1909 годзе Канстанцін Галкоўскі прыязджае ў Вільню, дзе разам з Людамірам Рагоўскім кіруе ўсім музычным жыццём. Там ён арганізоўвае першы ў Вільні сімфанічны аркестр, выступае за дырыжорскім пультам, піша музычныя творы — сімфоніі, п'есы, песні, ён цікавіцца мясцовым песенным фальклорам, асабліва беларускім. Рыгор Шырма ў сваёй кнізе «Песня — душа народа» прыгадвае: «Усё, што напісана кампазітарам на беларускія тэмы, можна падзяліць на дзве групы. Першая — гэта тая ці іншая распрацоўка народных беларускіх мелодый, другія — арыгінальная музыка на словы беларускіх паэтаў».

15 сакавіка 1936 года ў актавай зале Віленскага ўніверсітэта Беларускі студэнцкі саюз і Таварыства прыяцеляў беларусаведы ладзілі вечар беларускай паэзіі. Да гэтай вечарыны Канстанцін Галкоўскі напісаў тры песні — «Марш маладых» на словы Міхася Машары, «То не пчолка звініць у гаёчку» на словы Міхася Васілька і «Касец» на словы Максіма Танка.

«Гэта быў першы выпадак, калі вершы паэтаў Заходняй Беларусі былі пакладзеныя на музыку», — пісаў часопіс «Летапіс Таварыства беларускае школы» (1936, №1–3). Гэтыя песні выконваў хор Рыгора Шырмы. «Марш маладых» атрымаўся па характару сапраўдным маршамгімнам моладзі. А песня «Касец» — магутным маршам працы, які кідае «сталёвыя ўдаль адгалосы». Песня «То не пчолка звініць у гаёчку» атрымалася цудоўнай мініяцюрнай сімфоніяй. Калі яна выконвалася, на фоне хору Шырмы без слоў выступала дзяўчына, якую госця-вясна галубіла шэптам дубравы, асыпала пяшчотамі сонца, а таксама ветрыкам варушыла валасы. Усе гэтыя тры песні тады былі вытрыманы ў беларускім народным характары.

Канстанцін Галкоўскі пры жыцці напісаў вялікую працу — беларускую оперу паводле паэмы Якуба Коласа «Сымонмузыка». Калі ён яе даслаў у Саюз кампазітараў Беларусі, яму паведамілі, што трэба пісаць пра перамогу і подзвігі партызан у гады Другой сусветнай вайны, а не оперы па творчасці Коласа.

Дарэчы, падчас вайны кампазітар жыў у акупаванай немцамі Вільні. Ён працаваў у Віленскай беларускай гімназіі, выкладаў гісторыю музыкі. Немцы яго не чапалі, а пасля вайны Галкоўскага абмінулі і рэпрэсіі. У 1945 годзе ён стаў заслужаным дзеячам мастацтва Літвы, праз два гады — прафесарам, а ў 1955 годзе — народным артыстам Літвы. Рыгор Шырма падлічыў, што Канстанцінам Галкоўскім зробленае ў галіне беларускай народнай музыкі выглядае так: дзіцячых і жаночых хораў — 14, змешаных, невялікіх — 22, вялікіх — 12, мужчынскіх — 2, дзве сольныя песні з акампанементам фартэпіяна і, апрача таго, дзве народныя сюіты «Дуда» і «Каханне», з якіх кожная пры выкананні хорам займае па паўгадзіны часу. І ім напісаны дзясяткі песень на словы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Танка, Змітрака Бядулі, Канстанцыі Буйло, Міхася Машары, Міхася Васілька і іншых паэтаў.

Памёр кампазітар 20 лютага 1963 года. На магіле і на мемарыяльнай шыльдзе на доме, дзе ён жыў, напісана на літоўскай і рускай мовах. І нідзе не прыгадваецца, што Канстанцін Галкоўскі быў беларусам і беларускім кампазітарам… Галіна Войцік і Лявон Луцкевіч пішуць, нібы «па вайне Канстанцін Галкоўскі не меў нікога блізкага ў беларускім асяроддзі Вільні…» Гэта не так. Тыя са старэйшых беларусаў, хто жыў у Вільні і не быў рэпрэсаваны, з ім кантактавалі. З Беларусі часта да яго заязджалі Максім Танк, Рыгор Шырма. У 1959 годзе ў яго гасціў беларускі пісьменнік і перакладчык Алесь Траяноўскі. Ён і зрабіў гэты фотаздымак Галкоўскага, які сёння друкуецца ўпершыню. А мне яго да матэрыялу перадаў пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік, за што я яму вельмі ўдзячны.


Канстанцін Галкоўскі, 1959 г. З архіва аўтара, публікуецца ўпершыню

▸ РАЗВАЖАННІ

# ВЫЙСЦЕ З АЎТАРЫТАРНАГА КАРНАВАЛУ

Андрэй РАСІНСКІ

**Што не так у Беларусі? Кажуць пра падмарожаную палітыку і пра эканоміку, ад якой месцічаў трасе, як у ліхаманцы. Гавораць пра разгубленую культуру і мыслярства, што заблукала. Нехта ўзгадае надвор'е. Я скажу, што ў Беларусі нешта не так з карнавалам.**

Мы прызвычаіліся бачыць карнавал на вуліцах Рыа-дэ-Жанейра — і на плошчах еўрапейскіх парадоў. Перад Вялікім Постам людзі — на апошняе — аб'ядаліся і абпіваліся. Ва ўсходняй традыцыі адпаведны карнавал — Масленіца — суправаджаўся блінамі.

Але карнавал — з'ява значна шырэйшая. Міхаіл Бахцін — філосаф, які некаторы час жыў у Віцебску, лічыў карнавал увасабленнем народнай смехавой культуры. На карнавале смяецца ўвесь свет, смяецца з усяго, і людзі смяюцца з саміх сябе. Карнавал — гэта гратэск, фамільярнасць і парушэнне межаў: цела ходзіць колам, галава замест заду, а зад — замест галавы. Рот разяўлены, нос тырчыць, цыцкі па тры пуды, шэсце масак. Карнавал — гэта ўрачыста-пацешнае свята дурняў, перакульванне дагары нагамі ўладнай іерархіі, калектыўная тэрапія народа смехам.

Здаецца, у Беларусі такі карнавал маецца. Грубыя анекдоты і жарты пра ўладатрымальнікаў квітнелі ў сярэдзіне 1990-х гадоў. Паэт Славамір Адамовіч склаў гратэскны здзеклівы верш, а мастак Алесь Пушкін вывозіў да Адміністрацыі прэзідэнта вазок з гноем — нізкая субстанцыя ў перфомансе для вярхоў.

У 2001 годзе па Мінску бегаў небарака ў масцы лыжніка — з лыжамі па асфальце, за ім ганяліся апранутыя медсястрычкамі маладзіцы, а за «доктаркамі» — міліцыя (уніформа — свая). Анархісцкая група «Навінкі» палохала людзей у пінжаках аднайменнай непрычасанай газетай, дзе на арэхі даставалася ўсім — і выпусціла калажна-хуліганскія фільмы «Случай з пацаном» і «Гуд бай, Бацька!» (Праект «Толькі мёртвыя нічога не баяцца» застаўся ў чарнавіках, але ў гэтай зомбі-карціне паважаныя людзі — філосаф Валянцін Акудовіч і мастак Адам Глобус — сышлі з п'едэсталу, каб сыграць санітараў трупярні).




Але неўзабаве жарты сцішыліся, анекдоты пазнікалі. І справа не толькі ў тым, што за жарты цяпер пагражаюць турэмныя тэрміны; некаторыя з абсмяяльнікаў выраслі, а некаторыя — уцяклі. Карнавал, што смяецца з улады, спрацаваў у каляровых рэвалюцыях і чамусьці не спрацаваў у Беларусі з іншай важкай прычыны.

Смехавы супраціў сутыкнуўся з другім карнавалам — аўтарытарным. Бахцін лічыў, што смех і аўтарытарызм ёсць рэчы несумяшчальныя. Але, як удакладніў Сяргей Аверынцаў, аўтарытарны смех рагоча з ахвяраў; непрыстойна кпіць з тых, каго валіць і б'е.

Падчас Французскае рэвалюцыі санкюлоты агалялі манахіняў і лупцавалі іх; падобнае рабілі рэспубліканцы ў Іспаніі. Пасля Кастрычніцкага перавароту камсамольцы гадзілі ў храмах, а італьянскія фашысты «прачышчалі мазгі» дысідэнтаў, прымушаючы злоўленых піць рыцыну.

Рэжым у Беларусі — гэта суцэльны аўтарытарны карнавал. Калі на «Славянскім базары» трансвестытка Верка Сярдзючка скача разам з уладнай вертыкаллю — гэта карнавал. На Дажынках сэксапільны трактар заляцаецца да БРСМаўкі — і гэта значна болей, чым проста гратэск (трэшавыя фатаграфіі распаўсюджваюцца). Акадэмік Рубінаў выдае дзікія вершы пра «туалецішча», а старшыня Рэспубліканскага савета па маралі славіцца кнігай пра сэксуальныя тайны.

Аўтарытарны карнавал парушае і касуе нормы ды правілы. Ён фамільярны і лезе ва ўсё. Як маскоўскі тыран — у рэдкай, абвостранай стадыі Івана Жахлівага, — ён усталёўвае абсалютную ўладу, не абмежаваную і блазнамі. Цар мусіць быць усім — нават клоунам.

Межы знішчаюцца. Пасля кожнай высокай прэс-канферэнцыі вольныя каментатары з радасцю і добраахвотна распаўсюджваюць усялякія ляпы, што чулі, перажоўваюць і цытуюць іх. Ёсцека і рух адваротны.

У 2010 годзе іранічная алкабугі прыпеўка групы «Рокер-Джокер» атрымала высокую трыбуну. Песня «Саня застанецца з намі» гучала з усіх тэлевізараў — і была выкананая (гламурнейшымі акцёрамі) на ўрачыстым канцэрце. Праз пару месяцаў, калі надыходзіў эканамічны калапс, «Рокер-Джокер» выпусціў песеньку на той жа навязлівы музычны матыў, але з удакладненымі словамі: «Опа-опа, нам всем приснится жопа!» Адпаведная частка цела зрабіла карнавальны кульбіт, на вяршыні сваёй кар'еры праспяваўшы гімн прэзідэнцкай кампаніі.

Няможна перамагчы аўтарытарны карнавал карнавальнымі жартамі. Дык няхай мёртвы карнавал корпаецца ў паджыўленай імперскай спарахнеласці ды вісkліва крычыць, што жывыя сканалі. Пакінем яго сам-насам.

У карнавальных скачках і мітрэнгах мы закруцілі галаву; зусім забыліся пра святло, што падае зверху.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 364

Падпісана да друку 29.03.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча